


Беларускі інстытут навукі й мастацтва




**Бібліятэка Бацькаўшчыны**

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Кніга 30

# КАНТАКТЫ:
## СІЛА ПРЫЦЯГНЕННЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

(Да 90-годдзя Янкі Запрудніка)

Аўтары-ўкладальнікі
*Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч*

Мінск
«Кнігазбор»
2016

УДК [325.2+94](476)(092)+929 Запруднік
ББК 63.3(4Беи)
К19

*Серыя «Бібліятэка Бацькаўшчыны»*
*заснавана МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”» ў 2004 годзе*

Кніга выдаецца сумесна з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (Нью-Ёрк, ЗША).

**Кантакты** : Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны (Да 90-годдзя
К19 Янкі Запрудніка) / укл. Н. Гардзіенка, Л. Юрэвіч. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 280 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 30).

ISBN 978-985-7144-46-4.

Кніга «Кантакты: сіла прыцягнення Бацькаўшчыны» — 30-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» — прысвечаная 90-годдзю беларускага дзеяча ў ЗША, гісторыка і журналіста Янкі Запрудніка. Выданне заснаванае на архівах юбіляра, што захоўваюцца ў БІНіМе (ЗША) і БДАМЛМ (Беларусь), а таксама зборах газеты «Беларус». Тут падаецца зрэз, асобныя ўзроўні, на якіх адбываліся кантакты паміж дыяспарай і метраполіяй: ад праваабарончай дзейнасці да пошуку сваякоў, ад афіцыйных лістоў кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь да рукапіснага аркуша з маленькай вёсачкі на ўсходзе краіны. Сабраныя разам матэрыялы адлюстроўваюць, чым жыла Беларусь, як змянялася яна ў часе і змянялася стаўленне да эміграцыі.

**УДК [325.2+94](476)(092)+929 Запруднік**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7144-46-4**

## БРАМНІК

Колькі на этапах іх перажылося!
Гэткіх цяжкіх… проста да зьнямогі.
Зь вераю, што зыйдуцца дарогі,
Мы разьвіталіся, гэтак бо прыйшлося…

*Сяргей Ясень. Яшчэ адно*

Гэтая кніга — не даследаванне. Гэта кніга для чытання і самастойнага думання. Яна пра тыя кантакты — часам прыпадковыя, часам сталыя, калі-нікалі — асабістыя, а калі і выняткова лістоўныя, «кніжныя», — што былі паміж метраполіяй і дыяспарай яшчэ да таго, як гэта сталася бяспечна, і тыя, што пачалі ўсталёўвацца ад пачатку 1990-х.

Пераважна матэрыялам, за асобнымі выняткамі, слугавалі чатыры крыніцы: асабісты эпісталярны архіў Янкі Запрудніка, архіў газеты «Беларус», публікацыі самой газеты і матэрыялы Радыё «Свабода». Гэтыя чатыры крыніцы скрыжоўваюцца ў адным імені — самога Янкі Запрудніка. А калі дадаць другасныя крыніцы, такія як архіў Беларускага інстытута навукі і мастацтва, паперы Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага — і там, і там ён таксама дзейны сябра, — можна цалкам сур'ёзна сцвярджаць, што гэты гісторык, публіцыст, грамадскі дзеяч быў і паслом ад эміграцыі ў Беларусь і вольны свет, той брамаю, праз якую ствараліся і, што галоўнае, падтрымоўваліся кантакты.

У кнігах як непасрэдна Янкі Запрудніка (маюцца на ўвазе «Дванаццатка»[1] і «Лісты»[2]), гэтак і наогул у даволі ёмістай на

---

[1] Запруднік, Янка. Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946–1954 гг.). Нью Ёрк, 2002. — 510 с.

[2] Запруднік, Янка. Па гарачых слядах мінуўшчыны: Мае лісты 1952–1959 гг. Унівэрсітэт у Бельгіі, газета «Бацькаўшчына», радыё «Вы-

сёння ўжо бібліятэцы эміграцыязнаўства, хоць і з ці малымі белымі плямамі, пра Беларусь толькі *ўспамінаецца*, а *расказваецца* пра стваральнае жыццё выгнанцаў: пра заснаванне арганізацый, выданне газет, кніг, пра імпрэзы, святкаванні, выставы, мітынгі. І хоць плён тых паваенных гадоў, а потым — халоднай вайны, а за імі — перабудовачных увасоблены ў асэнсаванні спадчыны Францыска Скарыны ды Янкі Купалы, творчасці Наталлі Арсенневай і Уладзіміра Дудзіцкага, Янкі Юхнаўца і Юркі Віцьбіча, у такіх назовах, як «Бацькаўшчына» і «Беларус», найменнях Радыё «Свабода» і мюнхенскага Інстытута вывучэння СССР — той плён, які не могуць паставіць пад сумнеў найбольшыя нашыя нядобразычліўцы, усё ж тое было не самамэтаю, не рух дзеля руху. Час выдаткоўваўся, адрываўся — ад справаў сямейных, ад адпачынковага ці заробкавага — на беларускую справу. Дзеля Беларусі. На Беларусь.

Мо каму падасца гэта залішне пафасным, але інакш і не скажаш: учарашнія ўцекачы рабілі справу, якую вызнавалі для сябе святой. Дзеля яе яны ахвяравалі свой вольны час, грошы, саміх сябе. Вось чаго былі яны сапраўды пазбаўленыя, дык гэта адваротнай рэакцыі, ведання, што іх чуюць, чытаюць, усведамлення, што было зроблена добра, а што, магчыма, на шкоду. Яны былі пазбаўленыя голасу з Беларусі.

Гэтая кніга ў пэўнай ступені паклікана кампенсаваць адну з белых плямаў і расказаць пра кантакты метраполіі з эміграцыяй. Толькі хіба ахопіш усё?! Як разарваныя па жывым сем’і намагаліся злучыцца, не ведаючы, у які бок кідацца; як паважныя навукоўцы палявалі ў пошуках літаратуры, а знайшоўшы, шукалі шляхі ўвесці тое ў навуковы ўжытак — хто дзеля Скарынавай славы, а хто дзеля славы ўласнай. Як сябры Прэзідыуму Рады БНР намацвалі сувязі з партызанкаю, іншадумцамі, а атрымаўшы весткі «адтуль», губляліся ў здагадках: ці праўда тое? Ці не правакацыя? Нават калі лісты былі ад даваенных знаёмцаў і паплечнікаў.

---

зваленне / Свабода» ў Мюнхене і Нью-Ёрку / рэд. і прадм. В. Трыгубовіч. Мінск: Лімарыус, 2015. — 572 с.: іл.

Былі і афіцыйныя візіты з Беларусі. Вітаўт Кіпель ва ўспамінах «Жыць і дзеіць» згадвае:

*«Адна сустрэча — дакладней, гутарка пры сустрэчы — была надзвычайная, проста незабыўная. Быў у Нью Ёрку ў складзе дэлегацыі БССР прафэсар БДУ Васілёнак, чалавек сярэдняга росту, бландзіністы, знаў літаратуру. Дарэчы, як ведама, у складзе дэлегацыі БССР на Генэральнай асамблеі ААН заўсёды былі прадстаўнікі культурнай сфэры. Васілёнак прыйшоў у бібліятэку папаўдні, зайшоў проста да мяне, мы доўга гаварылі пра літаратуру, ён глядзеў картатэкі, нешта выпісваў. Пасьля Васілёнак кажа: “Я запрашаю на вячэру”. Я пытаюся, ці можна я запрашу свайго сябра, Янку Запрудніка? “О, так, клічце, калі ласка!”. Я заўсёды Янку клікаў, бо ён працаваў у радыё, і яму такія сустрэчы былі таксама цікавыя.*

*Вельмі яскрава, выразна да дэталяў стаіць у памяці такое: мы выходзім зь бібліятэкі на 5-ае авэню, там, дзе калёны, шарэе, гэта было восеньню – ён, з аднаго боку, з другога Запруднік. І тут Васілёнак спыняецца і кажа: “Хлопцы, выбачайце, у мяне ёсьць адна справа, і я б хацеў яе хутка вырашыць, бо я мушу вырашыць”. Да таго быў вельмі прыязны і прыемны, а тут раптам напружыўся. Я дык падумаў – ну, нешта пачне пытацца пра радню, я ўжо такое знаю, і гэта непрыемна. А ён сур’ёзна кажа: “У нас шукаюць – ці ня чулі вы пра эмігранта Сяргея Вільчыцкага? Пад якім ён цяпер прозьвішчам, ніхто ня ведае. Дзе ён можа быць?”. Мы з Запруднікам (Сяргеем Вільчыцкім!) замёрлі. Я перапытваю: “Як, кажаце, прозьвішча?”. “Вільчыцкі. Ён недзе з-пад Міра, і яго даўно шукаюць”. Я кажу: “Хто, літаратары?”. “Не, не літаратары. Ну, нехта цікавіцца, і мяне папрасілі, каб я з вамі пагаварыў пра гэта”. Я так на Запрудніка гляджу і кажу: “Я такога ніколі ня чуў на эміграцыі”. Запруднік кажа: “Ну, калі ты ня чуў — а ты езьдзіш паўсюль, маеш дачыненьні зь людзьмі, то што я буду ведаць, седзячы ў кабінэце!”. Васілёнак кажа: “Ну, хлопцы, усё ў парадку, я спытаўся — зрабіў тое, што мне трэба. Цяпер пойдзем на вячэру”. І мы пайшлі на вячэру.*

*Ня ведаю, як мы з Запруднікам стрымаліся, каб ня выдаць, што прозьвішча Вільчыцкі нам ведамае — мы не былі падрыхтаваныя да такога пытаньня, маглі зрэагаваць інакш, ухмыльнуцца, і Васілёнак мог бы адчуць, што мы нешта ведаем. Але мы ўбачылі, што ён прыняў нашы словы за чыстую манэту.*

*У тым часе яшчэ жыла Запруднікава маці, і ён падазраваў, што менскія "органы" хацелі праз маці яго выцягнуць. Яны шукалі — хто такі Вільчыцкі, і мы дапушчалі: КДБ падазравала, што Запруднік і Вільчыцкі — той самы чалавек, але шукалі пацьверджаньня. І таму даручылі прафэсару менскага ўнівэрсытэту запытацца Кіпеля, бо ён, можа, будзе ведаць і пацьвердзіць. Слоў няма — Вільчыцкі для КДБ быў патрэбны»*[3].

Час ішоў, мяняўся, а з ім мяняўся і характар кантактаў паміж Бацькаўшчынай і эміграцыяй. Усё болей і болей прыходзіла ў рэдакцыю газеты «Беларус» лістоў ад простых грамадзянаў, незаангажаваных ні ў беларускія справы, ні ў палітыку: ад знаёмых, ад завочназнаёмых — калегаў: гісторыкаў, пісьменнікаў, выдаўцоў, — ад невядомых, хто выпадкам пачуў ці прачытаў нумар газеты.

Пісалі пра рознае: прасілі грошай, прасілі дапамагчы выехаць у ЗША, пыталіся, як аформіць падпіску, як можна атрымаць эміграцыйныя выданні, агучвалі бізнес-праекты, дзякавалі за выкананае, дасланае. Зразумела, болей прасілі, як прапаноўвалі. Але за тымі лістамі стаялі лёсы, кожны — па-свойму ўнікальны, але наколькі, разам з тым, характэрны для гісторыі краіны. І што цікава: пераважная большасць пісала па-беларуску. Хай з памылкамі, але, жывучы ў бадай ушчэнт зрусіфікаванай краіне, да эміграцыі звярталіся ў роднай мове.

Так і атрымалася: на адным канцы — Беларусь, на другім — «кабінетны» Янка Запруднік. Прачытаць кожны ліст, на адзін — адпісаць, другі — падрыхтаваць да друку ў газеце, на падставе трэцяга — арганізаваць праваабарончую акцыю, на чацвёрты — зрабіць адбітку артыкула ці адшукаць і запакаваць прошаную кнігу.

---

[3] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. Успаміны. Мінск, 2015. С. 273–274.

Можна толькі здагадвацца, на колькі болей свайго — гістарычнага, публіцыстычнага — напісаў бы гэты нястомны працаўнік, каб не нутраная патрэба і вычуццё абавязку падтрымліваць тыя кволыя, але такія важныя кантакты. Важныя для абодвух бакоў.

На старонках гэтай кнігі, натуральна, немагчыма ўмясціць усё датычнае тэмы. Тут падаецца толькі зрэз, толькі асобныя ўзроўні, на якіх адбывалася кантактаванне: ад праваабарончай дзейнасці да пошукаў сваякоў, ад афіцыйных лістоў кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь да рукапіснага аркушыка з маленькай вёсачкі на ўсходзе краіны. Але разам яны адлюстроўваюць, як, чым жыла Беларусь, як мянялася яна ў часе і як мянялася ўспрыманне эміграцыі.

# ПРАВААБАРОНЧАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

Заяўленая ў назве тэма да сённяшняга часу не толькі не вывучалася, але і фактычна не агучвалася[4]. Вытлумачыць тое можна было б мізэрнай колькасцю даследчыкаў любой дзейнасці беларускай эміграцыі наогул, але, напэўна, у гэтым выпадку — і насцярожаным стаўленнем да праваабароны як сферы дзейнасці ва ўмовах эміграцыі, яе эфектыўнасці. (Тут варта адцеміць, што ў бадай усёахопнай кнізе Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША»[5] пра такую дзялянку не згадваецца зусім.)

З іншага боку, немагчыма абысці той факт, што «Універсальная дэкларацыя правоў чалавека» на беларускую мову ўпершыню была перакладзеная менавіта на эміграцыі — Янам Пятроўскім[6].

У пэўнай ступені згаданую няўвагу можна патлумачыць таксама тым, што праваабарончая дзейнасць эміграцыі — «абарончая» ў шырокім сэнсе — была скіраваная найперш на абарону права беларускага народу на незалежнасць і свабоду, мову, а вось у вузкім сэнсе гэтай дзейнасці на эміграцыі было вельмі мала, бо на Захад мала трапляла вестак пра яе з Беларусі, дзе ў асноўным яна была падпольная, малавядомая нават для саміх жыхароў краіны.

Пра гэта, як і наогул пра дысідэнцтва, пісаў ва ўкраінскім эміграцыйным (на той час) часопісе «Сучасність» Янка Запру-

---

[4] Як вынятак, можна назваць хіба два раздзелы «ЗБВБ і барацьба за правы беларусаў» і «ЗБВБ і вызваленьне Міхася Кукабакі» ў кнізе Наталлі Гардзіенкі «Беларусы ў Вялікабрытаніі» (Мінск, 2010).

[5] Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Мінск, 1993. 348 с.

[6] Першы машынапіс перакладу, адбіты ў колькасці 100 асобнікаў, з’явіўся ў 1981 г.

днік, фармулюючы вельмі важныя, нават на сёння, больш як трыццаць гадоў пасля публікацыі, думкі.

*Напачатку, каротка, пра тэрміналогію: дысідэнцтва — ці іншадумства; дысідэнты — ці іншадумцы? Аргументы тут аднолькавыя і для беларускай і для ўкраінскай мовы.*

*«Дысідэнт» — неадпаведны й нават шкодны тэрмін, бо этымалогія тут працуе на кампартыю. Этымалагічна невыразнае слова «дысідэнт» набыло ў варожым кантэксце партыйнай прапаганды негатыўнае значэнне. «Дысідэнт» ужо і выглядам самога слова, і гучаннем яго выклікае ў псіхіцы савецкага чытача і слухача, калі ён лаяльны да свайго рэжыму, аўтаматычную асацыяцыю «дысідэнтаў» з «дыверсантамі». Нездарма ж партыйная прапагадна ўжывае выключна гэтае азначэнне.*

*Народная, ці мо лепей сказаць тут — нацыянальная, словатворчасць стварыла на яго месца абаронна-тлумачальны тэрмін: іншадумства, іншадумцы. І тут ужо нікому не трэба тлумачыць, што «інша-» тут датычыцца да кампартыі, якая забрала сабе прывілей і адказнасць думаць за усіх разам і за кожнага паасобку. «Інша», акром таго, мае неўтральны характар. Думаць «інакш» — не значыць абавязкова думаць не па-савецку ці варожа-антысавецка, тады як партыя дамагаецца, каб у кожным з «дысідэнтаў» савецкі грамадзянін убачыў ворага савецкага ладу.*

*Хоць праз Беларусь, якую часам называюць «заходняй брамаю» Савецкага Саюзу, ездзіць нямала замежных наведвальнікаў па дарозе да Масквы і назад, усё ж такі пра падзеі і настроі ў Менску і Беларусі — пра тое, пра што савецкая прэса не напіша — даходзіць параўнальна мала вестак, а друкаваных матэрыялаў — яшчэ меней. Для тых, хто едзе з Заходняй Еўропы у СССР цягніком або машынаю, Менск ёсць пераважна транзітным горадам, а для тых, што прылятаюць самалётам або прыплываюць на караблі, — правінцыйным. Турыстычныя маршруты заходніх авіякампаній яго не закранаюць. Ушчэнт зруйнаваны ў час апошняй вайны, горад, хай і адбудаваны, і*

*дынамічна расце, з насельніцтвам, якое за некалькі гадоў дасягне паўтара мільёна, ён не адзначаецца гістарычнымі архітэктурнымі помнікамі. Няма ў ім ні замежных амбасадаў, ні кансулатаў, ні прадстаўніцтваў заходняй прэсы. Калі сталіца Беларусі дачакаецца, пасля Кіева, заснавання амерыканскага кансулата, яшчэ невядома*[7]*. Кантактам Менска з знешнім светам не спрые яшчэ і тое, што трэцяя частка тэрыторыі Беларусі пакрыта лясамі, дзе размешчаныя савецкія ракетныя войскі. Гэтая акалічнасць дадаткова згушчае атмасферу паліцэйскай ды цэнзурнай падазронасці і ставіць бар'ер — фізічны і псіхалагічны — для праяваў іншадумства.*

*Зразумець стан рэчаў у Беларусі дапамагае выказванне ленінградскага паэта і пісьменніка Васіля Бетакі*[8]*. Напрыканцы мінулага году ён, выступаючы ў рускай праграме радыё «Свабода», так патлумачыў складанасці Ленінграда, у параўнанні з якімі складанасці беларускай сталіцы куды большыя:*

*«Не раз тут — у Парыжы ці Лондане — мяне пытаюць: а што ж у Ленінградзе не чуваць ні пра якіх дысідэнтаў, чаму маўчаць? Тлумачыцца тое вельмі проста — у Маскве магчыма наяўнасць, прылюднасць, там багата замежных карэспандэнтаў, сярод якіх хай і не ўсе, але найшчырэйшыя і найсумленнейшыя неяк дапамогуць, перададуць інфармацыю пра чарговую акцыю пратэсту, зробяць публічна вядомым кожны крок гэтай глухой і няроўнай барацьбы. А ў Піцеры [Ленінградзе] хоць які*

---

[7] Відаць, упершыню ідэя адкрыцця амерыканскіх амбасадаў у Мінску і Кіеве была агучана на пачатку 1950-х гг. у праекце амерыканскага кангрэсмена-рэспубліканца з Вісконсіна **Лорэнса Сміта** (анг. *Lawrence Henry Smith*, 1892–1958) па ўстанаўленні дыпламатычных дачыненняў ЗША з БССР і УССР, каб спрыяць вызваленню беларускага і ўкраінскага народаў ад маскоўскай залежнасці. Праект быў вядомы як «Рэзалюцыя 58», аднак так і не быў рэалізаваны. Пазней гэтая ідэя неаднаразова агучвалася ў палітычных колах ЗША, але так і не была ажыццёўленая, пакуль існаваў СССР.

[8] **Васіль Бетакі** (рус. *Василий Бетаки*, 1930–2013), рускі паэт, перакладчык, літаратурны крытык. Ад 1973 г. ён жыў у Францыі. Цягам 20 гадоў працаваў на Радыё «Свабода» ды каля 18 гадоў у часопісе «Континент».

*адкрыты выступ прывядзе да бязглуздых ахвяраў — і ніхто не даведаецца. Усё — як да глухога муру».*

*З-за «глухога муру», якім агароджана Беларусь, усё ж такі даходзіць інфармацыя пра іншадумства, хоць і спознена, хоць і не заўсёды ў больш аб'ектыўнай пісьмовай форме, а ў вусных пераказах. Так, напрыклад, толькі праз восем гадоў, у 1971 годзе, сталася вядома на Захадзе пра арышт у 1963 годзе студэнта Беларускага політэхнічнага інстытута Сяргея Ханжанкова (1942 году нараджэння), засуджанага на 10 гадоў за спробу стварыць антысавецкую арганізацыю і падрыхтоўку дыверсійнага акта*[9].

*Толькі сёлета дайшла да Нью-Ёрку, прывезеная нядаўнім менскім інжынерам (прозвішча якога тут нельга падаць, бо дома засталіся сваякі), вестка пра дзве тысячы подпісаў студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 1970 годзе пад петыцыяй, каб выкладанне ў БДУ было на беларускай мове. Гэты подых «Менскай вясны» скончыўся тым, што некалькі соцен студэнтаў было выкінута з універсітэту, а ў камсамольскай арганізацыі праведзеныя адпаведныя палітычныя тлумачэнні, і ўвесь інцыдэнт са зборам подпісаў аднесены да катэгорыі «хуліганскіх выхадак».*

*Пра спробу ў 1974 годзе групы менскіх вучняў старэйшых клясаў сярэдняй школы і аднаго студэнта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта стварыць арганізацыю моладзі замест прасякнутага фальшам і нудою камсамола, пра расклееныя ініцыятарамі гэтай задумы на сценах будынкаў улёткі з статутам сваёй арганізацыі, пра далучэнне да гэтай справы органаў КДБ, суд за зачыненымі дзвярыма над ініцыятарамі, звальненне*

---

[9] **Сяргей Ханжанкоў** (1942–2016) нарадзіўся ў лагерным пасёлку ў Магаданскай вобласці ў сям'і рэпрэсаваных. У 1955 г. разам з бацькамі пасяліўся ў Мінску, дзе скончыў школу і паступіў у Політэхнічны інстытут. У 1963 г. ён стварыў антысавецкую групу, якая мела намер узарваць радыёвышку ў цэнтры Мінска, якая глушыла сігналы замежных радыёстанцый. Быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў па абвінавачанні ў антысавецкай дзейнасці, стварэнні антысавецкай арганізацыі і дыверсіі. Тэрмін адбываў у Дуброўлагу Мардоўскай АССР. Пасля вызвалення жыў у Мінску.

*іх з школы, а бацькоў — з працы і з партыі, нядаўна расказаў у Нью-Ёрку былы менскі следчы А. Р.*

*Аляксандар Гідоні*[10]*, сённяшні рэдактар выдаванага ў Таронта, Канада, літаратурна-грамадскага часопіса «Современник», так сведчыць пра настроі ў Беларусі, непасрэдным сведкам якіх ён быў падчас сваіх падарожжаў у першай палове 1970-х гадоў да Менска, Гародні, Магілёва і некаторых вясковых мясцовасцяў, дзе меў нагоду размаўляць з прадстаўнікамі творчай беларускай інтэлігенцыі:*

*«Атмасфера такіх размоваў часта характарызавалася тым крытычным настроем супраць савецкай улады, які тыповы і для інтэлігенцкіх колаў Масквы і Ленінграда. Але, безумоўна, адметнаю іх асаблівасцю быў тыповы “беларускі момант”: тэма магчымай незалежнасці беларускага мастацтва і навуковай творчасці ва ўмовах усеагульнай савецкай цэнзуры і спецыфічнай “русіфікацыі”».*

*А. Гідоні катэгарычна сцвярджае, што “ў беларускай інтэлігенцыі абудзілася нацыянальнае пачуццё”.*

*Іншадумства ў Беларусі – з’явішча яшчэ не даследаванае, і нават не задакументаванае як мае быць, не сабраны ў адным выданні той невялікі матэрыял, які быў надрукаваны апошнімі двума дзесяцігоддзямі ў беларускай нацыянальнай прэсе, у савецкай прэсе (асабліва пра суды над вернікамі), а таксама ў такім самвыдаце, як «Хроника текущих событий»*[11]*, і, магчыма, ва «Украïнськом віснику»*[12]*, у «Матэрыялах самвыдата»*[13] *радыё*

---

[10] Адмысловы тэкст пра Аляксандра Гідоні ў кнізе далей.

[11] ***«Хроника текущих событий»*** — першы непадцэнзурны праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь у СССР. Выходзіў у 1968–1983 гг. і распаўсюджваўся праз самвыдат.

[12] ***«Український вісник»*** — падцэнзурны самвыдатаўскі грамадскапалітычны часопіс, што выходзіў у Львове ў 1970–1972 гг., а пазней у Львове — Кіеве ў 1987–1989 гг. пад рэдакцыяй Вячаслава Чарнавіла.

[13] ***«Материалы самиздата»*** — бюлетэнь, які выдаваўся на Радыё «Свабода» на падставе збірання непадцэнзурных тэкстаў з СССР ад пачатку 1970-х гг. да 1992 г.

*«Свабода» ды іншых дакументальных і мемуарных выданнях, якіх багата з'явілася на Захадзе*[14].

Менавіта Янка Запруднік, тагачасны рэдактар газэты «Беларус» супольна з Алексам Сільвановічам ініцыявалі заснаванне спачатку «Камітэта вязняў сумлення ў Беларусі», а пазней — «Кааліцыі ў абарону дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі» — арганізацыі, сам факт існавання якой, як і яе дзейнасць, застаецца невядомай даследчыкам эміграцыі. Сустаршынямі былі Янка Запруднік і Алекс Сільвановіч, у Раду ўваходзілі таксама Ала Орса-Рамана, Галіна Русак, Уладыка Мікалай (Мацукевіч), Вера Бартуль, Мікола Ганько, Якаў Гудман, Міхась Каленік, Вітаўт Кіпель, Кастусь Мерляк, Вітаўт Рамук, Антон Шукелойць, Міхась Тулейка, Вера Запруднік, Расьціслаў Завістовіч і Раіса Жук-Грышкевіч.

Галоўнымі задачамі арганізацыі былі: збор звестак пра іншадумцаў і іх перaслед у Беларусі ды пашырэнне такой інфармацыі ў Амерыцы. Крыніцы падобных звестак Янка Запруднік збольшага акрэсліў. Так, у «Материалах самиздата», № 19, 1987 г. паведамлялася пра лёс Міхася Тараховіча: *«Тарахович Михаил (Антонович?). Белорус. Старик, "за войну". В 1944 попал в плен. Их группу повели в баню. Когда вывели, вместо их одежды лежала только немецкая форма. Пришлось одеть. Через 16 дней (!) бежал в сов. армию (или к партизанам?). Судил прокурор Белоруссии, который позднее (около 1985 г.) был официально пойман на создании дутого уголовного дела с расстрелом обвиняемых. Снят с должности. Этот же человек "обвинял" Тараховича и многих других. Согласно обвинению, принимал участие в массовых расстрелах в каком-то месте, где стоит (или стоял?) памятник, на котором высечено, что здесь лежат расстрелянные немцами в 1942–43 гг. Но в это время Тарахович находился в рядах сов. армии, что подтверждается всеми документами. Адвокат потребовал приобщения*

---

[14] Запруднік, Янка. Інакодумство в Білорусі // Сучасність. Ч. 7–8. Munchen, 1979. С. 158–161. Тут пададзены пераклад з украінскай, зроблены Лявонам Юрэвічам.

*фотографии памятника к делу. Суд (или прокурор) заявил, что на памятнике, стало быть, ошибка (!), (т. к. "преступление" Тараховича основывается на этом памятнике, а раз памятник противоречит этой версии, то тем хуже памятнику). Срок — 15 лет. Настоящие военные преступники ничего не говорят о "преступлениях" Тараховича, хотя, если хоть в чем-то человек виноват, всегда это подчеркивают друг про друга и раздувают. Работал на заводе, с мая 1985 г. переведен санитаром в больницу ИТУ-36 (насильно). Постоянно пытается отказаться от этой работы как неподобающей порядочному человеку. Видимо, все же выполняет мелкие поручения администрации (и КГБ?), но в целом честен. Прежде всего отличается умелым и тщательным выполнением своих обязанностей санитара, за что и ценится в известной мере как администрацией, так и з/к»* (Материалы самиздата. № 19. 1987. С. 4–5).

Часопіс «Smoloskyp[15]: a quarterly dealing with human rights affairs in Ukraine and Eastern Europe» таксама змяшчаў інфармацыю пра беларусаў: *«Vilchinskaya, Zinaida. Born June 26, 1931. Baptist, member of Council of Baptist Prisoner's Relatives; sentenced October 3, 1986 in Nalchik, to 2 years imprisonment for Christian activity»* (Smoloskyp. Spring 1987. P. 3).

Як слушна адзначыў Янка Запруднік, на Захад інфармацыя пра пераследы вернікаў даходзіла лепей, спраўней, як пра палітычных ці нацыянальных іншадумцаў: *«A report has reached Keston College that 61 year old Russian Orthodox priest Father Iosef Vasilievich Rinkevich[16] is in a poor state of health in Mogilyov*

---

[15] «***Smoloskyp***» (укр. *«Смолоскип»,* у перакладзе — Паходня) — украінскае выдавецтва, заснаванае ў Балтымары (ЗША) у 1967 г., якое спецыялізавалася на друку разнастайнай самвыдатаўскай і праваабарончай літаратуры. У тым ліку выдавала і англамоўны бюлетэнь «Smoloskyp: a quarterly dealing with human rights affairs in Ukraine and Eastern Europe». Ад 1992 г. дзейнічае ў Кіеве.

[16] **Іосіф Рынкевіч** (1925–2008), праваслаўны святар. Паходзіў з Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Вучыўся ў Маскоўскай духоўнай семінарыі. У 1957 г. быў рукапакладзены ў святарства і скіраваны настаяцелем у Свята-Пакроўскі малітоўны дом у Хойніках Гомельскай вобласці. Меў вялікую падтрымку прыхаджанаў, але ўвайшоў у канфлікт з свецкімі і царкоўнымі ўладамі. Быў адлучаны ад святарства, але пра-

*Special Psychhiatric Hospital in Belorussia. Nothing had been heard of Fr. Iosef (who has served six sentences previously, the first for «parasitism») since 1973, when it was presumed he was no longer imprisoned.*

*It now transpires that, after his six sentences, he lived in hidding in a dug-out under the home of one of his former parishoners, a lay-reader by the name of Mariya. Easter 1973, he was betrayed by a neighbour to the authorities and was arrested once more. This time, he was declared not responsible for his actions and was sent (with no professional examination) to a Special Psychiatric Hospital in the region of Gomel, Belorussia, known for its severe regulations. Mariya was also arrested and sentenced to three years' deprivation of liberty and forcibly placed into a psychiatric hospital where she died eight months later.*

*Fr. Iosef went on hunger-strike as a protest against not being able to observe rules of fasting. In response, the hospital officials started him on a «special course» of weekly injections which left him constantly fretful and restless. He was subjected to this «treatment» for the next three years, by the end of which he came close to death.*

*Despite the extremely poor conditions of his health and his terrible situation, it is reported that Fr. Iosef's faith is still firm and has not been shaken»* (Keston News Service[17]. № 281. August 6, 1987).

Натуральна, і газета «Беларус» па магчымасці інфармавала чытачоў і свет:

*Справа Аўгена Бузіньнікава*[18]. *Яшчэ адзін беларускі іншадумец. Паводля выдаваных радыям «Свабода» «Матарыялаў*

---

цягваў святарскую дзейнасць, у тым ліку і падпольна. За гэта ад пачатку 1960-х гг. неаднаразова арыштоўваўся і асуджаўся савецкімі ўладамі, пакуль у 1973 г. не быў змешчаны на прымусовае псіхіятрычнае лячэнне, на якім знаходзіўся цягам 15 гадоў. Па вызваленні працягнуў рэлігійную дзейнасць на Гомельшчыне.

[17] ***Keston News Service*** — перыёдык, прысвечаны пытанням рэлігійнага ўціску ў СССР і Усходняй Еўропе. Выдаваўся заснаваным у 1969 г. у Ёрку (Вялікабрытанія) Інстытутам Кестана (*Keston Institute*), што першапачаткова меў назву «Цэнтр па вывучэнні рэлігіі і камунізму».

[18] **Аўген Бузіннікаў** (1938–2010), жыхар Светлагорска, які быў у 1978 г. арыштаваны за антысавецкую дзейнасць, якая выяўлялася ў канта-

*Самвыдавецтва» (выпуск 36-78 з 27 кастрычніка 1978 г.), сёлета 18 травеня ў г. Сьветлагорску Гомельскае вобласьці быў арыштаваны Аўген Бузіньнікаў, 1938 году нараджэньня, работнік трэсту Запхімбудмантаж. Пра гэта падаецца ў ананімным дакумэньце пад загалоўкам «Справа Аўгена Бузіньнікава».*

*На кватэры Бузіньнікава паліцыя зрабілаператрус і забрала ягоныя асабістыя нататкі, лісты, запісныя кніжкі. Справу Бузіньнікава вядзе Гомельская абласная пракуратура. Улады абвінавачвалі Бузіньнікава спачатку ў антысавецкай агітацыі, а пасьля перакваліфікавалі абвінавачваньне на «пашырэньне выяўна хлусьлівых выдумак, што кампрамітуюць савецкі дзяржаўны й грамадзкі лад». Бузіньнікава трымаюць у абласной сьледчай турме Гомеля. Ад 20 да 30 чырвеня сёлета ён быў на псыхіятрычнай экспэртызе ў Гомельскай псыхіятрычнай бальніцы, але, як відаць, яго прызналі за здаровага.*

*У справе Бузіньнікава дапытвалі ягоных саслужыўцаў, работнікаў Брачэню й Майсеева, а таксама цётку ягоную З. Манкевіч. Бузіньнікаву ставіцца ў віну: а. ліставаньне зь іншадумцамі й падаваньне ў лістох да іх вестак, што зьнеслаўляюць савецкі лад; б. слуханьне замежных радыёперадачаў і пашырэньне іхнага зьместу; в. ягоная, быццам-бы, просьба перадрукаваць працу ўкраінскага іншадумца Міколы Рудэнкі*[19]*, паэты, заснавальніка ўкраінскага камітэту судзеяньня ўжыцьцяўленьню Гэльсынкаўскага пагадненьня, засуджанага сёлета на сем гадоў канцлягеру й пяць гадоў ссылкі.*

*Аўген Бузіньнікаў быў суджаны ўжо два разы. Першы раз — у 1956 годзе, у 18-гадовым веку, за спробу перайсьці дзяржаўную*

---

ктах з іншадумцамі, слуханні замежных радыёстанцый, распаўсюджанні звестак, што хлусліва паказваюць савецкі лад. Дагэтуль ён быў двойчы асуджаны, меў кантакты з Андрэем Сахаравым, Аляксандрам Гінзбургам, Віктарам Некіпелавым.

[19] **Мікола Рудэнка** (укр. *Микола Руденко,* 1920–2004), украінскі філосаф, пісьменнік, грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў і першы кіраўнік Украінскай Хельсінгскай групы. Быў асуджаны ў 1977 г. за «антысавецкую прапаганду і агітацыю». У 1987 г. пад ціскам грамадскасці вызвалены і з’ехаў за мяжу (у Нямеччыну, ЗША), дзе працаваў на Радыё «Свабода» і «Голас Амерыкі». У 1990 г. вярнуўся ва Украіну.

*мяжу ў раёне г. Батумі ў Грузіі. Быў ён засуджаны тады на тры гады. Па звальненьні жыў у г. Навачаркаску, працаваў грузчыкам.*

*У лютым 1966 году на кватэру Бузіньнікава зьявілася міліцыя, шукаючы, быццам-бы, крадзеных рэчаў. Паколькі ў іх ня быў афармлены ордэр на ператрус, Бузіньнікаў пачаў пратэставаць. Тады міліцыянеры накінуліся на яго й пачалі біць. Бузіньнікаў, баронячыся, схапіў паляўнічы тапорык ды выгнаў іх з хаты, лёгка параніўшы пры гэтым трох міліцыянераў. Ён быў засуджаны йзноў на 12 гадоў суровага лягернага рэжыму. На судзе адчуваўся палітычны ўхіл працэсу, паколькі пракурор трымаў увагу на выявах у Бузіньнікава буржуазнае ідэялёгіі.*

*У зьняволеньні Бузіньнікаў прабыў 9 гадоў, яго звольнілі 21 лютага 1976 году на просьбу аб дараваньні, пададзеную сваякамі. Апошнім часам ён жыў у Сьветлагорску, працуючы сьлёсарам-мантажнікам.*

*У студзені 1977 году Бузіньнікаў наведаў у Маскве Андрэя Сахарава*[20]*, ліставаўшыся зь ім раней. Пасьля гэтага органы КДБ наладзілі сачэньне за Бузіньнікавым, спынілі даваньне камандыровак у справах працы, ціраз выклікалі на абсьледваньне да псыхіятра.*

*Бузіньнікаў пісаў таксама лісты А. Гінзбургу*[21] *(цяпер зьняволенаму), В. Някіпелаву*[22] *(зь якім ліставаўся й Міхал Кукабака)*

---

[20] **Андрэй Сахараў** (рус. *Андрей Сахаров*, 1921–1989), савецкі фізік, праваабаронца, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру 1975 г. У 1980–1986 гг. знаходзіўся ў высылцы ў Горкім.

[21] **Аляксандр Гінзбург** (рус. *Александр Гинзбург*, 1936–2002), журналіст, выдавец, удзельнік праваабарончага руху ў СССР, стваральнік аднаго з першых альманахаў самвыдату «Синтаксис». Адзін з заснавальнікаў Маскоўскай Хельсінкскай групы. Некалькі разоў быў асуджаны за антысавецкую прапаганду. У 1979 г. вызвалены ў выніку перамоваў кіраўніцтва СССР і ЗША і адпраўлены разам з некалькімі іншымі палітзняволенымі на Захад па абмене. Жыў у ЗША, потым у Францыі. Супрацоўнічаў з газетай «Русская мысль».

[22] **Віктар Некіпелаў** (1928–1989), паэт, праваабаронца, удзельнік дысідэнцкага руху. Сябра Маскоўскай Хельсінкскай групы. У 1979 г. быў другі раз арыштаваны і асуджаны да 7 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў высылкі. У 1987 г. быў памілаваны і выехаў у Францыю, дзе і памёр.

*ды іншым. Відаць, гэтае ліставаньне, перахопленае КДБ, і ставіцца цяпер у віну Аўгену Бузіньнікаву.* (Беларус. № 259–260. Лістапад — сьнежань 1978. С. 2.)

*Заява беларускага іншадумца Івана Карэйшы.*

*Ад рэдакцыі: Ніжэй падаём у нашым перакладзе зьмешчаны ў выдаваных Радыястанцыяй «Свабода» «Материалах Самиздата» (выпуск № 33–79, 14 верасьня 1979 г.) матарыял самвыдавецтва № 3717 — заява Івана Карэйшы, калгасьніка ізь сяла Высокае Талачынскага раёну на Віцебшчыне ў Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету СССР.*

*У гэтай заяве-жальбе, як нідзе лепш, адлюстраваўся лябірынт савецкае бюракрацыі й бязвыходнасьць чалавека, калі ён трапляе ў канфлікт з уладаю. Заява Івана Карэйшы, датаваная 10 чырвенем 1979 году, трапіла на Захад з Масквы.*

*У жніўні 1974 году я быў выключаны з калгасу незаконна, з прычыны самаволі старшыні калгасу Грыгаровіча. У той-жа час ён звольніў мяне із займанай у калгасе пасады пажарніка. Я застаўся бяз працы. З гэнага часу я бяз выніку дабіваюся павароту ў калгас. Я хачу жыць у роднай вёсцы. Хачу працаваць.*

*Мае бацькі й бацькі маіх бацькоў радзіліся й жылі ў гэтай вёсцы. Калі арганізаваліся калгасы, яны ўступілі ў калгас. Бацька быў байцом Чырвонай Арміі (памёр на тыфус у 1944 г.). Маці ўвесь час працавала ў калгасе. Цяпер ёй 70 год, яна атрымлівае пэньсію (38 рублёў). З 12-ці год я працую ў калгасе. Дзеля таго, што я змушаны быў працаваць — нястача, я змог скончыць усяго пяць клясаў. Дванаццаць год (з 1950 да 1962) я пасьвіў калгасных кароў… Потым працаваў трактарыстам. Жылі тады ўпрогаладзь. Потым — з прычыны хваробы — мяне перавялі на больш лёгкую працу — калгасным пажарнікам. (У мяне цяжкая язьвенная хвароба; лекары далі мне спраўку, што я павінен працаваць на лёгкай фізычнай працы, без начных зьменаў. У 1976 г. супрацоўнікі раённай міліцыі сілком адабралі ад мяне гэтую спраўку).*

*Я ня п’ью. Сваю работу я заўсёды выконваў старанна, чэсна й з пачуцьцём адказнасьці.*

*Летам 1974 г., выконваючы адпаведныя інструкцыі, я напісаў рапарт старшыні калгасу Грыгаровічу аб тым, што малочна-перагонны пункт калгасу знаходзіцца ў небясьпечным пажарным стане. Аднак старшыня не прыняў ніякіх мераў, і тады я паведаміў аб стане пункту ў раённую пажарную інспэкцыю. Яны прыехалі і апячатавалі гэтае памешканьне. Але старшыня калгасу самавольна сарваў плёмбу. Хутка ўспыхнуў пажар, і малочна-перагонны пункт і ўся апаратура, што там знаходзілася, згарэлі. Я ў гэты час быў на бюлетэні ў сувязі з абвастрэньнем язьвеннай хваробы. Старшыню аштрафавалі (усяго 60 рублёў). Калі пасьля заканчэньня важнасьці бюлетэню я выйшаў на працу, старшыня сказаў мне, што із-за мяне яго аштрафавалі, і што зробіць так, што мне будзе кепска.*

*Хутка пасьля гэтага ён выключыў мяне з калгасу.*

*Мяне выключылі з калгасу з грубым парушэньнем Статуту. На сходзе прысутнічала ўсяго чалавек 30. Многія казалі, што выключаць ня трэба, не хацелі выключаць. Але ён (старшыня Грыгаровіч) усёроўна зрабіў па-свойму.*

*Я зьвяртаўся да парторга калгасу і ў мясцком. Яны шкадавалі мяне, але сказалі, што супраць старшыні нічога ня могуць зрабіць.*

*(Потым старшыня напісаў хвальшывы пратакол, дзе напісана, што на агульным сходзе калгасу прысутнічала 358 чалавек і пастанова аб выключэньні мяне з калгасу прынятая аднагалосна. А ў нас на сход навет 300 і 200 чалавек ніколі не зьбярэш.)*

*Выключыў з калгасу й звольніў з працы. Іншай працы мне не запрапанавалі (дык я цяпер ужо стаўся не калгасьнікам...).*

*Працоўнай кніжкі мне не аддалі, і я ня ведаю, што напісана ў загадзе аб звальненьні. Потым у раённай міліцыі, куды мяне забіралі шмат разоў — за тое, што я скарджуся — мне казалі, што звольнілі мяне таму, што я не спраўляўся з работай. Сваю працоўную кніжку я прасіў, але мне яе не аддавалі, казалі, што калі дзе-небудзь паступлю на працу, там мне дадуць новую працоўную кніжку.*

*Я пачаў скардзіцца на зробленае ў дачыненьні да мяне бяспраўе. Спачатку — у раённыя, партыйныя й савецкія інстанцыі (райком, райвыканком, пракурору). У раённым судзе ад мяне заявы не прынялі, сказалі, што суд не разглядае працоўных канфліктаў калгасьнікаў.*

*Мною занялася раённая міліцыя; то прыяжджалі й забіралі мяне, то выклікалі мяне ў раён (25 км ад нашай вёскі. Я па выкліку не заўсёды езьдзіў, дзеля таго, што грошай у мяне няма; тады яны прыяжджалі й забіралі мяне). Начальнік міліцыі і ягоны заступнік казалі, каб я перастаў скардзіцца, казалі — спыні, а інакш завядзём на цябе крымінальную справу. Пагражалі таксама, што будуць біць, вывярнуць рукі. Але ня білі.*

*Я дайшоў да Міністэрства сельскае гаспадаркі БССР. Мяне прыняў 2 жніўня 1976 г. заступнік міністра тав. Грахоўскі А. А. Выслухаўшы ўсе мае аб'ясьненьні й паглядзеўшы мае дакуманты, ён сказаў, што мяне звольнілі няправільна й з грубым парушэньнем Статуту калгасу. Потым ён накіраваў паперку аналягічнага зьместу ў райвыканком (копію прыслаў мне): «Звольнены з працы й выключаны з калгасу з грубым парушэньнем Статуту калгасу. Прашу разабрацца й прыняць меры».*

*У лютым 1977 г. я накіраваў гэты дакумант, разам з маёй заявай, у рэдакцыю цэнтральнай газэты «Сельская жизнь»*[23]*. Ад іх атрымаў паштоўку, што яны перапpавілі мой ліст у райком ЦК.*

*Тав. Грахоўскі (заступнік міністра сельскай гаспадаркі БССР) абяцаў таксама, што прышле прадстаўніка, каб ён разабраўся й наладзіў усё на месцы. Але ніхто не прыехаў.*

*Я ўзноў хацеў зьвярнуцца да яго. Аднак ён мяне не прыняў.*

*Я неаднаразова прыяжджаў у Маскву із скаргамі. Пачынаючы ад 1975 г. Я ня раз быў у прыёмнай ЦК КПСС і ў прыёмнай Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР. У Прэзыдыюме мяне*

---

[23] ***«Сельская жизнь»*** — адна з цэнтральных савецкіх газет, якая вяла сваю гісторыю ад заснаванай яшчэ ў 1918 г. газеты «Беднота». Назву «Сельская жизнь» атрымала ў 1960 г., калі і стала масавай палітычнай газетай, што спецыялізавалася на асвятленні жыцця вёскі.

*прыймалі кансультанты (у лютым 1979 г. я настойваў, каб мяне прыняў заступнік Старшыні Вярхоўнага Савету Кэбін[24] — я прачытаў у «Литературной Газете»[25], што ён прыймае навет і ў больш дробных справах, прыкладам, прыняў нейкую жанчыну, якая скардзілася на тое, што ёй не ўстаўляюць газавай пліты, і дзякуючы ягонаму ўмяшанньню пліту ўставілі… я прачытаў у «Лит. Газете», што ён прыймае ўсіх савецкіх грамадзян, якія скардзяцца на несправядлівасьць і просяць аказаць ім помач. Мне, аднак, сказалі, што ні Кэбін, ні другі заступнік Старшыні Прэзыдыюму мяне прыняць ня могуць. Калі я стаў настойліва прасіць, каб мяне запісалі на прыём да яго або да іншай адказнай асобы, мне прыгразілі, што паклічуць міліцыю). У ЦК КПСС мяне прыймалі гэтак званыя інструктары; апрача гэтага, адзін раз я быў на прыёме ў загадчыка прыёмнай ЦК Філатава і ў заступніка начальніка сельска-гаспадарскага сэктару БССР Менжынскага (сакавік 1979 г.); з начальнікам гэтага сэктару мне аднойчы ўдалося пагаварыць па тэлефоне. Я хацеў дабіцца прыёму ў больш адказных таварышаў, але да іх не пускаюць.*

*Прадстаўнікі Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР і ЦК КПСС, да якіх я пападаў на прыём, казалі, што мая справа правільная, але загадваць мясцовым уладам яны ня могуць. Мае пісьмовыя заявы яны накіроўвалі ўзноў у абком і аблвыканком. А адтуль накіроўвалі ў райком і райвыканком. І ўзноў і ўзноў мне казалі, што я сам павінен дагаварыцца із старшынём калгасу, які мяне звольніў і выключыў з калгасу; калі той захоча — прыме назад.*

---

[24] Магчыма, маецца на ўвазе **Ёханес Кэбін** (1905–1999), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, член ЦК КПСС, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Першы сакратар ЦК Кампартыі Эстоніі (1950–1978), Старшыня Прэзідыума Эстонскай ССР (1978–1983).

[25] ***«Литературная газета»*** — савецкае штотыднёвае літаратурнае і грамадска-палітычнае выданне. Ад 1967 г. стала першай савецкай «тоўстай» газетай, адным з самых цытаваных у свеце савецкіх перыёдыкаў.

*Я так-жа зьвяртаўся ў рэдакцыі газэтаў, мясцовых і цэнтральных («Известия»[26], «Сельская жизнь», «Труд»[27]), рабіў гэта пачынаючы з 1974 г. Ад іх я атрымаў паведамленьне, што яны пераслалі мае заявы абласным і раённым уладам, у абком, райком ці ў аблвыканком, райвыканком.*

*Тым часам міліцыя не пакідала мяне ў спакоі. У канцы 1976 г. мяне прымусова прывезьлі да галоўнага лекара раённай бальніцы, дзе я дасюль неаднаразова лячыўся ў сувязі зь язьвеннай хваробай жывата. Ахвіцэр раённай міліцыі сказаў галоўнаму лекару, каб ён напісаў, што я здаровы, ніякай язвы ў мяне няма, а старую гісторыю маёй хваробы каб ён зьнішчыў. Галоўны лекар гэтак і зрабіў. У мяне-ж супрацоўнікі гэтай міліцыі яшчэ перад гэтым сілком адабралі спраўку ад лекараў, што я хворы й павінен працаваць толькі на лёгкай фізычнай працы. У той-жа час на мяне завялі крымінальную справу, быццам я — «тунеядзец». Мяне выклікалі ў суд, але я не пайшоў у суд, а паехаў у Маскву. У 1977 г. прыйшоў у Міністэрства аховы здароўя й сказаў, што ў мяне цяжкая язва жывата, а ў раённай бальніцы мяне хворым ня прызнаюць і ня лечаць.*

*Па накіраваньню зь Міністэрства аховы здароўя мяне палажылі ў Маскве ў бальніцу — Інстытут імя Сечанкова[28]. Там я ляжаў каля трох месяцаў, з 10 лютага да 25 красавіка; мяне абсьледавалі й лячылі; потым выдалі спраўку — выпіску зь гісторыі хваробы (дзе пісалася, што я цярплю язьвеннай хваробай жывата), выдалі таксама бюлетэнь за ўвесь час, на працягу якога я ў іх знаходзіўся.*

*Ледзь я вярнуўся дамоў, мяне схапіла міліцыя, у мяне забралі спраўку — гісторыю хваробы — і павезьлі мяне на суд.*

---

[26] ***«Известия»*** — савецкая штодзённая грамадска-палітычная газета. Выходзіла ад 1917 г. У 1977–1991 гг. мела поўную назву *«Известия Советов народных депутатов СССР»*. Была органам Вярхоўнага Савета СССР.

[27] ***«Труд»*** — савецкая газета, што выдавалася ад 1921 г. Была органам Усесаюзнага цэнтральнага савета прафесійных саюзаў.

[28] Магчыма, маецца на ўвазе Інстытут эвалюцыйнай фізіялогіі і біяхіміі імя І. Сечанава Акадэміі навук СССР.

*На судзе казалі, што я не працую, не хачу працаваць, і што я займаюся паклёпамі й плёткамі. А калі я пачынаў абʼясьняць, дык пракурор стукаў кулаком па стале й загадваў мне замаўчаць (ніякага абаронцы я не заўважыў). Суд некалькі разоў выходзіў на нараду. Потым сказалі, што я падлягаю адміністрацыйнай адказнасьці. Я сказаў, што не разумею, што гэта значыць. Судзьдзя сказаў, што зразумею, калі будзе трэба.*

*Ніякай пастановы суду мне не далі. Але яшчэ перад судом у міліцыі мне далі надрукаванае на машынцы абвіняльнае заключэньне, дзе я абвіняюся ў «тунеядзтве», у «паразітным спосабе жыцьця» паводля арт. 204 УК БССР. (У залучэньні да гэтай заявы я прыводжу копію гэтага абвінавальнага заключэньня, напісанага 15 сьнежня 1976 г. заступнікам начальніка Талочынскага РОВД маёрам Смоляк В. Н. і пацьверджанага 16 сьнежня начальнікам Талочынскага РОВД (Раённы Аддзел Нутраных Справаў) падпалкоўнікам міліцыі Асмалоўскім М. Е., зь візай Коханаўскага пракурора Талочынскага раёну Пелюдзь В. І.)*

*Летам 1978 г., пасьля таго, як я вярнуўся з Масквы, мяне абманным шляхам сілком памясьцілі ў абласную псыхіятрычную бальніцу. Зроблена гэта было так. Мяне выклікалі (павесткай) у ваенкамат быццам для мэдыцынскай камісіі (я звольнены ад службы ў арміі ў сувязі зь язьвеннай хваробай). Ваенкамат запрапанаваў мне легчы ў бальніцу, ён сказаў, што там мне будуць лячыць язву «гіпнозам»; я спачатку не згаджаўся, але ён настойваў, што гэтак трэба. Калі я сядзеў і чакаў накіраваньня ў бальніцу ў калідоры ваенкамату, на мяне накінуліся двух міліцыянераў, надзелі на мане наручнікі, упіхнулі ў воранак і павезьлі… Я аказаўся ў абласной псыхіятрычнай бальніцы, у палаце, дзе было каля 30 запраўдных варʼятаў. Гэта было вельмі цяжка, ад гэтага ўзапраўды можна страціць розум. Там мяне трымалі 17 сутак; у гэтым часе мяне ня бачыў і ня гутарыў зы мной ніводзін лекар. Цераз 17 сутак мяне прывялі на камісію. Камісія гэтая правярала, ці я ня дурны; задавалі, прыкладам, гэткія пытаньні: якая розьніца між птушкай і самалётам, між канём і трактарам; пыталі пра сучасную цякучую палітыку, якое становішча займае Леанід Ільіч Брэжнеў.*

*Потым спыталі, чаму я скарджуся, сказалі, што скардзіцца ня трэба. І адпусьцілі.*

*Калі ў красавіку гэтага году я прыехаў у Маскву, раённыя ўлады паведамілі сюды, што я «небясьпечны псых» і што мяне неабходна расшукаць. Міліцыя расшукала мяне (я не хаваўся, я тады затрымаўся ў гасьцініцы каля ВДНХ*[29]*); мяне прывезьлі ў 71 аддзел міліцыі; тут зы мной гутарылі ахвіцэры міліцыі, потым — два лекары-псыхіятры. Усе яны ўстанавілі, што я поўнасьцяў нармальны. Яны таксама пыталіся, чаму я скарджуся. Я расказаў і паказаў ім усе свае дакуманты. Яны сказалі — знаем…*

*Мне стала ведама, што ў вёсцы мяне расшуквае міліцыя, і яны хочуць узноў памясьціць мяне ў псыхіятрычнай бальніцы, надоўга. Ужо разоў пяць прыяжджала міліцыя да маёй старой маці, гаварылі ёй, што цяпер мяне запратураць на два гады… (Маці плача. Калісьці, падчас нямецкай акупацыі, ёй пагражалі нямецкія ахвіцэры, дабіваліся, дзе хаваюцца браты… А цяпер — свае-ж…).*

*Я баюся, што як толькі я вярнуся дамоў, мяне забяруць у псыхбальніцу.*

*У травені гэтага году я зьвярнуўся ў Чырвоны Крыж за невялікай матарыяльнай дапамогай: мне зусім няма з чаго жыць, але я не магу выехаць з Масквы, бо яшчэ ня вырашаныя мае справы. Я надзеіўся, што мне дадуць хоць-бы 10-15 рублёў. Я гаварыў ветліва й спакойна, але я гаварыў, што маю права на помач, бо-ж, калі я працаваў, я плаціў… (тут у атрыманай копіі адзін ці два радкі адсутнічаюць)… прывезьлі ў 134 аддзел міліцыі й трымалі там да вечара, каля 10 гадзінаў. Там зы мной гаварыў сьледчы, з маіх слоў напісаў ён маё аб'ясьненьне (тыя, з Чырвонага Крыжа, сказалі, што я вяду сябе груба й хаджу туды кажны дзень, хаця ўзапраўднасьці я прыйшоў першы раз).*

*Я хачу, каб мяне вярнулі ў калгас. Я хачу працаваць на пасільнай для мяне працы. Вёска Высокае — мая радзіма, я тут радзіў-*

---

[29] **ВДНХ** — Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі.

*ся, тут жылі мае прашчуры, тут цяпер жыве мая 70-гадовая маці. У нас ёсьць домік, невялікі прысядзібны ўчастак і карова.*

*Прашу аказаць мне справядлівасьць. Прашу ўстанавіць мяне ў маіх законных правох.*

*Прашу таксама адгарадзіць мяне ад неабаснаваных, незаконных перасьледваньняў міліцыі й не дапусьціць, каб мяне — псыхічна нармальнага чалавека — сілком памясьцілі ў псыхбальніцу. Калі й гэтым разам вы не абароніце маіх незаконна таптаных правоў, я магу зусім зьгінуць.*

*10 чырвеня 1979 г.*

*Карэйша І. Т.»*

(Беларус. № 273. Студзень 1980. С. 2, 4.)

*Камітэт Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі й Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*[30] *выслалі 11 лютага сёлета амэрыканскай урадавай Камісіі да справаў бясьпекі й супрацоўніцтва ў Эўропе (тэй, якая займаецца пытаньнямі ажыцьцяўленьня Гэльсынскіх пагадненьняў) Мэмарандум № 2 з новымі матар'яламі пра перасьлед Івана Карэйшы, жыхара вёскі Высокае Каханоўскага сельсавету Талачынскага раёну.*

*Іван Карэйша за ягоныя настойлівыя пратэсты да найвышэйшых органаў улады ў Маскве супраць несправядлівага выключэньня яго з калгасу засуджаны на год канцлягеру. Пра гэта стала ведама зь Інфармацыйнага Бюлетэню маскоўскае неафіцыйнае Працоўнае Камісіі для Расьсьледваньня Злаўжываньняў Псыхіятрыяй у Палітычных Мэтах. Іван Карэйша быў арыштаваны ў травені летась.*

*Неўзабаве па ягоным арышце, 22 травеня 1980 г. сябра вышэй згаданай маскоўскае неафіцыйнае Камісіі Фэлікс Серабракоў*[31] *напісаў у віцебскі псыхіятрычны шпіталь галоўнаму*

---

[30] **Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА)** — беларуская грамадская арганізацыя, заснаваная ў 1949 г. у ЗША прадстаўнікамі паваеннай эміграцыі.

[31] Маецца на ўвазе **Фелікс Сераброў** (рус. Феликс Серебров, 1930–2015), савецкі праваабаронца, дысідэнт, заснавальнік Рабочай

*лекару Зорку ліста, заявіўшы, што калі Іван Карэйша, псыхічна здаровы чалавек, будзе паўторна пасаджаны ў псыхіятрычны шпіталь (Карэйшу двойчы да таго ўжо трымалі ў віцебскай псыхушцы), дык Камісія будзе разглядаць гэта як акт злоўжываньня псыхіятрыяй у палітычных рэпрэсійных мэтах.*

*«Працоўная Камісія, — казалася ў лісьце, — зварачае Вашую ўвагу на рэзалюцыю Сусьветнага кангрэсу ў 1977 годзе ў Ганалюлю[32], які асудзіў падобную практыку выкарыстоўваньня псыхіятрыі, і заклікае Вас больш не парушаць гэтае рэзалюцыі».*

*Карэйшу гэтым разам у псыхушку не пасадзілі, але засудзілі на год лягеру прымусовае працы. Суд над ім адбыўся ў жніўені 1980 году. Свой тэрмін Іван Карэйша адбывае пад гэткім адрысам: «учр. УЖ-15/15 «М», р/о Вейно, г. Магілёў, БССР».*

(Мэмарандум у вабарону І. Карэйшы //
Беларус. № 286. Люты 1981. С. 1.)

Гэтыя ды іншыя падобныя інфармацыі надзвычай важныя для будучага стварэння поўнага даведніка беларускіх іншадумцаў, звесткі пра лёс якіх, выглядае, не захаваліся на Бацькаўшчыне і чые імёны менш вядомыя за імя Міхася Кукабакі.

---

камісіі па расследаванні ўжывання псіхіятрыі з палітычнымі мэтамі пры Маскоўскай Хельсінкскай групе. Быў асуджаны чатыры разы, у тым ліку за антысавецкую агітацыю.

[32] Маецца на ўвазе **VI Кангрэс Сусветнай псіхіятрычнай асацыяцыі**, які адбываўся ў жніўні — верасні 1977 г. у Ганалулу (ЗША), на якім было прынята рашэнне аб стварэнні Камітэта па расследаванні выпадкаў злоўжывання псіхіятрыяй, а таксама прынятая рэзалюцыя з асуджэннем сістэматычнага злоўжывання псіхіятрыяй з палітычнымі мэтамі ў СССР. Тады ж была прынятая «Гавайская дэкларацыя» — першы міжнародны дакумент, дзе былі сфармуляваныя этычныя нормы дзейнасці псіхіятраў розных краінаў.



# ІНШАДУМСТВА, ІНШАДУМЦЫ НА СТАРОНКАХ ГАЗЕТАЎ «БАЦЬКАЎШЧЫНА» І «БЕЛАРУС»

**1. А. З. У абарону М. Кукабакі** // Беларус. № 328. Студзень — сакавік 1986. С. 2.

У Лондане адбылася аднадзённая галадоўка і дэманстрацыя ў абарону Міхала Кукабакі.

**2. А. З. У абарону М. Кукабакі. [Лёндан]** // Беларус. № 354. Сьнежань 1988. С. 6.

**3. Абарона дыякана Ул. Русака** // Беларус. № 347. Травень 1988. С. 7.

**4. Акадэмік А. Сахараў пра Кукабаку** // Беларус. № 353. Лістапад 1988. С. 8.

**5. Алег Бембель выкінуты з партыі, звольнены з працы** // Беларус. № 330. Верасень 1986. С. 2.

А. Бембель — аўтар кнігі «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс», выдадзенай у Вялікабрытаніі.

**6. Арышты за адмову ад войска** // Беларус. № 345. Сакавік 1988. С. 3.

Лонданскі аддзел праваабароннай арганізацыі «Міжнародная амністыя» лічаць асуджаных братоў Васіля і Мікалая Шустоў вязнямі сумлення.

**7. Аўген Бузіньнікаў у іншым лягеры** // Беларус. № 282. Кастрычнік 1980. С. 2.

**8. Беларус — палітычны ўцякач у Швэцыі** // Беларус. № 242. Чырвень 1977. С. 1.

**9. Беларускі іншадумец Міхась Кукабака** // Беларус. № 255–256. Ліпень — жнівень 1978. С. 1.

**10. Бонэр, Елена. Міхал Кукабака: «Тут умовы нялюдзкія»** // Беларус. № 289. Травень 1981. С. 1.

**11. «Бяз права ліставаньня» (Зварот у вабарону Міхала Кукабакі)** // Беларус. № 275. Сакавік 1980. С. 1.

*толькі ўцёк, нікога ня раніў, не забіў. Цяпер супроць яго Саветы павялі вялікую нагонку: Совет Віклі Прэсс*[209] *і інш. Што тут зроблена ў гэтай самай справе, Вы ўжо ведаеце ад сп. Міхалюка*[210] *й Навары*[211]*. [...]*

*Прывітаньні!*

*+ Часлаў С.*[212].

З Нью-Ёрка ў шведскую турму пачалі дасылацца нумары газеты і прынагодныя лісты. Пісаў і Сасноўскі. Ягоная карэспандэнцыя — унікальная магчымасць даведацца пра ўгоншчыка як пра асобу і пра ягоныя матывы.

*4.6.77 г.*

*Паважаныя сябры, Беларусы.*

*Вялікае вам дзякуй за тое, што Вы, у цяжкую для мяне гадзіну, падтрымліваеце мяне духоўна. Шчырае за гэта Вам дзякуй. Маё прозвішча Васіль, па бацьку таксама, а фамілія мая — Сасноўскі. 20-га чэрвеня мне споўніцца 38 гадоў. Нарадзіўся я ў Гомельскай вобласці. Па сваёй працы праехаў я па ўсёй Савецкай краіне. Шмат чаго можна паведаміць, але гэтага на паперы нельга зрабіць, таму што я знаходжуся пад арэстам. За тое, што я паветраным шляхам пераляцеў у гэтую краіну. Мяне будуць судзіць, на які срок, я яшчэ не знаю. Вось якія маі справы ў наступны час. Прабачце, што я вельмі мала змог Вам напісаць.*

---

[209] ***«Sowiet Weekly»*** — прапагандысцкая газета, друкавалася Савінфармбюро ў Лондане ад 1942 да 1991 г.

[210] Маецца на ўвазе Янка Міхалюк.

[211] **Павал Навара** (1927–1983), грамадскі дзеяч. Ад 1947 г. жыў у Лондане. Быў адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі і рэгулярна абіраўся ў Галоўную ўправу арганізацыі. У 1954 г. быў адным з ініцыятараў стварэння Англа-беларускага таварыства. У Галоўнай управе ЗБВБ часта абіраўся на пасаду старшыні, а таксама доўгі час ў 1970-я гг. быў сакратаром арганізацыі.

[212] **Часлаў Сіповіч** (1914–1981), рэлігійны дзеяч, стваральнік беларускага рэлігійна-грамадскага асяродка ў Лондане, ад 1960 г. — грэка-каталіцкі біскуп.

*Яшчэ раз я вельмі ўдзячны Вам за Вашы хлопаты.*
*Да пабачэння.*

*В. Сасноўскі.*

*P. S. Свайго адрасу я нязнаю.*

*6.6.77 г.*

*Са шчырым прывітанням да Вас, паважаныя землякі!*

*Ваш ліст я атрымаў, які Вы прыслалі ў травні, і даў адказ, нязнаю, чаго Вы не атрымалі майго ліста. У наступную гадзіну пакуль знаходжуся пад аховай следчай улады. Кажуць, што ў канцы ліпеня будзе суд, сам я дасканальна ня знаю. Вы пытаеце на мой погляд на жыццё. Мой погляд на жыццё такі, як і ўсіх людзей, якія маюць поўную свабоду. Ды хіба ж на паперы можна расказаць, гэта калі ў сустрэчы, там можна расказваць усё, а каб перанесці на паперу сваю думку, то трэба быць добрым паэтам. Ды я знаходжуся яшчэ і пад цэнзурай як падследчы. Каб усё было добра на Радзіме, хіба я быў бы тут, а калі цябе застаўляюць, што-б ты мусіў што-небудзь зрабіць і каб цябе схаваць, як грошы ў кішэню, каб ты не пытаўся стада за сабой вясці ў шкоду, дык мусіш пайсці на ўсё. Пры тым дыктатарскім ражыме, які існуе на наступны час на Радзіме, гэта мне здаецца да дабра не вядзе, гэта вядзе да пропасці і больш за ўсё, што гэта доўга так не будзе, можа яшчэ гадоў 15–20, не болей. Яны прывядуць самі краіну да такой дарогі, што ні ў зад, ні ў пярод, ды яны гэта й самі добра бачаць, але пакуль яшчэ ёсць калгасныя рабы, дык чуць дзержацца, але рабы сталі старымі, а моладзь усё ў горадзе, вось і подойдзе скора да канца.*

*Вось такія справы, зямляк. Вялікае дзякуй за хлопаты. Да пабачэння.*

*В. Сасноўскі.*

*24.6.77 г.*

*Паважаныя, нязнакомыя сябры.*

*Вялікае Вам дзякуй за тое, што Вы пажадалі для мяне добрага заканчэння маёй справы. Нарадзіўся я ў Гомельскай вобласці, у 1940 годзе. Працаваў на розных пасадах так як у*

*нашай (Краіне), Вы гэта і без мяне знаеце. Пайшоў на гэты шлях таму (пералёт у Швецыю), што мне не было другога выхада. Последні час мяне звальнялі з працы за тое, што я багата зарабляў (гэта калі ўзяць на рублі), а мяне власці хацелі, каб я жыў так, як жывуць мільёны нясчастных, таму што я ўжо быў (мечаны). (Папытка пераходу ў Турцыю). Пасля быў у псіхбальніцы. У наступны час нязнаю, якая мяне ждзе пакута. Сяжу пад арэстам, а жду пакарання. Вось такія маі справы.*

*З пашанай да Вас*

*В. Сасноўскі.*

*P. S. Вы можете пользоваться и русским языком, я в основном пользуюсь русским.*

*Паважаны Ян, паважаныя суродзічы!*

*Перш за ўсё, вялікае вам дзякуй за Вашы безкарысныя хлопаты. Мне вельмі прыемліма, што людзі з усіх частак свету клапоцяцца за маю судьбу. Ты пішаш мне, ці можна да мяне званіць, ці можна каму-небудзь з Вас пад'ехаць да мяне. Я гэткага, дарагі сябра, ня знаю, на гэтае пытаньне можа даць адказ толькі Hans Holmer*[213]*, таму што я нязнаю сваіх праў у наступны час.*

*У мяне быў суд 20.7.77, але прыгавор будзе вынесены, як мне паведамілі, 27.7.77. Ты пішаш, чы згаджуся я, каб хто-небудзь пад'ехаў на сустрэчу. Я не супраць таго, каб хто-небудзь пад'ехаў, калі для Вас такая сустрэча будзе прыемлімай і натхненнай. За літаратуру пытання тут няма, мне даюць чытаць шмат кніжак усякіх пісменнікаў. Ты пытаеш, чы можна выкарыстоўваць тут грошы, можна, колькі хочаш, калі ёсць. Я нязнаю, які будзе прыгавор, але мяне няправільна абвінавачвалі, і я жду рашэння суда, а там буду падымаць пытанне далей, калі мяне будуць судзіць як за цяжкое праступленне.*

---

[213] **Ханс Холмер** (шв. *Hans Gillis Åke Holmér*, 1930–2002), кіраўнік Шведскай нацыянальнай службы бяспекі. Стаў знакаміты пазней за апісаныя ў лісце падзеі, у 1986–1987 гг., дзякуючы расследаванню забойства шведскага прэм'ер-міністра Улафа Пальмэ.

*Фамілія маёй маці Касінская Сафія Аляксандраўна. Па жонцы ў Амэрыцы ёсць сваякі, Сітнікі. Быўшая Палеская вобласць, горад Мазыр, вёска Слабада, а зараз Гомельская вобласць — гэта радзіма Сітнік. Мая радзіма вёска Жмурнае Лельчыцкага р-на Гомельскай вобласці (старая Палеская вобласць).*

*Вось пакуль і ўсё.*

*З найлучшымі пажаданнямі да Вас.*

*В. Сасноўскі.*

*19.8.77 г.*

*З вялікім прывітаннем да Цябе, паважаны Янка!*

*Твой ліст ад 2.8. я атрымаў і «Беларус» таксама. Вялікае Табе дзякуй. На ліст, у якім ты прыслаў дапамогу, я даў адказ із Штакгольму, але ад Цябе яшчэ не атрымаў адказу. У тым лісце я незнаў, куды мяне напраўляць і мацьму чы я магчымасць з Вамі сустрэчу. Цяпер адказваю, што магчымасць такая ёсць і яна неабходная. Тут я працую, а ў застаўшыеся гадзіны прабую вучыць шведскую мову, але яна вельмі цяжка даецца, так як няма настаўніка. Прабаваў званіць да хаты, але Масква не пазволіла. Вось як? Але нічога, найглаўнейшае я выканаў, толькі ў свой час баяўся, каб мяне не заграбасталі з некаторымі бумагамі ў арыгінале, калі я працаваў там. Безмоўна, мяне пасцігла-б тая кара, што і Пяньков. Адзін раз я быў ужо на самым краю, але выкруціўся, за што пабыў у іх руках. Гэта я гавару аб случаі ў 1974 годзе на «Каўказе». Цяпер жду, што пад'едзе з маіх землякоў, надзеючыся што ты мяне зразумееў? Я не знаю, чаго так доўга ідуць нашы лісты? Ну, нічога, абы ішлі, хоць медленна.*

*Усяго Табе найлепшага, прывітанні ўсім маім землякам.*

*Васіль.*

*25.10.77 г.*

*Паважаны мой Янка, са шчырым прывітаннем да цябе Васіль. Вось ужо прайшло болей як два месяцы, як я не маю ад цябе ніякіх вестак, можа, ты не пішаш, чы другія якія прычыны. Адкажы тады, можа я цябе чым-небудзь паскарбіў. Я ждаў*

*Раю*[214]*, якая па тваёй пратэкцыі хацела заехаць да мяне, але не заехала. 23.10 у мяне быў Міша Сінкевіч, сын Віктара*[215]*, ты да яго пісаў пісьмо, і мы дагаварыліся аб усім неабходным, я даў сваё сагласься, калі ёсць такі закон у Швецыі, я аб гэтым ня знаў. Ён сказаў, што будзе гаварыць з адвакатам. Янка, ты напішы хоць два словы заказным пісьмом, каб я знаў, у чым справа твайго маўчаньня. Я табе адправіў ужо тры пісьма, гэта чацвёртае. Усяго табе добрага.*

*Да пабачэння,*

*Васіль.*

*15.12.77 г.*

*Янка, добры дзень да Цябе!*

*У мяне да Цябе вялікая просьба, каб ты адправіў гэты ліст да А. Салжаніцына*[216]*. Справа ў тым, што гэта вялізарнейшы пісьменьнік, які знаёмы з жыццём, і ён, калі згодзіцца, то дапаможа ўкласці вялізарную цікавасць як да чытачоў, так і на пользу обшага ўкладу. Янка, ты мяне прабач, але я хачу напісаць тое, што ў маёй душы ў наступны момант. А ў мяне на душы вось што. Да мяне пішуць вельмі багата людзей, і добрых 50 % прадлагаюць розныя свае паслугі, але абавязкова на якіх-та ўмовах. Чаму гэта так? Адкажы. Другое, я ў наступны момант пры ўсёй маёй жаданасці не хачу пісаць абы-што, а напісаць сур'ёзнае што-небудзь, баюсь, таму што для гэтага ёсть у мяне ўсе асновы. Каб я быў у Англіі чы Амэрыцы, то гэта другая справа, а тут вельмі не надзёжна я сябе чувствую (адчуваю). Вось дажа ты пісаў і перастаў чаму-та. Чаму? Мне дапамога, Янка, матэрыяльная зараз ня трэба, калі трэба будзе, то я здаровы чалавек, і зараблю для сябе, дарам хлеб есці ня буду,*

[214] Маецца на ўвазе Раіса Станкевіч.

[215] **Віктар Сянкевіч** (1926—?), журналіст, гісторык, грамадскі дзеяч. У той час жыў у Іспаніі, чытаў лекцыі ў Каталіцкім універсітэце г. Памплона. Ад 1992 г. жыў у Сан-Францыска (ЗША).

[216] **Аляксандр Салжаніцын** (рус. *Александр Солженицын*, 1918–2008), расійскі пісьменнік, публіцыст, грамадскі дзеяч, дысідэнт. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1970 г.

*але як не хапае падтрымкі маральнай, калі ты знаходзішся ў чужой краіне, а гэта самае найважнейшае. Я трохі разабраўся ў гэтым і сам за 10 месяцаў, але гэтага яшчэ недастаткова! У наступны момант я, Янка, закончыў свае расчёты па турбіне і прыйшоў да поўнага заключнага канца. Калі я выйду, я думаю даць людзям электраэнэргію, самую дзяшовую, самую бязврэдную для акружнай срады, як кажуць, вечную. Гэта не хвастаўство, Янка, і не фантазёрства, гэта 100 % праверанцыя даныя, і ў прымітыўных умовах іспытаны. Праўда, трэба будзе яшэ адшліфоўка, але гэта ўжо дэталі маленькія, галоўнае, ідэя мая — правільная была, якая на днях падцвярдзілася маімі праверкамі.*

*На гэтым і закончу.*

*Усяго табе добрага, да пабачэння.*

*В. Сасноўскі.*

*1.9.1978 г.*

*Нартэлья*[217]

*Паважаны мой Янка!*

*Атрымаў ад цябе апошні нумар «Беларус», дзе прачытаў аб тым, што і мяне счытаюць дысыдэнтам, а не «тэрорыстам». Янка, справа ў тым, што я ніколі не займаўся адкрытымі выступленнямі супраць улады, але я думаю, што я тожа ўнясу свой вопыт і пазнанні для барацьбы з крамлёўскімі анархістамі, але зараз я не магу, таму што калі я маўчаў сорак гадоў, то памаўчу і гэтыя два гады, таму што калі я пачну гаварыць, то я магу і ня выйсці адсюль. Швецыя — гэта не Нямеччына чы Амерыка, я думаю, ты мяне зразумееш? — потым, як зустрэнемся. Вось таму я і ня хочу пакуль чапляць тыя пытанні, на якія я хочу адказаць, але не магу. Бачыш, тут на западзе маюць такую інфармацыю, якая дае магчымасць трохі арыентавацца, але праўдзівай інфармацыі вельмі мала. Я не разумею можа чаго, але як прачытаеш пра розныя здзекі над людзмі і другое, што здзіўляешся над тым, што запад застаецца ў большай частцы*

---

[217] **Нартэлья** (анг. *Nortelja*) — мястэчка ў Швецыі.

*пасіўным наглядачом. Чаму? Таму што вялікая палітыка ня хоча ўлазіць у нашы пытаньні, а калі і ставіцца другі раз якое-небудзь пытанне, то Масква толькі павядзе пальцам, і ўсе з гэтым згаджаюцца. Чаму? Вельмі багата гэтых «чаму». Я думаю, што я ўсё-такі можа троху здзьвіну некаторыя напрамкі, праўдзівей, думкі некаторых палітыкаў, адкрыю ім вочы на ту «праўду», якую праводзяць у жыцьцё за «чырвонай» сьцяной, а калі яны і к гэтаму застануцца глухімі, то я не завідую ім. Так што дзякую Табе, Янка, толькі за тое, што Ты сгаджаешся с тым становішчам, якое я заняў. Я не прывёз радастных вестак, а тое, што я скажу людзям, гэта праўда, а Ты сам разумееш, што «нашы» за праўду ідуць на ўсё. Так што хай хлопцы не дзяржаць крыўды на мяне, таму што сказаць хлусню я ўжо ня хачу. А зараз два, тры словы аб сваім жыцці. Мяне маюць хутка перавесці ў другую турму — адчыненага тыпу, тады я напішу Табе, гэта больш свабодная турма, там будзе трохі лягчэй. Шведскую мову я ўжо трохі адолеў, гаварыць медленна ўжо магу, думаю, што калі вазьмуся за ангельскую, калі прыеду, то за два гады вывучу с Божай помашчу. Пішу трохі, як кажуць, раблю наброскі чернавыя для кніжкі, даю думкі на паперы, а пасля як хто дапаможа, то будзе вельмі інтэрэсная кніжка. Вось такі справы, да палавіны срока мне засталося восем месяцаў, а там Бог дасць і волю.*

*Шчыра твой сябра,*

*Васіль.*

*Tillberga*[218]

*21.01.79 г.*

*Паважаны мой Янка, добры дзень да Цябе. Атрымаў я ад Цябе 25.9.78 газету, а праз чатыры дні быў адпраўлены ў адкрытую вязніцу. Тут больш свабодна, каждую другую нядзелю атрымліваю двухдзённы водпуск, калі мяне выпусцяць на палавіне срока, то засталося чатыры месяцы. Праведзены час*

[218] **Тылберга** — мястэчка ў цэнтральнай Швецыі, у муніцыпалітэце Вестманланд.

*у вязніцы я не правёў як бяздзельнік, вывучыў трохі шведскую мову, хоць і ня меў настаўнікаў (буду мець такую магчымасць пасля асвабаджэння), а так-жа закончыў свой энергетычны праект, праўда, трэба будзе яшчэ пасядзець з праектантамі, калі я найду, з кім заключыць кантракт, але гэта я думаю зрабіць пры помацы як Тваёй, так і другіх нашых людзей, таму што гэтая справа вельмі сур'ёзная. Мне здаецца, Янка, што я найшоў вялікае адкрыццё ў электрычнай праблеме, толькі адна ўстаноўка можа даваць да паўмільёна кв. электрычнай энергіі і каштуе менш, чым сушчаствуюшчыяісточнікі на сенняшні дзень. Вельмі хацеў-бы пачуць ад цябе па гэтаму пытанню савет, і другое: засталося да мая, да канца мая, я вельмі хацеў-бы жыць не тут, таму што калі я пачну гаварыць, то мяне насцігне учасць такая, як і балгара ў Лондане*[219]*, пагэтаму мне патрэбна перабрацца да Вас, а для гэтага я незнаю, што патрэбна, парай. Вось, здаецца, пакуль і ўсё.*

*Да пабачэньня й з найлепшымі падажаннямі.*

*Твой Васіль.*

Паводле «Ведомостей Верховного Совета СССР» (ад 6 февраля 1980 г.) Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР выдаў Загад аб пазбаўленні Васіля Васільевіча Сасноўскага савецкага грамадзянства. Шведскі суд прыгаварыў яго да чатырох гадоў зняволення.

У Нью-Ёрк гэты чалавек ніколі не прыехаў, перарвалася нават лістоўная сувязь. Што здарылася з ім? З яго планамі пра кнігу, з яго вынаходніцтвам? Дый кім ён быў урэшце: дысідэнтам, змагаром з рэжымам? Авантурыстам у пошуках лепшага жыцця? Злачынцам? І як склаўся ягоны лёс па вызваленні? На ўсе гэтыя пытанні яшчэ трэба шукаць адказы.

---

[219] Маецца на ўвазе балгарскі дысідэнт **Георгі Маркаў** (1929–1978), што ўцёк з Балгарыі, жыў у Лондане, працаваў на БіБіСі і быў забіты спецслужбамі праз ін'екцыю рыцыну.

Дык вось багатая чужына,
Глядзі, ледзь толькі паспявай.
Даўно мы чулі пра краіну,
Што ў ёй — нібыта самы рай.

Іду ў Нью-Йорку, пазіраю,
Вакол агні, агні гараць…
Не ведаю адносна раю,
А што багата — дык відаць.

Такіх вітрын нідзе не стрэціш…
Якіх там ні пабачыш цуд!
Відаць, што толькі ёсць на свеце,
Сабрана за стагоддзі тут.

І ўсё крычыць, кудысьці мкнецца.
У тым нямала пекнаты,
Ды мне, Амерыка, здаецца,
Залішне ганарышся ты.

Ты паглядаеш, як з узгорка,
Вядома пыха ўсім твая,
Паслухай жа, тваім Нью-Йоркам
Захоплены не вельмі я.

Праспекты, стрыты, што цясніны,
Як бы на мерку на адну,
Каля такіх прастораў сініх
Стаяць бы тут прыгажуну.

Ён мог бы фарбамі іскрыцца
І вежы стромыя ўздымаць,

А то каробкі-камяніцы
Пахмура-шэрымі стаяць.

І небаскробы цешаць мала,
Як тыя прывіды кругом,
Як быццам пашчапаў хто скалы
На часткі дужым калуном.

І тым агнём рэклам стракатых
Не мог Нью-Йорк мяне крануць.
Ну што з таго, што ён багаты?
Яму мы ведаем цану.

І хоць у сейфы Уол-Стрыта
Ліецца золата ракой,
Мы знаем, як яно здабыта, —
На ручаях крыві людской.

Усё здабыта пад прынукай,
Усіх пакут не прыгадаць...
Ёсць у твайго народа рукі,
І залатыя, што й казаць,

І пазайздросціш часам, можа,
Як на умельства паглядзіш.
Ды ён не ўвесь жыве ў раскошы,
Дарма аб тым на свет крычыш.

Яшчэ па нетрах цёмных, дымных
І ў ясны дзень вісіць смуга,
І за пахлёбкаю нішчымнай
Стаіць даўжэзная чарга.

Там боль, пакуты і пагарда,
І поўніць гнеў людскую кроў,
Іх мала радуюць мільярды
Тваіх тузоў-уладароў.

Хоць ззянне золата не змеркла,
Але чыё яно, чыё?
Каму тут рай, каму ж і пекла,
Тут, кажуць, кожнаму сваё.

А мы законамі другімі
Узгадаваны ў барацьбе.
Мой родны край, мая Радзіма,
Я так сумую па табе!

*Пятрусь Броўка. На чужыне*

ВЕРНІКІ

*[Жнівень 1987]*

*Дзень добры вам, сябры!*

*Як добра, што я маю гэту магчымасьць пісаць вам. Ужо тры тыдні я, мая жонка і сынок Давыд выехалі з Савецкага Саюза на сталае жыццё ў Вялікабрытанію. У горадзе Бірмінгеме жыве дзядзька*[220] *маёй жонкі, дзе мы пакуль і знаходзімся. Мы яшчэ надта не ў старым веку, мне 31 год, а жонцы 36. Сыну нашаму чатыры гады. У СССР мы жылі недалёка ад горада Вільні. Я сам з гораду Маладэчна, дзе і цяпер жывуць мае бацькі, браты ды сёстры. Жонка мая Тамара з горада Навагрудка. Па нацыянальнасці мы беларусы. Належым да царквы Пятідзесятнікаў. Да веры ў Бога мы прыйшлі ўжо сталымі. Да палітыкі мы таксама не ставімся абыякава. Мы за сапраўдную дэмакратыю як у Савецкім Саюзе, а таксама ў ваусім свеце. Лічым за лепшае каб і наша Беларусь была вольная, але пакуль гэта немагчыма. Хоць ніякага граха няма жадаць вольнасці, але гэта не зусім па сэрцу было і ёсць кіраўнікам Савецкага гасударства або краіны. Мы ня былі жывучы ў СССР актыўнымі змагарамі за паважанне праў Беларусі як рэспублікі. Але мовы нашых бацькоў, дзядоў трымаліся як маглі. Гэта было вельмі цяжка, і цяпер не палягчэла. Бо пераважная частка беларусаў адышла або адыходзіць ад беларускай мовы. Чаго граха таіць, мы таксама незаўсёды, ні кожны дзень, ні кожны час размаўляем чыста па-беларуску. Ужывалі больш змешаную беларускую мову з рускімі словамі. Але заўсёды памяталі, што мы беларусы. І колькі яшчэ было і ёсць такіх паміраючых беларусаў. Яны лічаць сябе беларусамі,*

---

[220] Маецца на ўвазе **Міхась Баяроўскі** (1924–2013), грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам ЗБВБ. Жыў у Бірмінгеме.

*а беларускім языком не карыстаюцца, толькі змешанным языком. Гэта вялікае гора. Што датычыць гора, то яно началось ужо даўно. Мой татка Грыгальчык Антон Пятровіч, просты селянін, быў вывезяны да Сібіры і прабыў там с 1939 года ажно па 1953 год. Усё яго юнацтва прайшло ў вельмі цяжкіх умовах. Я таксама нацярпеўся шмат. І хоць здекваліся нада мной за маю веру ў Бога (я ня мог працаўладкавацца, быў прызнаны ў шпіталі хворым на нэрвы), гэта па моему тожа не абышто. У 26 гадоў я ажаніўся ды пераехаў на жыццё з Маладзечна ў Вільню. На гэты перыяд майго жыцця прыйшлось пакуль самая цяжкае выпрабаванне. За рэлігійные пераканані была асуджана мая жонка, гэта здарылась у канцы мая 1983 года. Наша рэлігійная дзейнасць не з'яўлялась вар'яцкай. Я і мая жонка толькі хацелі аддаваць Богу тое што належыць Яму, а цару, што належыць яму. А ўлады не хацелі рэгістраваць нашу царкву за такія пераканані. Нас штрафавалі, у маёй кватэры двойчы праводзілі абшукі, гэта ўжо здарылася, як мы жылі ў Вільні. Ну і канцы канцоў быў суд. Мая жонка Тамара 3 гады лагяроў общага рыжыму як бы за хлусню на Савецкі парадак, за тое, што яна пісала заявы, дзе крыўдзілася на нібы цяжкія ўмовы жыцця і асабліва хрысціянскага жыцця. Уладам надта не падабалась, што мы ждалі выехаць да краін Захаду. І ў рэшце так вось атрымалась. Савецкі суд выявіў «гуманасць», улічваючы тое, што мая жонка хутка павінна была радзіць, ей табор змянілі ссылкай. Якую мы разам адбылі ў Літве, некалькі дзесяткаў кілёметраў ад Вільні. У 1985 годзе жонка мая сталася вольнай. Але адносіны улад да нас і да нашай царквы не змяніліся. І вось у 1987 годзе ў красавіку нам сказалі ў МВД Літвы, каб мы сабіраліcь эміграваць, што мы і зрабілі. І выехалі з Савецкага Саюзу 28.V.1987 года. Настрой у нас не надта добры. Родны кут ёсць родны кут, але слава Богу за ўсё. Я хочу выказаць вам падзяку за беларускае слова, як на бумазе, дык і па радыё. У Беларусі, як мы былі, было толькі магчымасць слухаць вольных беларусов па радыё, і гэта было вельмі каштоўна. Каб жа там былі незалежные газеты або часопісы. На жаль не.*

*Чулі мы пра кніжку Бембеля[221] або пра Кукабаку. І тут былі за праўду пакрыўджаных. Хацелась бы нам вельмі мець дыск або магнітафонную касэту з сьпевам Данчыка[222]. Але ня ведаем куды павінна пісаць і грошы пасылаць. Канчаючы гэта пісьмо хочым мы сказаць, што хочым трымацца беларускай грамадскасць на Захадзе, мусіць па-першае ў Ангельшчыне. Ну а вам хочым пажадаць усяго найлепшага, хай прыдзе час або такая «галоснасць», калі газэты «Беларус» і падобныя ім змогуць прадавацца ў Менске і па ўсёй Беларусі. На памяць невялікі верш высылаю свой:*

***Там***

*Там... ганьба тваім сынам быць,*
*Пашана — расейцам!*
*Там… лічаць мове нашай ня жыць!*
*Толькі ня ўбачыць свету смерці*
*Нашага месца.*
*Беларусь ёсьць каму бараніць,*
*Ні адзін Бембель яшчэ знойдзецца.*
*Але хай і без мяне, і без цябе, мой сябр,*
*У барацьбе той не абыйдзецца.*

*Прашу прабачэння, сябры, за свае памылкі, іх мусі будзе ў маім пісьме. (Я не вывучаў сваёй роднай мовы ў школе. Я рос у горадзе. Але ўжо потым займаўся самаадукацыяй. Вершы пісаў і раней як па-беларуску, так і па-руску). Гэты верш можыця ўжываць як на вашу думку. Хацеў бы я атрымаць ад вас ліста, ці*

---

221 Маецца на ўвазе кніга: Бембель, Алег. Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс. Лёндан, 1985.

222 **Багдан (Данчык) Андрусышын** (нар. 1958), спявак, журналіст, грамадскі дзеяч. Скончыў факультэт масавых камунікацый Нью-Ёркскага ўнiверсітэта. Ад юнацтва захапляўся беларускімі песнямі. У 1977 г. запісаў першы альбом «Беларусачка». У 1981 г. ездзіў з канцэртамі на Беласточчыну, а ў 1989 г. упершыню прыехаў у Беларусь, што стала вялікай культурнай падзеяй. У 1997 г. спыніў канцэртную дзейнасць. Працуе на Радыё «Свабода». Жыве ў Празе.

*ясней адказа на маё пісьмо. Можа і ў вас будуць яшчэ пытаньні да нас, то пішыця, будзем вельмі ўдзячнымі.*

*Грыгальчык Пётр*[223] *Антонавіч*
*Баяровская Тамара Гаўрылаўна*
*Баяроўскі Давыд Пятровіч*

*Да пабачэння.*

*Прывітанне вам, паважаны спадар, а таксама ўсёй радакцыі газэты «Беларус».*

*Вельмі я ўдзячны вам за кружэлку Данчыка, гэта сапраўды беларускія спевы, гэта нашы спевы, гэта цудоўна. Калі будзе, прышліце мне і касэту з спевамі, але вы пісалі дарэчы што ёсць. Дрэнна, што я пакуль не магу вам за гэта адплаціць грашыма. Прабачце, яшчэ толькі становімся на ногі мы. Што датычыць матарэяла «Беларусі» наконт баптыстаў у Беларусі, то я згаджаюсь з думкай «Беларуса» аб гэтым пытані, толькі б хацелась больш яснага каментару да пададзенай інфармацыі. Сапраўды баптысцкая і петідесятніцкая царква нідзе так ні моцна колькасна, як на Беларусі ды Украіне, я таму сведка. Як добра, што ў гэтых царквах ёсць ужо спевы і пропавядзі на беларускай мове, хоця службы цалкам яшчэ ні ідуць на беларускай мове аднак гэта ўжо шаг наперад. Ранее усё і ў баптыстаў на Белорусі было па-расейску. Цяпер відавочна — адраджэнне, свайго, бацькоўскага. Мне прыходзілася пісаць вершы на рэлігійныя тэмы на сваёй роднай мове, і яны чыталісі ў царквах. Спачатку з мяне смяялісь, асабліва самыя беларусы, якія абрасеялісь. Вядома вершы мае былі можа і слабыя з усіх бакоў, я ж мову бацькоў і дзядоў маіх і ў школе не вучыў, я сам яе пра сябе вывучыў. Аднак дзякуй Богу, я ні здрадзіў ні сваей Бацькаўшчыне, ні царкве. Магчыма, я і ні моцны змагар быў за Беларусь, каб яна засталася Беларусьсю, я ні дайшоў яшчэ да*

[223] Сям'я Пятра Грыгальчыка здолела выехаць з СССР пры падтрымцы Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі і асабістым умяшальніцтве Маргарэт Тэтчэр. Праз некаторы час пасля прыезду ў Вялікабрытанію Грыгальчык з сям'ёй выехаў у ЗША. Гл.: Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 227.

*падпісвання лістоў-пратэсту Савецкаму ўраду, як цяпер робяць ужо на Беларусі шмат хто з інтылэгенцыі і працоўных. Хочыцца сказаць, гэта вялікі крок наперад, што Беларусь пачала «прасынацца». Але відавочна, што ў гэтым руху «наперад» шмат камуністаў-беларусаў, якія можа чакаюць, што Савецкія ўлады могуць даць Беларусі, ні памерці, могуць аддаць Беларусь, усі тое што ў Яе было пахабна адабрана. На маю думку «Крамлёўскія сатрапы» цяпер не адкажуць станоўча на гэтыя лісты грамадзкасці Беларусі. Але стукаць у гэтыя «дзверы» патрэбна, нідзе яны ні дзенуцца, адчыняцца. А на Беларусі, патроху, патроху, і абудзіцца сапраўдная дэмакратычная думка, працэс гэты пачаўся, хоць і напачатку начале з мясцовымі каммуністамі. Магчыма, і утворэння арганізацыі, я б жадаў сапраўдна дэмакратычных арганізацыі, ані экстрэмісцкіх левых, ні правых. Аднак ні будзем залятаць наперад. Каб на нашай Бацькаўшчыне працэс дэмакратызацыі ішоў як належыць, ужо шмат што робіць ваша праца, і газэта «Беларус», хочыцца толькі пажадаць яшчэ больш дакладных атрыкулаў на ўсе тэмы. Мяркую з часам з’явяцца і добрыя карэспандэнты у газеце, і з самой Беларусі, гэта было б надта добра. Я таксама згодзен быць і заставацца назаўсёды тут Беларусам, калі прыдзецца. Але маю надзеі павярнуцца да вольнай і дэмакратычнай Беларусі, дзе б сапраўды паважалась чалавечая годнасць. Як бы хацелась, каб усё гэта рабілась бяз гвалту, вайны, каб сапраўды дэмакратыя прышла на нашу Бацькаўшчыну, ні па крывай дарозе. Дрэнна, што няма на Беларусі сваёй Беларускай праваслаўнай царквы. Дакладней ёсць царква, але службы там ні ідуць на беларускай мове, гэта дрэнна вельмі. Што я мог пачуць, калі быў у каталіцкім касцёле на Беларусі, усё па-польску, што гэта!? І тыя хто ходзіць у касцёлы, лічаць сябе, ды і іх лічаць палякамі. Гэта ж няпраўда. Я згаджаюсь што ў Беларусі есць этнічныя палякі, але есць і беларуская каталіцкая царква. У гэтай справе, каб Беларускі народ быў адзіны пры існаванні розных рэлігійных плыняў трэба шмат працы газэты «Беларус», каб беларуская мова і на Беларусі, у рэлігійных службах, была мовай службовай. Гэта таксама ні*

*дасці памёрці беларускай нацыі, і яе культуры. Цяпер што датычыць праграмы радыё «Свабода» на беларускай мове, я магу сказаць толькі добра. Калі я жыў там, гэта быў толікі адзін канал сапраўднай інфармацыі. Гэтыя перадачы слухаў я, а таксама некаторыя мае сябры ў Маладзечне, а таксама ў Вільні. Пярадачы вядома глушыліся ды і глушацца. Але мы слухалі іх ды і слухаюць людзі. Так у першыню я пачуў пра Кукабаку, што ён у зняволенні. Гэта было вялікае дзіва, у нас у Беларусі, дзе усе такія забітыя, во знайшоўся чалавек, Беларус, з вялікай літары. Затак усё толькі рускія або украінцы, ну і вядома літоўцы, усе болі не здавалёныя іх становішчам, усе у іх узнікаюць усялякія там групы дэмакратычныя. І шмат хто з беларусаў, трэба сказаць. далучаўся да рускіх дысыдэнтаў або украінцаў. Быць разам, німа нічога дрэннага, але галоўнае застацца Беларусам. І вось на Беларусі пачаўся рух, і добра нічым мы ні горш за іншыя народы. Што датычыць вас, то я памятаю савецкія газэты вас называлі здраднікам і фашыстам, каб людзі адхіснуліся ад радыё «Свабода», што там працуюць адны паліцаі. Але ўсё роўна людзі слухалі ды слухаюць. У тых. хто абвінавачвае вас, рукі у саміх у крыві. Мой тата правёў 15 год у табарах за Сталінам, за тое, што любіў працаваць на зямлю. «Кулак» — ды і ў Сібір. Прабачэння у яго ніхто ні папрасіў аж да гэтых часоў. Слаба яшчэ каштуе савецкая літасць да грамадзян, якія былі і есць зняволеныя за свае думкі ды словы. Мая жонка гэта спытала, калі была засуджана на 3 гады нібы за «клевету» на «советский общественны строй». Яна ж хацела быць веруючай і заставацца грамадзянінам сваёй Бацькаўшчыны і мець усе правы на жыццё. Але гэта не спадабалась Савецкай уладзе, у выніку яна апынулась у Савецкім судзе. У астатні час шмат вязняў савецкіх табароў ужо на волі, «літасць» улад. А павінна быць толькі амністыя, а адпаведныя законы, на якіх забівалась сумленне, павінны быць скасаваныя. Што датычыць Кукабакі, трэба нам усім тут дамагацца ад Савецкіх улад, каб ён быў на волі. Я згодзен і галадаваць за яго, вашыя думкі наконт гэтага пытання выкажыцца, добра? Ну і вядома і дэманстрацыі каля савецкіх установаў патрэбны. Гэта было, хай будзе на далей.*

*Вось такі прабачце у мяне атрымаўся доўгі ліст. Надта б я хацеў ведаць гісторыю Беларускай рэспублікі, у 1917 годзе, калі меець якую кніжку па гэтаму пытанню, прышліце, вядома на беларускай мове. Мы ужо вывучаем ангельскую мову. Трохі гаворым, але яшчэ цяжка. Яшчэ дрэнна, што няма хоць кароткай перадачы на беларускай мове «Голас Амерыкі»*[224]*, але гэта мусіць складанае пытанне. І яшчэ адно пытанне, як памёр наш пясняр Янка Купала, як гэта разумець трагічна, гэта пытанне савецкім уладам, але трэба паставіць яго беларусам усім, магчыма ён таксама замардаваны. Ну вось буду заканчваць, прабачце, калі што ні гэтак. Пішыця, буду вельмі рады. Калі якая праца ёсць, буду старацца дапамагчы вам. Вершы мае у ЗБВБ, якія пісаў астатнім часам. І так усяго вам найлепшага і поспехаў вам у вашай працы на карысці нашага народа. З маіх лістоў, што хочыце, можыце пячатаць у газэце.*

*Пятро Грыгальчык, Тамара Баяроўская.*

---

[224] **Радыё «Голас Амерыкі»** (анг. *Voice of America*) — радыёстанцыя з цэнтрам у Вашынгтоне, створаная ў 1942 г. У 1947 г. было арганізавана вяшчанне на рускай мове, у 1949 г. — на ўкраінскай мове, у 1951 г. — на літоўскай, латышскай, эстонскай, грузінскай, армянскай, азербайджанскай мовах. Сёння вяшчанне вядзецца на 46 мовах. Арганізаваць беларускія перадачы, нягледзячы на захады эміграцыі, не ўдалося.

## БЕЗ СТАТУСУ

Яшчэ менш пэўнасці ў тым, да якой катэгорыі залічыць беларусаў, што беглі з Бацькаўшчыны не праз гвалт або эмігравалі — не ў бок Ізраілю. Наўрад ці яны былі ці хоць бы самі сябе залічалі да дысідэнтаў. Але бясспрэчна, што гэта — іншадумцы. Хоць мо і не ў тым сэнсе, якое ўкладаў у тое азначэнне Янка Запруднік.

* * *

*21 студзеня 90 г., Eislingen/Fils*[225]

*Вельмі паважаны спадар Запруднік!*

*З пачуцьцём вялікай удзячнасьці чытаў я Ваш ліст, адрасаваны мне. Вялікі дзякуй за цёплыя словы, за калядны падарунак. Мне было вельмі прыемна адчуць, што я гэтуль, на чужыне, не адзін, што існуюць мае шматлікія землякі, раскіданыя па ўсім сьвеце, якія ў ліхую хвіліну здольныя сказаць мне такія патрэбныя зараз словы падтрымкі, неяк дапамагчы… Ведаеце, апасьля Вашых радкоў я нібыта уваскрос. Хай беражэ Вас Госпад!*

*Ну, а зараз, як Вы прапанавалі мне, распачну я скарочаны (бо ня хопіць і цэлага тому) распавяд аб сваёй долі.*

*Я нарадзіўся 15 кастрычніка 1954 г. у вёсцы Лобча Лунінецкага раёну Брэсцкай вобласьці ў сям'і служачых.*

*Па меры ўступленьня ў самастойнае жыцьцё, я вельмі хутка пачаў заўважаць яскравую неадпаведнасьць паміж тым, аб чым гаварылася з высокіх трыбунаў, і тым, што адбывалася на самой справе.*

---

[225] **Айзлінген** (ням. *Eislingen/Fils*) — невялікі гарадок у Нямеччыне, у акрузе Гёпінген зямлі Бадэн-Вюртэмберг, на рацэ Фільс.

*З'яўляючыся па натуры сваёй чалавекам адкрытым, я быў не ў стане замыкацца ў сабе і з ахвотаю дзяліўся «плёнам» свайго працьвеpажэньня з таварышамі.*

*Гэта акалічнасьць аднак вельмі хутка трапіла ў поле зроку пэўных сьпецслужбаў, і неўзабаве я быў выціснуты са сваёй першай навучальнай установы — Маскоўскага інстытуту геадэзіі, аэрафотаздымкі і картаграфіі*[226] *(1973 г.).*

*У 1974 г. я стаў студэнтам матэматыка-механічнага факультэту Ленінградскага ўніверсітэту, дзе празаймаўся да траўня наступнага году і быў адлічаны з фармуліроўкаю «па ўласнаму жаданьню» за рэдагаваньне нефармальнае сьцянное газэты, а гэтаксама з прычыны актыўнай грамадзянскай пазіцыі, адкрыўшай маім многім калегам-студэнтам вочы на такія пытаньні, як свабода перамяшчэньня, свабода абмену інфармацыяй, свабода веравызнаньня і г. д.*

*Улетку 1975 г. я паступіў у Беларускі універсітэт*[227] *на адзьдзяленьне матэматыкі, аднак у выніку бязлітаснага націску на адміністрацыю факультэту з боку супрацоўнікаў КДБ і бесперапыннага цкаваньня ў адносінах да мяне праз тры месяцы навучаньня быў вымушаны пакінуць і гэтую ўстанову.*

*У гэты час нязьмерна ўзрос ціск і на сям'ю маіх бацькоў. Вельмі часта школу, дзе працавала маці, наведвалі супрацоўнікі КДБ. Яны навіду ва ўсіх дапытвалі яе, дапытвалі малалетнюю сястру, зрываючы яе з урокаў і ўпарта ўнушаючы ёй думку аб тым, што яе брат — вораг. Наогул, аба мне сярод насельніцтва масіравана распаўсюджваліся ўсялякія гадасьці.*

*Даведзены да адчаю, у ліпені 1977 г. я ледзьве не ажыцьцявіў спробы нелегальна перайсьці савецка-фінскую граніцу з мэтаю дасягнуць Швецыі, аднак з прычынаў свае маладосьці і залішняе ўражлівасьці не разьлічыў сваіх магчымасьцяў і, уканец стомлены, быў затрыманы ў пагранічнай зоне ўзброеным нарадам.*

---

[226] Больш дакладная назва: Маскоўскі інстытут інжынераў геадэзіі, аэрафотаздымкі і картаграфіі.

[227] Маецца на ўвазе Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

*Гэтага, канешне, мне не падаравалі. Умомант я быў транспарціраваны ў псіхіятрычную лячэбніцу ў г. Петразаводску, дзе, у глыбокай таямніцы ад усяго сьвету, правёў каля 2-х тыдняў, пасьля чаго зьбег і пасьпяхова дабраўся дамоў. Справа ў тым, што ў гэтай лячэбніцы мне не давалі магчымасьці нават зрабіць паведамленьне родным. Я западозрыў няладнае. На шчасьце, спроба мне ўдалася.*

*Потым мяне, канешне, знайшлі і адправілі на так званае абследаваньне (насільна пэўна) у псіхіятрычную «бальніцу» ў пасёлку Навінкі*[228]*, што ля Менску. Але гэта было ўжо нястрашна — цяпер пра мяне ВЕДАЛІ. Прабыўшы ў гэтай лячэбніцы каля 20 дзён, я быў урэшце вызвалены і адпушчаны дадому без усялякага дурнога дыягназу.*

*У ліпені 1978 году я пасьпяхова здаў уступныя экзамены ў Маскоўскі універсітэт*[229] *на геаграфічны факультэт — гэта мне дазволілі, але як толькі высветлілася, што я праходжу па конкурсу, мяне адразу выклікалі ў дэканат, дзе ў прысутнасьці нейкіх таямнічых асобаў, якіх раней ніколі ня бачыў, мне было ясна сказана, што я не магу быць прынятым і параена прыяжджаць гэтак праз тры гады, калі я стану «па-сапраўднаму савецкім чалавекам» (!).*

*У жніўні 1978 г. я патаемна ад «ўсёбачнага вока» рэпрэсіўных органаў прыехаў у Рыгу (Латв. ССР) і паступіў у палітэхнічны інстытут. Аднак і тут я празаймаўся нядоўга — як толькі ўлады даведаліся аб маім месцазнаходжаньні, яны пусьцілі ў абарот ці не ўвесь арсенал сваіх выпрабаваных жудасных па сваёй бруднай сутнасьці прыёмаў. Займацца пры такіх абставінах стала немагчыма, і я вымушаны быў пакінуць вучобу.*

*21 траўня 1979 г. я быў раптам арыштаваны па поўнасьцю сфабрыкаванаму пад ціскам КДБ абвінавачваньню ў падробе*

228 Маецца на ўвазе **Рэспубліканская клінічная псіхіятрычная бальніца**, што знаходзіцца ў былой вёсцы Навінкі на ўскрайку сучаснага Мінска. Дзейнічае ад 1918 г. Сёння гэта найбуйнейшая псіхіятрычная клініка ў Беларусі.

229 Маецца на ўвазе Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт.

*дзяржаўных дакументаў і асуджаны на 3 гады пазбаўленьня волі.*

*У 1980 г., пасьля таго, як аба мне паведаміла адна з заходніх радыёстанцыяў, я быў вызвалены ўмоўна і ў верасьні таго ж году накіраваны ў Пермскую вобласьць на «будоўлі народнае гаспадаркі».*

*Там, узьняўшы свой голас у абарону некаторых бязьвінна пакараных людзей, 17 лютага 1982 г. я быў ізноў пазбаўлены волі і накіраваны на зону ля г. Бярэзнікі Пермскае вобласьці, дзе прасядзеў да 18 лістапада 1982 г. Такім чынам, агульны тэрмін майго пакараньня склаў каля 3,5 гадоў.*

*Пасьля прыезду да бацькоў мяне ізноў ні на хвіліну не пакідалі ў спакоі. За мною на месцы працы і пражываньня сачылі сьпецыяльна прыстаўленыя людзі, якім належала дакладваць у КДБ аб кожным маім кроку. Чаго толькі тагды не прыйшлося вынесьці!*

*У красавіку 1987 г. Я вымушаны быў зволіцца, зарвацца зь месца і зьехаць у прыгарад г. Пінска — вёску Вышэвіцы.*

*У чэрвені 1987 г. ізноў пайшоў працаваць, аднак з-за нязноснага свавольства адміністрацыі, што дзейнічала ў адносінах да мяне яўна па нечаму ўказаньню, ужо ў верасьні вымушаны быў зволіцца.*

*З кастрычніка 1987 г. паступіў на працу на новае прадпрыемства (адзначу, што паўсюдна я працаваў толькі мастаком).*

*Гарбачоўская перабудова, з'яўляючыся па-сутнасьці сваёй чыста дэкларатыўнай акцыяй, тым не менш у нейкай меры ўскалыхнула соннае запрыгоненае грамадства. Народ, які адчуў паслабленьне, пачаў падымаць галаву. Не верачы да канца ў шчырасьць крамлёўскага кіраўніцтва, я, тым не менш, не пажадаў заставацца ўбаку ад таго новага і прагрэсіўнага, што пачало ўзьнікаць у грамадстве.*

*У пачатку 1989 г. мною была створана першая ў г. Пінску група падтрымкі Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Затым аналагічныя групы пачалі ўзьнікаць і на другіх прадпрыемствах горада ды па месцы жыхарства.*

*Улетку 1989 г. на масавым устаноўчым сходзе, што адбыўся кансьпэратыўна, я быў абраны адзінагалосна кіраўніком Пінскага рэгіянальнага адзьдзяленьня БНФ. Крыху раней у г. Пінску мною было створана гісторыка-асьветніцкае таварыства «Пагоня», галоўная мэта якога — уздым страчанай нацыянальнае самасьвядомасьці беларусаў.*

*Я актыўны ўдзельнік большасьці мітынгаў, дэманстрацый, іншых акцыяў, што ладзіліся па ініцыятыве БНФ, дэлегат устаноўчага з’езду БНФ у Вільні, член рэдакцыйнае камісіі БНФ і, магчыма, камісіі па міжнародных сувязях (не ведаю — пры мне такія размовы былі).*

*Кіруючая бюракратыя не падаравала мне маіх паводзінаў — 7 красавіка я быў зноў звольнены з працы. Моцна раздразьнілі яе і мае артыкулы (асабліва аб мітынгу на стадыёне «Дынама» у Менску 19 лютага*[230]*, што быў надрукаваны ў беластоцкай «Ніве»).*

*Пасьля атрыманьня запрашэньня наведаць ФРГ не бяз цяжкасьцяў знайшоў работу. Быў ініцыятарам і вёў актыўную падрыхтоўку да агульнагарадскога мітынгу ў Пінску. Напэўна баючыся надалейшага руху падзеяў у Пінску ды рэгіёне, улады са здзіўляючай хуткасьцю выдалі мне замежны пашпарт і нават параілі не зьвяртацца.*

*Але ня іх парадамі я кіраваўся, калі прымаў рашэньне застацца на Захадзе.*

*Галоўная мая мэта — гэта ажыцьцяўленьне планамернай дапамогі маім сябрам па барацьбе, якія захінаюцца ў бюракратычным камуністычным пекле. Я ведаю, як нам у Пінску (ды ў Беларусі наогул) патрэбна памнажальная апаратура, неабходная для тыражыраваньня нашых матэрыялаў. Я зраблю ўсё ад мяне залежачае, каб выканаць свае абяцаньні. Але для гэтага неабходна як мага хутчэй працаваць, каб мець грошы.*

---

[230] Маецца на ўвазе шматтысячны мітынг, арганізаваны на мінскім стадыёне «Дынама» з ініцыятывы Беларускага народнага фронту і Канфедэрацыі беларускіх суполак 19 лютага 1989 г.

*Усё ўпіраецца ў гэты чортавы «азыль»*[231]*. Гэтуль, у ФРГ, такія пытаньні вырашаюцца, на жаль, не адразу. Я ўжо і на ЗША паперы аформіў праз «Талстой фаундэйшэн»*[232] *у Мюнхэне. А тут яшчэ ліст з дому атрымаў — жонку маю Алену, з маленькім дзіцяткам, не выпускаюць, сволачы, хаця яна такое ж запрашэньне мае. Трэ было нам тагды разам ехаць — але дужа ж маленькім быў сыночак, думалася — хай падрасьце крыху, а я тым часам нешта гэтуль прыдбаю. Так хочацца хутчэй іх адтуль з гэтае радыяцыі ды зьдзекаў наменклатуры вырваць.*

*Не, аб звароце назад не можа быць і гаворкі. Няхай тут і цяжка будзе наперш. Няхай і адзін я пакуль і бяз грошай. Але — свабода! Яна даражэй за ўсё.*

*Апрача ўсяго, я ня веру ў пераўвасабленьне камуністычнага рэжыму, які на працягу 70 гадоў тэрарызаваў і прыгнечваў парабчоны народ, а зараз раптам, ні з таго, ні з гэтага, стаў гуманным.*

*Гуманізм чужы сацыялізму, паколькі падпісвае яму сьмяротны прыгавор. А на дабрачынную сьмерць камуністычная сістэма, пад якой маскаю яна ні хавалася — ці то хрушчоўскай адлігі, ці то брэжнеўскае рэформы, ці гарбачоўскае перабудовы — ніколі ня пойдзе.*

*Цяперашняя перабудова ў маёй краіне — ня больш, як спрытны, прадуманы трук, народжаны ў крамлёўскіх нетрах і скіраваны на часовае закалыхваньне тых, хто сёньня ўжо гатовы сьнінуць рабскія кандалы і занесьці сякеру над галавою ўладарачага тырана.*

*Цяперашняя «перабудова» — гэта гіпертрафіраванае жаданьне збанкручанага, настоянага на злачынствах і чалавечае крыві рэжыму ў чарговы раз пусьціць пыл у вочы сусьветнай*

---

[231] **Азыль** (ад анг. *right of asylum*) — права на прытулак, вызнаванае міжнароднай супольнасцю.

[232] **Талстоўскі фонд** (анг. *Tolstoy Foundation*) — дабрачынная арганізацыя, заснаваная ў Нью-Ёрку (ЗША) у 1939 г. дачкой знакамітага рускага пісьменніка Льва Талстога Аляксандрай з мэтай дапамогі расійскім эмігрантам. Фонд дапамагаў уцекачам, перамешчаным асобам і інш.

*грамадскасьці, каб супакоіць яе ўзрушаную сьвядомасьць і тым самым хоць на імгненьне адцягнуць свой немінучы канец.*

*Ну вось і ўсё з большага, што я магу сказаць пакуль аб сабе. На жаль, гэта яшчэ далёка-далёка ня ўсё. «На жаль» таму, што з-за надзвычай буйнога аб'ёму гэта ўсё маё жыцьцё-быцьцё, як я ўжо адзначыў у самым пачатку, ня ўлезе ў рамкі звычайнага лісту. Дапамажыце мне дасягнуць спамянутага вышэй! Зразумела, калі гэта магчыма.*

*На гэтым закончу. Пішыце, калі ласка!*

*З найлепшымі пажаданьнямі і вялікаю павагаю да Вас*

*Анатоль Казлоў.*

*PS. Недалёка ад Нью Ёрку, у Нью Брансвіку па вуліцы Болдвін Стрыт, 68 пражывае мой вельмі добры сябра Васіль Стома*[233]*. Мы перапісваліся зь ім, але тут, у ФРГ, я ня мею ягонага дакладнага адрысу. Ці можаце Вы дапамагчы мне наладзіць сувязь з гэтым чалавекам?*

*Вялікі дзякуй за нумар «Беларуса»! Я адчуваю вострую неабходнасьць у такой літаратуры, а гэтаксама ў выданьнях БНФ, бо, пачынаючы з 9 нумара «Навінаў»*[234]*, я ужо нічога не чытаў. Ці магчыма прыслаць копіі?*

*І яшчэ для інфармацыі паведамляю, што я выехаў з СССР 21 верасьня 1989 г. і прыехаў у ФРГ 22 верасьня.*

---

[233] **Васіль Стома** (1911–1992), пісьменнік, грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у ЗША. Быў адным з заснавальнікаў аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Нью-Джэрсі. Аўтар успамінаў «Маё мястэчка» (Мінск, 2014).

[234] **«Навіны БНФ "Адраджэнне"»** — газета, орган Беларускага народнага фронту «Адраджэнне», якая выдавалася ў Мінску ў 1988–1994 гг.

*7 лютага 1991 г., Uhingen-Holzhausen*[235].

*Вельмі паважаны сп. Запруднік!*

*Дазвольце выказаць у адносінах да Вас шчырае ўдзячнасьці за тую дбайнасьць із Вашага боку, якую я меў адчуць, атрымаўшы ад Вас чарговы нумар газэты «Беларус».*

*Справы мае ідуць у нармальным рэчышчы. У хуткім часе скончыцца тэрмін наведваньня школы для аусзідлераў*[236]*. Потым стане лягчэй.*

*Хачу адзначыць, што знаёмства з беларусамі-эмігрантамі, як вочнае, так і завочнае, прынесла мне роспач і няверʼе ў іх. Наагул, беларускага ў іх, акрамя паходжаньня ды ўласьціваe лагоднасьці да праяваў нейчага не зусім здаровага напрамку дзеяньняў, мала чаго засталося. Як бачыцца, прыкметы гэтае спрадвечнае хваробы не змаглі, на жаль, вытруціць нават доўгія гады жыцьця ў вольных краінах. Тым ня менш, мне не давялося сярод гэтых людзей стрэць амаль нікога, хто не прэтэндаваў бы на адмысловае веданьне сітуацыі на Бацькаўшчыне. Шматгадовая адарванасьць ад радзімы, далёкасьць як фізычная, так і інтэлектуальная, ад грамадзка-палітычных працэсаў, якія там адбыліся апошнім часам, не пакідае нам шансаў на пасьпяховую пэрспэктыву беларускае эміграцыі. Шкада…*

*На заканчэньне хачу пажадаць Вам шчасьця й посьпехаў у працы, якая мусіць існаваць, як я гэта зразумеў, у вельмі складаных умовах.*

*Шчыра Ваш*

*Анатоль.*

* * *

*7.05.90*

*Паважаная рэдакцыя!*

*Звяртаюся да Вас, бо не маю а ні воднага роднага чалавека хіба добрага знаёмага на Захадзе, спасобнага дапамагчы.*

---

[235] **Уінген** (ням. *Uhingen-Holzhausen*) — мястэчка ў Нямеччыне, у акрузе Гёпінген зямлі Бадэн-Вюртэмберг, на рацэ Фільс.

[236] ***Aussiedler*** (ням.) — эмігрант.

*Восем месяцаў таму я збёг з бальшавіцкага раю і звярнуўся да швэцкіх улад аб палітычным зховішчы, і вось зараз мне гавораць, што я ні маю прычын для гэтага статусу, а калі так, то мне пагражае «дэпартацыя» ў Гарбачоўскую «дэмакратыю».*

*Каб не паказацца чорным катом у чорным мяшку, слова-другое аб сабе.*

*Мне зараз 29 гадоў. Пасля сярэдняй школы скончыў лётнае вучылішча грамадзянскай авіацыі і лётаў 4 гады ў сельска-гаспадарчай авіяцыі на Гомельшчыне. Сутыкнуўшыся з татальным гаспадарчым бардаком і непрыкрытай карупцыяй, вырашыў знайсці іх крыніцу і паступіў на вучобу ў Маскоўскі інстытут міжнародных спраў*[237] *на факультэт міжнародных эканамічных адносін. (У гэты час я меў неразвенчаныя ілюзіі аб добрым Леніне і ні меньш добрым марксізме, які трафіў не ў зусім добрыя рукі). Але, маючы час для працы галавой (у чырвонасцяжным «Аэрафлоце»*[238] *мець нешта пад чарапной каробкай вельмі турботна), я быстра зразумеў, што камунізм не проста непрэтваральны, у прынцыпе гуманны ідэал, а вельмі злая і экспансіўная ідэалагічная параноя, 70 гадоў сасучая лепшыя сокі ў той лічбе і з Беларусі. З такімі думкамі ў гэтым наменклатурным інкубатары, пускаючым на свет ідэалагічных міліцыянераў, я пратрымацца не мог і неўзабаве нажыў сабе праблемы з КГБ. (Быў арыштаваны ў Маскве ля Калумбійскага пасольства, дзе я меў знаёмага і планаваў цераз яго зрабіць брак, каб пакінуць «першую краіну сацыялізму». Тут трэба спыніцца, каб была зразумела людзям з захаду, чаму з калумбійцам? Гэтыя «гістарычныя» падзеі адбываліся ў 1985 годзе, калі ў Маскве сустракацца з інастранцам было крымінальным для любога, не гаворачы пра студэнтаў вышэй названага інстытуту ленінска-сталінска-брэжнеўскіх міжнародных спраў, якія давалі падпіску аб забраненні «несанкцыяраваных кантактаў» з іна-*

---

[237] Відаць, маецца на ўвазе Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносінаў (рус. *Московский государственный институт международных отношений — МГИМО*).

[238] **«Аэрафлот»** (рус. «Аэрофлот») — савецкая дзяржаўная, пазней расійская авіякампанія, заснаваная яшчэ ў 1923 г.

*странцамі. Таму сустрэча ў кнігарні (мы шукалі адну кніжку) з калумбійцам паказалася мне шансам выбрацца з таго балота, у якое я па добрай сваёй волі ўлез).*

*Пасля дапросаў на Лубянке быў выпушчаны на волю ад усяго. 8 месяцаў (гэта было ў пачатку перабудовы, калі яшчэ КПСС была самай лепшай у свеце і безрабоціцы не было) я не мог ні куды прыстроіцца на працу, як-небудзь прымітыўную для майго адукацыйнага ўзроўню, і пайшоў чорнарабочым на «Минский кирпичный завод». Не буду займаць Ваш час расказамі, як прыемна там працаваць «свабоднаму пралетарыяту», і не толькі там. Скажу толькі, што ўсе мае папыткі вастанавіць сваю прафесію ні ў Мінску, ні ў Гомелі, ні ў Элісце (той самай, дзе заразілі 26 дзяцей Спідам[239]) ні чым для мяне прыемным не закончыліся.*

*З апошняга свайго месца працы — Мінскага камвольнага камбінату — я «уволился по собственному желанию» за то, што арганізаваў групу падтрымкі Беларускага Народнага Фронту, што вельмі не спадабалася свінапасам з чырвонымі картонкамі ў кішэнях, якія называюць сябе адміністрацыяй.*

*Гэта было ў пачатку 1989 года. У гэты-ж час я падаў дакументы на эміграцыю ў ЗША цераз амерыканскае пасольства ў Маскве, бо проста змарыўся даказваць, што белае — гэта белае, а чорнае — чорнае. Але сустрэчу з прадстаўнікам службы эміграцыі і натуралізацыі мне назначылі толькі праз год, т. е. у пачатку 1990 года. Цэлы год вытрымаць у царстве крыўды я не мог не толькі і не столькі не маючы крыніц існавання, а па маральна-псіхалагічным прычынам: слухаць балтаўню пра перабудову я не магу, бо ведаю, што сістэма не перабудоўваецца, а толькі знішчаецца, і каб справа фактычна стаяла ў гэтым сэнсе, то яе, гэтую перабудову, можна было б зрабіць так-жа скора, як у свой час Ленін зрабіў сваю. Больш таго, несфармуляванасць мэтаў перабудовы (гэта замеціў яшчэ пакойны акадэмік Сахараў) застаўляе прызнаць сэнс гарбачоўскай*

239 Маецца на ўвазе першае ў СССР масавае заражэння ВІЧ-інфекцыяй, што было выяўлена ў 1988 г. у г. Эліста (Калмыцкая АССР). Паводле даследавання, сярод ВІЧ-інфекаваных было больш за 70 дзяцей.

*улады ні чым ні адлічным ад Ленінскага: перманентная крыўда і насілле дзеля самой-жа ўлады. (За прыкладамі далёка ня трэба хадзіць — дастаткова паглядзець у бок Літвы.)*

*Ня маючы вакол сябе аднадумцаў, я апынуўся ў інфармацыйным і чалавечым вакууме, які асабліва цяжкім быў у апошні час жыцця ў Саюзе. Такім чынам я апынуўся ў Швецыі, якая падвярнулася мне цераз маладзёжную арганізацыю па кантактам з савецкай моладдзю скандзінаўскіх краін «Next stop».*

*І вось зараз я ведаю ад шведскага ўраду, што не маю прычынаў…*

*Што-ж, зразумела, калі лес рубяць, то трэскі ляцяць. Калі мне не змяняе памяць, то Чэрчыль*[240] *гаварыў: «Англія не мае пастянных сяброў. Англія мае пастаянныя інтарэсы». Гарбачоў — лепшы кіраўнік для Захаду, якога гасподзь Бог паслаў у Расію за апошнія 70 гадоў. Але згадзіцеся, вельмі непрыемна адчуваць сябе той трэскай, якое выскаквае з-пад сякеры і будзе спалена разам з астатнім смеццем пасля галоўнай працы.*

*Патаму і звяртаюся да Вас с просьбай аб ратаванні. Ведаю, што Амерыканскія, Канадскія і Аўстралійскія ўлады патрабуюць паперу аб спонсарстве эміграцыі. Разумею, што 30-гадовага бэйбуса, нікому незнаёмага, вельмі цяжка параіць каму-небудзь, але ў сваё апраўданьне магу сказаць, што не баюся ні якай працы і не маю розавага свету ў вачах аб бліжэйшай сваёй будучыні на Захадзе.*

*Ведаю таксама, што рэдакцыя газеты не займаецца падобнымі справамі. Але калі мой спешны стыль (я, можа, яшчэ з месяц пратрымаюся ў Швецыі) не пакажацца зусім дрэнным, а сказанае мной колькі-небудзь інтарэсна, то прашу змясціць мой ліст у газеце — можа хто адклікнецца. Калі няма такой магчымасці, прашу выслаць гэтае звяртанне на адрасы беларускіх грамад ці цэркваў, якія вы ведаеце. Так-сама спадзяюся на скорае Вашае слова ў мой бок.*

*Dobrinevsky Sergey.*

---

[240] **Уінстан Чэрчыль** (анг. *Sir Winston Leonard Spenser-Churchil,* 1874–1965), брытанскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, прэм’ер-міністр Вялікабрытаніі ў 1940–1945 і 1951–1955 гг.

*PS. Прабачце за дрэнную беларускую мову — жыццё ў савецкай Беларусі не праходзіць дарма. Таксама прабачайце і за чыстапісанне — сёння трэба яшчэ шмат напісаць, і для перапісвання ня маю часу.*

*З найлепшымі жаданнямі да Вас —*

*Дабрынеўскі Сяргей.*

* * *

*[Сакавік 1995]*

*Привет, земляки.*

*Извините за беспокойство, но у меня к Вам есть дело. Я недавно вместе со своей семьей 12/20/1994 иммигрировал из бывшего СССР. Я привез с собой свои литературные и философские произведения, которые я не мог издать в бывшем СССР по причине невозможности с моей стороны выполнения условий, которые поставило мне издательство, так и оставшемся коммунистическим. В законченном виде у меня есть две книги. Одна в объеме 680 страниц машинописного текста. Другая в объеме 600 страниц. Обе на руском языке. Обе книги многоплановые и охватывают события с 1600 и до августа 1991 г. Название книг «Над бездной». Начало описываемых событий происходит в Москве. Описан русский бунт. (В третьей моей книге, которую я уже заканчиваю писать, дан нестандартный философский анализ событиям, описываемым в моих первых двух книгах.) Через жизнь одного рода, покинувшего Москву в период бунта и переселившегося в Белорусь, показана жизнь Белоруского народа. Описана гражданская война на територии Белоруси. Отрожена жизнь и сопротивление тоталитарному режиму людей послевоенного поколения. Описано восстание в 1959 г. под Карагандой в Темир-Тау и растрел участников того восстания*[241]*. Показана роль КГБ, спровоцировавшего забастовавших рабочих на востание, приведшая к трагедии.*

[241] Маецца на ўвазе паўстанне будаўнікоў казахстанскага горада Цеміртау, што адбывалася 1–4 жніўня 1959 г. Будаўнікі пратэставалі супраць нялюдскіх умоваў працы, праблемаў з вадой і харчаваннем. Для задушэння паўстання былі выкарыстаныя войскі. 11 чалавек былі забітыя.

*Третья моя книга которую я заканчиваю писать называется «Философский ключ к жизни и к истории земной цивилизации». Чтобы третья моя книга не стала достоянием узкого круга моих возможных читателей я пишу её в литературно-философском ключе общедоступном для понимания и интересным для широкого круга читателей. Мое литературно-философское произведение нестандартно освещает прошедшую историю народов. Прошедшую историю Земной цивилизации. Раскрывает причины гибели древних цивилизаций, в том числе причины гибели древних цивилизаций Америки, нестандартный философский подход к проблемам открывает возможность составлять анализ-прогнозы событиям сегодняшнего дня, переходящим в будущее. Дает возможность повлиять на негативные процессы на стадии их зарождения, чтобы избежать трагедии, подобно трагедиям, происходящим сегодня на территориях бывшего СССР и в других регионах. Предотвратить революции, мятежи, войны. По сути я в своей третьей книге открываю новое философское направление, которое я хочу сделать общедоступным для понимания широкого круга читателей. Мои философские мысли равномерно распределены в философско-литературном произведении моей третьей книги. В третьей моей книге есть описание гладиаторских боев на арене древнего Рима. Есть описание похода для завоевания всего мира. Есть битвы, победы, поражения. Есть амазонки, приводящие в ужас своей храбростью победоносные армии мужчин воинов. Есть умные и глупые короли. Есть дворцовые интриги и заговоры, приводящие к свержению одних королей и возведению на трон других королей. Есть любовные интриги. Есть беззаветная любовь. Есть измена в любви. А вообще не стоит на двух страницах пытаться описать содержание трех книг общим объемом около 1600 стр. и одной из них литературно-философской. Немного о себе. Уроженец Белоруси Гомельское обл. г. Ветка. Воспитан в детдомах. В 1952 г. в числе других был отправлен на Южный Урал г. Магнитогорск. Там нам детдомовцам с Белоруси и с Украины было запрещено говорить на своей родной мове. В Белорусию я вернулся только*

*в 1969 г. Работал в Речицкой нефтеразведочной экспедиции. Потом в Калиновичской нефтеразведочной экспедиции. Создал антикоммунистическую подпольную организацию. Весной 1974 г. уехал в Казахстан. Вернулся в Белорусь осенью 1979 г. И поселился в г. Ветке Гомельской области. В марте 1980 г. мой дом в Ветке, где я жил вместе со своей семьей, оцепило КГБ. Я был арестован и отвезен в КПЗ г. Гомеля. Три дня шла тяжба между Белоруским КГБ и КГБ Казахстана кому я должен достаться. Улики КГБ Казахстана против меня были основательны, и я был этапирован в г. Актюбинск. Провалов в Белоруси небыло. В заключении я пробыл с 1980 по 1984 г. После освобождения местом жительства мне был определен г. Актюбинск. По причинам экономическим, а больше политическим, я не мог вернуться в Белорусь. Эмигрировать в Америку в качестве беженца оказалось доступней.*

*Напишите мне о возможности издания моих книг в Вашем издательстве.*

*С уважением*

*Гриськов Роман Яковлевич.*



*Цяжка дыхаецца ў Нью-Йорку і ў пераносным, у маральным сэнсе, у сэнсе яго духоўнай атмасферы. Аб чым я ўжо пачынаў гаварыць. Трэба дадаць яшчэ, што ў гэтай атмасферы выразна адчуваюцца вірусы сацыяльна-класавай узаемаадчужанасці, міязмы недаверу і варожасці паміж прадстаўнікамі розных нацыянальных груп і рас. Візуальна адзначаеш, што кожны тут трымаецца свайго «проса» або сваёй нацыянальнай «кватэры». Атручваецца паветра Нью-Йорка ядамі антыкамунізму, цяжкім дыханнем нашых ідэалагічных ворагаў. Наша літаральна першая спроба паглядзець горад, у прыватнасці, прайсціся па вуліцах таго раёна Манхетэна, дзе знаходзяцца тры савецкія прадстаўніцтвы пры ААН, скончылася даволі драматычна. Мы амаль лоб у лоб сутыкнуліся з натоўпам украінскіх нацыяналістаў, якія потым некалькі гадзін шалелі каля будынка прадстаўніцтваў. За пўгоддзе — тут ужо існуе нават свая статыстыка — у горадзе адбылося мноства ўсемагчымых правакацый, дэманстрацый, вылазак, скіраваных супраць савецкіх людзей. (Да гэтай дзейнасці, вядомая справа, не мае ніякага дачынення працоўны Нью-Йорк.)*

*Анатоль Вярцінскі. Нью-йоркская сірэна*

## «ГОЛАС РАДЗІМЫ»

Гаворачы пра сувязі з метраполіяй, ніяк нельга абмінуць газету «Голас Радзімы», былую «За вяртанне на Радзіму», «завяртанку». Дасылалася яна заўсёды бясплатна, сама шукала і знаходзіла (!) адрасы беларусаў у замежжы. Але і па-за дасылкаю нумароў і выданняў уласнай кніжнай, дакладней, брашуркавай серыі не цуралася асабістага падыходу. Гэта быў першы афіцыйны кантакт з Бацькаўшчынаю, хоць і вельмі ж своесаблівы.

*Паважаны суайчыннік П. Янкоўскі!*

*Штодзённа ў рэдакцыю прыходзяць пісьмы ад нашых чытачоў. Землякі дзеляцца сваімі асабістымі навінамі, расказваюць аб рабоце ў патрыятычных арганізацыях, выказваюць сваю думку аб важнейшых падзеях і г. д. Але ёсць тэма, якая прысутнічае амаль у кожным пісьме — тэма Радзімы, роднай Беларусі.*

*У кожнага чалавека ў душы жыве свой сімвалічны вобраз, з якога пачынаецца глыбокае і ўсеабдымнае паняцце Радзіма. Для аднаго — гэта залітае сонцам пшанічнае поле дзе-небудзь на Брэстчыне. Для другога — пах чаромхі, што расла за ваколіцай роднай вёскі над Дняпером. Трэці і ў сне бачыць сцежку, што вяла да бацькоўскага дома, які ён пакінуў шмат год назад.*

*Напэўна, падобны вобраз жыве і ў Вашым сэрцы, дарагі зямляк. Які гэта вобраз? Што ўспамінаецца Вам, калі Вы думаеце аб родным краі?*

*Ведаю, што на чужыне чалавека ні на мінуту не пакідае туга па родных месцах. Гэтае пачуццё — пастаянны спадарожнік эмігранта. Як Вы лічыце, чаму людзей, якія доўгія гады жывуць удалечыні ад зямлі, дзе яны нарадзіліся, не пакідае пачуццё прывязанасці да Радзімы? Чаму гэтую сваю любоў Вы, нашы землякі, перадаеце сваім дзецям і ўнукам?*

*З нашай газеты, дарагі чытач, з іншых прагрэсіўных выданняў, Вы, вядома, ведаеце аб тых зменах, якія адбыліся на Радзіме за гады Вашай адсутнасці: у Беларусі з дапамогай іншых сацыялістычных рэспублік створана развітая эканоміка, пераўладкавана на новых асновах праца і быт людзей. Змяніўся і сацыяльны клімат: усталяваліся новыя грамадскія адносіны, змянілася становішча чалавека, ды і сам чалавек стаў іншым, бо ён жыве ў грамадстве, дзе ўсе роўныя, дзе жыццё заснавана на давер'і, супрацоўніцтве і брацкай узаемадапамозе. Як Вы адносіцеся да гэтых змен? Калі Вы наведвалі Беларусь, то Вам лягчэй меркаваць аб гэтым, у Вас ёсць магчымасць параўноўваць мінулае і сучаснае нашага народа. Калі Вы сустракаліся са сваімі землякамі на Радзіме, напэўна, можаце аб іх многае сказаць. Якія, на Вашу думку, адметныя рысы савецкага чалавека? Што Вам імпануе ў ім?*

*Буду вельмі ўдзячны, калі згодзіцеся напісаць нам аб тым, што Вы думаеце аб Радзіме, аб сваіх пачуццях, аб адносінах да свайго народа і да т. п. Загадзя дзякую і чакаю адказу.*

*З павагай,*

*Рэдактар газеты «Голас Радзімы» В. Мацкевіч*[242].

*12 красавіка 1972 г.*

*Паважаны П. Янкоўскі!*

*Я атрымаў Ваша пісьмо, але, на жаль, з адказам крыху затрымаўся. Толькі збіраешся сесці, каб напісаць некалькі радкоў, дык абавязкова знойдзецца якая-небудзь неадкладная справа.*

*Мне прыемна было даведацца, што Вы атрымалі нашы кніжкі і што яны прыйшліся Вам да густу. Магчыма, у бліжэйшы час мы зможам даслаць Вам і чацвёрты том БелСЭ*[243]*. Наогул,*

---

[242] **Вацлаў Мацкевіч** — журналіст, рэдактар газеты «Голас Радзімы» і аўтар шэрагу кніг, прысвечаных эмігрантам, што выйшлі ў серыі «Бібліятэчка газеты "Голас Радзімы"».

Астатнія лісты падпісаныя Ул. Мялешкам. І на капэрце гэтага недатаванага ліста таксама стаіць прозвішча Мялешкі.

[243] **БелСЭ — Беларуская савецкая энцыклапедыя** ў 12 тамах. Выходзіла ў 1969–1975 гг.

*рэдакцыя не займаецца распаўсюджваннем літаратуры, але часам мы выконваем тую ці іншую просьбу нашых знаёмых.*

*Дарэчы, мне як супрацоўніку рэдакцыі і як журналісту цікава было б пазнаёміцца з Вамі. Хацелася б, каб Вы крыху больш расказалі пра сябе, пра тое, як уладкаваліся ў далёкай краіне. Спадзяюся, што такое знаёмства будзе спрыяць развіццю нашай перапіскі, нашых далейшых адносін з Вамі.*

*Вельмі прыемна, што Вы, дарагі зямляк, жывучы на чужыне, не забылі сваю родную мову і дзетак сваіх таксама вучыце, каб разумелі яе. Спадзяюся, што і вашы бліжэйшыя сябры таксама памятаюць і любяць Беларусь.*

*Цікава, з кім з землякоў-беларусаў Вы сустракаецеся? Магчыма, хто з іх таксама хоча атрымліваць «Голас Радзімы»? Напішыце нам аб гэтым.*

*Дарэчы, хачу ад свайго імя і ад імя сваіх калег падзякаваць Вам за слушныя парады і за добрыя выказванні адносна нашай газеты.*

*Чакаю Вашага хуткага адказу.*

*З павагай*

*Ул. Мялешка.*

*18.VI.73 г.*

*Паважаны П. Янкоўскі!*

*Сусветны друк, радыё і тэлебачанне ў гэтыя дні ўдзяляюць вялізарную ўвагу візіту Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева ў Злучаныя Штаты*[244]*. Бо сустрэча лідэраў дзвюх вялікіх дзяржаў адпавядае жыццёва важным інтарэсам ня толькі савецкага і амерыканскага народаў, але і служыць далейшаму аслабленню напружанасці, умацаванню міру ва ўсім свеце.*

*Вядома ж, нашых землякоў таксама хвалюе сустрэча на вышэйшым узроўні ў Вашынгтоне. Чаго чакаеце Вы ад гэтай сустрэчы? Як аднесліся простыя амерыканцы да гэтага візіту?*

---

[244] Візіт Леаніда Брэжнева ў ЗША для спаткання з амерыканскім прэзідэнтам Рычардам Ніксанам адбыўся ў чэрвені 1973 г.

*Ці апраўдаліся Вашы надзеі на сустрэчу двух лідэраў? Якая Ваша ацэнка дыялога на вышэйшым узроўні?*

*Хачу загадзя падзякаваць Вам за хуткі адказ.*

*З павагай*

*У. Мялешка.*

*12.V.76 г.*

*Паважаны П. Янкоўскі!*

*Хачу, хаця і са спазненнем, падзякаваць Вам за станоўчы водгук пра БелСЭ і іншых выданнях, што з'явіліся летась у Беларусі. Прыемна было таксама пачуць добрае слова і пра «Голас Радзімы», які, я спадзяюся, Вы атрымліваеце рэгулярна і ў гэтым годзе.*

*Дарэчы, сёлета краіна, у якой Вы жывеце, адзначае сваё двухсотгоддзе. Гэта — вялікі юбілей, і амерыканцы, вядома, будуць яго шырока святкаваць. Што ж, адзначаць юбілеі не толькі прыемна, але і карысна: можна агледзецца назад, ацаніць зробленае, уявіць будучае, зыходзячы з сучаснага…*

*Якое ж яно — сучаснае Злучаных Штатаў? Не скідваючы з рахунку несумненныя поспехі краіны, сёння любы аб'ектыўны назіральнік вымушаны адзначыць, што гэта грамадства — хворае. І многія сімптомы хваробы — інфляцыя, звязаныя з ёй беспрацоўе, павышэнне цэн, рост злачыннасці — бачны кожнаму. Іншая справа, якія вывады робяцца з назіранняў.*

*Амерыканцы, урэшце як і іншыя людзі, любяць параўнанні. Але сёння параўнанні не ў карысць іх радзіме. Возьмем для прыкладу дасягненні ў розных галінах жыцця буржуазнага грамадства ў ЗША, якое існуе ўжо 200 гадоў, і дасягненні сацыялістычнай дзяржавы, якой яшчэ няма і шасцідзесяці. Вось толькі некалькі параўнанняў. Прыблізна ў той жа перыяд, калі працоўныя Расіі, скінуўшы цара, пачалі будаваць новае жыццё, Злучаныя Штаты сталі вядучай сілай сусветнага імперыялізму. І менавіта тады амерыканскі капітал узначаліў рэакцыйныя сілы свету, каб скінуць законную Савецкую ўладу працоўных. У СССР выконваліся паспяхова першыя пяцігодкі, а у Злучаных Штатах гаспадарыла «вялікая дэпрэсія». І сёння савецкія*

*людзі, паспяхова выконваючы сацыяльна-эканамічныя задачы дзесятай пяцігодкі, жывуць усё лепш. У Амерыцы — 14 мільёнаў чалавек жывуць на розныя віды дапамогі. У сацыялістычным грамадстве ўсе людзі роўныя ў сваіх правах, у нас няма «ніжэйшых класаў», а ў «свабоднай» Амерыцы і сёння да чалавека адносяцца з пагардай з-за таго, што ён негр.*

*Такія параўнанні можна прадоўжыць. Але мне хацелася б пачуць і Вашу думку, дарагі зямляк.*

*Чакаю Вашага адказу.*

*З павагай*

*У. Мялешка.*

*P. S. У бліжэйшы час вышлем сёе-тое з кніжак.*

## ДАЛІКАТНАСЦЬ АЙЦА НАДСОНА

*15 сакавіка 1973.*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*Пасылаю Вам два прыклады фальсыфікацыі фактаў у першым томе «Гісторыі БССР»*[245]*. Ня ведаю, ці Вы ўжо маеце гэтую кнігу. Яна падзелена на разьдзелы, якія звычайна складаюцца зь некалькі частак. Звычайна кожная частка напісана іншым аўтарам.*

*Як можаце бачыць, паміж арыгінальным тэкстам «Баркулабаўскага летапісу» і тым, што кажа Абэцэдарскі*[246]*, існуе паважная разьбежнасьць. Я ўжо не кажу нічога пра ягоную сумніўную інтэрпрэтацыю «людзей учцівых».*

*Справа трактоўкі Падокшыным*[247] *Скарынінскага тэксту яшчэ больш непрыемная. Ён падае Евангельскую цытату, ужытую Скарынам, за словы самога Скарыны, і надае ім значэньне зусім адваротнае, чым у арыгінальным, Евангельскім і Скарынінскім, тэксьце.*

---

[245] Гісторыя Беларускай ССР: у 5 т. / Гал. рэд. калегія: І. Ігнаценка (старш.). Мінск: Навука і тэхніка, 1972–1975.

[246] **Лаўрэнці Абэцэдарскі** (1916–1975), гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар. У пасляваенны перыяд быў стваральнікам і лідарам навуковай школы вывучэння дасавецкага перыяду гісторыі Беларусі. Сярод іншага, аўтар прац: *«Белорусы в Москве в XVII в.: Из истории русско-белорусских связей»* (1957), *«Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI — XVII вв.»* (1978).

[247] **Сямён Падокшын** (1931–2004), філосаф, гісторык, культуролаг, доктар філасофскіх навук. Сярод іншага, аўтар прац: «Рэфармацыя і грамадская думка Беларусі і Літвы (2-я палова XVI — пачатак XVII ст.» (1970), «Скарына і Будны: Нарыс філасофскіх поглядаў» (1974), «Францыск Скарына» (1981), «Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага» (1990).

*«Гісторыя Беларускай ССР» выдаецца Акадэміяй навук і мае быць аўтарытэтнай працай у галіне гісторыі Беларусі. Цікава, колькі нясьведамых чытачоў, якія ў добрай веры будуць карыстацца ёю, яна ўвядзе ў блуд? Дзеля гэтага ці ня варта падаць гэтыя факты сьведамага фальшаваньня гісторыі Беларусі да шырэйшага ведама, ня толькі на беларускай, але і на ангельскай мовах?*

*З пашанай да Вас,*

*а. А.*

*10 лютага 1973.*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*Дзякую за ліст і за Вашы новыя адрасы. Адносна супрацоўніцтва, аб якім гаворыце ў папярэднім лісьце, дык буду старацца памагаць у будучыні, чым магу.*

*Вы, напэўна, чыталі артыкул Броўкі*[248] *пра Якуба Коласа ў леташнім № 10 часопіса «Soviet Literature»*[249]*. Я думаю, што гэта вельмі дрэнны артыкул. Броўка прадставіў Коласа, як нейкага жабрака, які не хадзіў у ніякую школу і толькі тое й рабіў, што вучыўся ў расейскіх пісьменьнікаў. Між іншым, адносна гэтага апошняга пункту варта прыпомніць, што Колас сам сказаў (гл. артыкул Пшыркова*[250] *«Незабыўныя сустрэчы». «Полымя», № 6, 1967, с. 205, таксама рэцэнзія ў «Журнале беларускіх студыяў»*[251]*, том I, № 4, 1968, с. 368*[252]*). Таксама няправільна*

---

[248] **Пятрусь Броўка** (1905–1980), грамадскі дзеяч, пісьменнік, паэт і перакладчык. У 1967–1980 гг. быў галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская савецкая энцыклапедыя».

[249] ***«Soviet Literature»*** — англамоўны часопіс, што выдаваўся Саюзам пісьменнікаў СССР у 1946–1990 гг.

[250] **Юльян Пшыркоў** (1912–1980), літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар, даследчык творчасці Якуба Коласа.

[251] «***The Journal of Byelorussian Studies»*** — англамоўны навуковы часопіс, орган Англа-беларускага таварыства, выходзіў у Лондане ў 1965–1988 гг.

[252] Маецца на ўвазе рэцэнзія на адпаведны нумар часопіса «Полымя»: POŁYMIA (The Flame). A monthly journal of the Union of Byelorussian Soviet Writers. Minsk, 1967 // The Journal of Byelorussian Studies. Vol. I. № 4. P. 367–369.

*прадстаўлена й «Наша Ніва»*[253] *і тое, што перад рэвалюцыяй ня было іншых беларускіх часопісаў і кніг. Александровіч*[254] *у сваёй працы «Пуцявіны роднага слова»*[255] *(Вы яе маеце) піша пра гэты пэрыяд зусім інакш. Тэндэнцыя Броўкі ясная: даказаць, што перад рэвалюцыяй нічога беларускага ня было. Варта было-б нешта напісаць пра гэта ў Вашых «Фактах»*[256].

*Другая цікавая тэма, на якую варта зьвярнуць увагу, гэта тое, што ў англамоўных савецкіх публікацыях беларускія геаграфічныя назвы і імёны і прозьвішчы людзей падаюцца ў зрусыфікаванай форме, ня лічачыся зусім з іх сапраўдным гучаньнем і законамі беларускай мовы. Напр. Mogilev (замест Mahiliou або Mahilow), Zabolotye (Zabaloccie, Zabalotstsie), Rygor Borodulin (Ryhor Baradulin), Petrus Brovka (Piatrus Brouka, Pyatrus Browka), Arkadi Kuleshov (Arkadz Kulashow, Kulyashow), Ganna (Hanna, Hannah) etc.*

*Падобных прыкладаў знойдзеце колькі хочаце хоць-бы ў той самай «Soviet Literature». Такім чынам, на экспарт усё беларускае падаецца ў расейскай форме.*

*Ці Вы ведаеце пра наступныя кнігі: Ешин З. С. Развитие культуры в БССР за годы Советской власти. «Вышэйшая школа», Мн, 1970; Бармичев В. Д. В едином союзе. Историко-публицистический очерк о развитии многонациональной социалистической культуры СССР. «Навука і тэхніка», Мн., 1972.*

---

[253] **«Наша Ніва»** — штотыднёвая грамадска-палітычная, навукова-асветніцкая і літаратурна-мастацкая газета нацыяльна-адраджэнскага кірунку, што выдавалася ў Вільні ў 1906–1915 гг.

[254] **Сцяпан Александровіч** (1921–1986), пісьменнік, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар.

[255] Александровіч, Сцяпан. Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX ст. Мінск: Выдавецтва БДУ, 1971. — 247 с.

[256] Маецца на ўвазе ***«Facts on Byelorussia»*** — выдаваны і рассыланы Янкам Запруднікам бюлетэнь, 10 нумароў якога былі апублікаваныя ў 1972–1974 гг.

*Кнігі гэтыя важныя тым, што ў іх многа фактаў поступу русыфікацыі ў Беларусі. Калі Вы іх ня маеце, дык я магу зрабіць фатакопіі адпаведных разьдзелаў.*

*З пашанаю да Вас,*

*а. А. Надсон.*

*П. С. У «Голасе радзімы» № 5 (люты 1973) знаходзіцца артыкул А. Коршунава*[257] *«Знойдзена “Пасхалія”». Параўнайце яго з маім артыкулам «Кніга Скарыны ў Капэнгагене» ў «Божым шляхам» № 5, 1971.*

*А. Н.*

*14 лютага 1973.*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*Учора я Вам выслаў фатакопію артыкула Коршунава «Знойдзена “Пасхалія”. Як можаце самі пераканацца, гэта ў асноўным пераробка майго артыкула «Кніга Скарыны ў Капэнгагене» (гл. «Божым шляхам» № 5, 1971). Думаю, што Коршунаў зрабіў так не таму, што ня мог сам напісаць добрага артыкула, але каб ускосна паказаць нам, што яны нашыя выданьні атрымліваюць і зь іх карыстаюць. Гэта нам добра ведаць, але хіба згодзіцеся са мною, што пісаць пра гэта ня трэба, каб не пашкодзіць нашым вучоным, якія робяць карысную працу ў цяжкіх абставінах. Нам трэба цешыцца, што між імі і намі навязваецца кантакт, хоць вельмі слабы й пасрэдны.*

*Ваш а. А. Надсон.*

*15 красавіка 1975.*

*Дарагі Янка,*

*Вельмі дзякую за ліст, артыкул і фатакопію кнігі пра татараў. Артыкул вельмі добры й будзе надрукаваны ў сёлетнім*

---

[257] **Аляксандр Коршунаў** (1924–1991), літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Працаваў у Інстытуце літаратуры АН БССР.

*нумары «Журналу»*[258]*. Між іншым, Міхалюк*[259] *выслаў Табе лятунскай поштай адзін экзэмпляр «Журналу» за 1974 г. Ці Ты яго атрымаў?*

*Мы толькі што атрымалі кнігу Царанкова «Францыск Скарына і яго час»*[260]*. Фактычна гэта ня кніжка, а брашура (64 стар.). напісана яна папулярна, і аўтар не заўсёды ведае, пра што гаворыць. Між іншым, у брашуры знаходзяцца рэвэляцыйныя весткі адносна ўстанаўленьня даты выхаду «Малой падарожнай кніжкі». Пасылаю асобнай поштай фатакопіі адпаведных старонак, а таксама іншыя матар'ялы, якія маюць дачыненьне да гэтай справы, падчыркнуўшы і панумараваўшы адпаведныя параграфы. Вось паясьненьні да паасобных пунктаў:*

*1. «Пасхалія» зьяўляецца ня першай, як цьвердзіць Царанкоў, а апошняй часткай «Малой падарожнай кніжкі», і да нядаўняга часу яна была няведамай дасьледчыкам.*

*2. Коршунаву «ўдалося напасьці на сьлед» Капэнгагенскага экзэмпляра «Малой падарожнай кніжкі» ў маім артыкуле ў «Божым шляхам», які, дарэчы (хай гэта будзе між намі) я яму асабіста выслаў. Калі прачытаеш уважна артыкул Коршунава, дык убачыш, што ён зьяўляецца парафразай майго. Між іншым, ён сам кажа, што вестка пра Капэнгагенскі экзэмпляр паявілася «ў замежным друку».*

*3. Аргуманты адносна даты выхаду «Малой падарожнай кніжкі» Коршунаў таксама узяў з майго артыкулу.*

*Я разумею, што Царанкову, як і раней Коршунаву, не выпадала ўспамінаць маё прозьвішча ці «Божым шляхам» (хоць у Ленінградзе адносна гэтага ня маюць ніякіх цяжкасьцяў). Але ці трэба было перакручваць факты? Зрэшты, магчыма*

---

[258] Відаць, маецца на ўвазе артыкул: Zaprudnik J. Byelorussia's Representation in the Second State Duma (Feb. 20 — June 2, 1907) // Journal of Byelorussian Studies. Vol. III. No. 3. London, 1975. P. 229–243.

[259] Янка Міхалюк займаўся дасылкаю часопіса *«The Journal of Byelorussian Studies»*.

[260] Царанкоў, Леанід. Францыск Скарына і яго час. Мінск: БДУ, 1975. — 63 с.

*тут спроба паказаць знаходку Капэнгагенскага экзэмпляра як дасягненьне «перадавой» савецкай навукі. Думаю, што варта пра гэта нешта напісаць, бо гэта яшчэ адзін доказ таго, як асьцярожна трэба карыстацца творамі савецкіх вучоных, бо ніколі ня ведаеш, наскольki праўдзівым ёсьць тое, што яны пішуць. Мне самому пісаць не выпадае, бо могуць мне зрабіць закід, што я асабіста зацікаўлены.*

*У нас тут нічога асаблівага. Працы шмат, пераважна адміністрацыйнай. У вялікодным тыдні быў на гадавой канфэрэнцыі Брытанскай асацыяцыі славістаў*[261]*. Магчымасьці для беларускай навуковай дзейнасьці тут вялікія, але, на жаль, няма людзей. Тое-сёе, аднак, удасца зрабіць у гэтым годзе, і на некаторых спэцыяльных канфэрэнцыях, якія адбудуцца сёлета ўвосень, будуць даклады на беларускія тэмы.*

*Як, напэўна, ведаеш, летам будзе ў Вас Уладыка Чэслаў. Ён Вам раскажа крыху больш пра нашыя навасьці.*

*Прывітаньні ўсім знаёмым,*

*Твой а. Алесь Надсон.*

*24 студзеня 1975.*

*Дарагі Янка,*

*Апошнія два тыдні я быў вельмі заняты, бо ў часе маёй адсутнасьці тут назьбіралася шмат розных спраў. Наканец цяпер маю крыху вольнага часу, каб напісаць пару слоў.*

*Мне было вельмі прыемна спаткацца з Табою пасьля стольkіх гадоў. Я рады таксама, што мне ўдалося пазнаёміцца крыху з вашым жыцьцём і працаю. Наогул мае ўражаньні з падарожжа па Амэрыцы вельмі добрыя. Мяне асабліва цешыць тое, што, нягледзячы на цяжкасьці, беларускае жыцьцё ў Вас разьвіваецца памысна. Гэта асабліва адчуваецца ў Нью Ёрку. У Вас ёсьць даволі шмат моладзі, якая гаворыць па-беларуску, і гэта варожыць добра на будучыню. З другога боку, маеце даволі вялікую групу інтэлігэнцыі (Ты, Кіпель, сп-ры Адамовіч,*

---

[261] Маецца на ўвазе ***British University Association of Slavists***, якая дзейнічала ў Вялікабрытаніі ў 1950–1980-я гг.

*Тумаш*[262] *і інш.), якая працуе навукова. У нас, на вялікі жаль, гэтага не хапае.*

*Я вельмі ўдзячны Табе за сяброўскую дапамогу ў часе майго побыту ў Нью Ёрку, ня кажучы ўжо пра выдатныя абеды з «гарачымі сабакамі»*[263]*, якія мы мелі ў Тваёй канцылярыі. Спадзяюся адзін дзень адудзячыцца Табе, калі прыедзеш да нас у Лёндан.*

*Я цяпер даволі заняты: маю даклады па-ангельску 13 і 22 лютага і рыхтую да друку артыкул аб беларускіх букварах.*

*Ня думаю, што мне хутка ўдасца прыехаць зноў да Вас. Затое Ўладыка Чэслаў павінен быць у Чыкага ў канцы травеня або ў пачатку чэрвеня. Думаю, што па дарозе назад ён заедзе да Вас у Нью Ёрк.*

*Перадай мае прывітаньні Тваёй жонцы, а таксама ўсім маім старым і новым знаёмым.*

*Пакуль што аставайся з Богам.*

*Твой а. Аляксандар Надсон.*

*12 кастрычніка 1978.*

*Дарагі Янка!*

*Дзякую за ліст. Адносна маіх гутарак у Загрэбе з Навуменкам*[264]*, дык мы сапраўды гаварылі пра выданьні твораў Купалы і іншых беларускіх пісьменьнікаў (Гарун*[265]*, Бядуля*[266]*), і я даведаўся ад яго шмат цікавага. Паколькі, аднак, гэтыя гутаркі насілі прыватны (хоць і не сакрэтны) характар, дык публікаваць іх зьмест у «Беларусе» ніяк нельга. Такая публікацыя паставіла-б Навуменку ў цяжкое й непрыемнае становішча,*

---

[262] **Вітаўт Тумаш** (1910–1998), грамадскі дзеяч, медык, навуковец (скарыназнаўца). Старшыня БІНіМа ў 1953–1982 гг.

[263] Жартаўлівы даслоўны пераклад назову папулярнай амерыканскай сасіскі *hot dog*. Слова *dog* мае шмат розных значэнняў.

[264] **Іван Навуменка** (1925–2006), пісьменнік і літаратуразнаўца. У 1973–1982 гг. — дырэктар Інстытута літаратуры АН БССР.

[265] **Алесь Гарун** (сапр. Аляксандр Прушынскі, 1887–1920), паэт, празаік, публіцыст, дзеяч беларускага Адраджэння пачатку XX ст.

[266] **Змітрок Бядуля** (сапр. Самуіл Плаўнік, 1886–1941), паэт, празаік, мовазнаўца.

*а мне зачыніла-б назаўсёды дарогу да далейшых кантактаў. Дзеля гэтага вельмі прашу ў гэтай справе нічога не пісаць у «Беларусе».*

*Прабач, што не магу задаволіць Тваёй просьбы, але, думаю, што зразумееш мае прычыны. Я заўсёды гатовы прыватна падзяліцца маімі ўражаньнямі з Загрэбу, але гэта павінна быць толькі для нашай інфармацыі.*

*У гэтым годзе мінае 50 год ад выхаду першай кніжкі а. Язэпа Гэрмановіча*[267] *— «Вінцука Адважнага» — якая называлася «Як Казюк сабраўся да споведзі»*[268]*. Мы тут вырашылі скромна адзначыць гэты ягоны пісьменьніцкі юбілей у нядзелю 5 лістапада. Ці беларусы з Нью Ёрку (магчыма, БАЗА ці Інстытут) не захацелі далучыцца да гэтага сьвяткаваньня й прыслаць свае прывітаньні?*

*Спадзяюся, што вы ўжо атрымалі апошні нумар «Журналу беларускіх студыяў», які выйшаў якіх два тыдні таму назад.*

*«Беларуская замежная пошта»*[269] *— думка Пікарды*[270]*. Ёнжа дырэктар пошты й паштальён.*

*Прывітаньні ўсім знаёмым.*

*Твой, а Алесь Надсон.*

---

[267] **Язэп Германовіч** (1890–1978), рэлігійны дзеяч, святар, пісьменнік, педагог. У 1930–1940-я гг. працаваў у Харбіне. У 1948 г. быў выдадзены кітайскімі ўладамі СССР, дзе асуджаны да 25 гадоў лагераў. У 1955 г. вызвалены. Праз Польшчу і Рым у 1959 г. трапіў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лондане ў Марыян Хаўзе. Ад 1962 г. быў цягам некалькі гадоў дырэктарам школы-інтэрната св. Кірылы Тураўскага. У 1964 г. аднавіў выданне рэлігійна-грамадскага часопіса «Божым шляхам», рэдактарам якога заставаўся амаль да смерці. Пісаў байкі, быў аўтарам успамінаў «Кітай — Сыбір — Масква», выдадзеных на шасці мовах.

[268] Кніга выйшла ў Вільні ў 1928 г.

[269] **«Беларуская замежная пошта»** — незалежная паштовая служба, арганізаваная з ініцыятывы Гая Пікарды ў Лондане ў 1978 г. Гл.: Беларуская Замежная Пошта // Беларус. № 259–260. Лістапад — сьнежань 1978. С. 8.

[270] **Гай Пікарда** (анг. *Guy Reginald Pierre Picarda*, 1931–2007), брытанскі беларусіст, юрыст, даследчык беларускай музыкі, кнігадрукавання, гісторыі беларускай прысутнасці ў Вялікабрытаніі і інш., сябра Англа-беларускага таварыства.

*29 лютага 1980.*

*Дарагі Янка!*

*Дзякую за ліст. Цешуся, што Ты атрымаў ксэракопіі з кнігі Гільлера (між іншым, на тытульным лісьце напісана «друге выдане», а не «выдане друге»)*[271]*. Прабач, што ўся гэтая справа заняла так шмат часу. Твой ліст з просьбай прыйшоў, калі я быў у Францыі. Вярнуўшыся дамоў, я надумаўся пахварэць крыху, і такім чынам Твая справа (і ня толькі Твая) зацягнулася.*

*Буду ўдзячны, калі зможаш прыслаць некалькі экзэмпляраў Твайго выданьня Каліноўскага*[272]*, і то адразу пасьля ягонага выхаду з друку. Лішнія экзэмпляры патрэбны для адпраўкі туды, адкуль прыйшоў «ліст расейскаму сябру»*[273]*... Адносна гэтага «Ліста», дык згаджаюся з Табою, што гэта для нас незвычайны дакумэнт. Яшчэ прайшло замала часу ад яго публікацыі*[274]*, але, калі судзіць па атрыманых водгуках, яго ўжо высока ацанілі*

---

[271] Giller, A. Historia Powstania Narodu Polskiego w 1861–1864 r. T. I. Wydanie drugie. Paryz, 1867. У гэтай кнізе змешчаны тэксты «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага.

[272] Паўстаньне на Беларусі 1863 году: «Мужыцкая праўда» і лісты «з-пад шыбеніцы»: тэксты і камэнтары Я. Запруднік і Т. Бэрд. Нью Ёрк: Фундацыя Крэчэўскага, 1980. — 69 с.

[273] «Ліст да рускага сябры» быў перададзены ў Вялікабрытанію з СССР праз Польшчу.

[274] *«У Лёндане Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі выдала напрыканцы году летась брашуру на 64 бачыны — “Letter to a Russian Friend. A ‘Samizdat” Publication from Soviet Byelorussia” (“Ліст да расейскага Прыяцеля. Самвыдавецтва з Савецкае Беларусі”). Гэта — ліст ананімнага аўтара-Беларуса, напісаны па-расейску, у вадказ на пытаньне расейскага “прыяцеля”, ці не чакае беларускую мову ў век сучаснае навукова-тэхнічнае рэвалюцыі доля волскага дыялекту. Ліст напісаны ў красавіку 1977 г., а на Захад трапіў толькі летась.*

*Аўтар ліста, добра абазнаны ў гісторыі свайго народу й шчыры патрыёт, бароніць свой народ ад русыфікацыі, сьцьвердзіўшы ейную напорнасьць, ды выказвае пераканаьне ў здольнасьць Беларусаў вытрываць перад сучасным русыфікацыйным наступам на іх ды замацавацца ў стагодзьдзях.*

*Гэты цікавы твор самавыдавецкае літаратуры на Беларусі, пра наяўнасьць якое мы ведалі даўно, добра выдадзены лёнданцамі: з уступам па-ангельску, ангельскім перакладам усяго тэксту ліста ды паясьняльнымі зноскамі»* (Беларус. № 274. Люты 1980. С. 2).

*многія чужынцы. Калі-ж ідзе пра «палітычна-праграмавы бок», дык, на маю думку, яго ня трэба шукаць у лісьце, бо ён не ўваходзіў у плян аўтара: ён паставіў сабе за мэту паказаць становішча беларускай мовы й культуры ў «сувэрэннай» БССР і строга трымаўся тэмы. Хто ведае, магчыма, існуюць «саміздаты», у якіх парушаюцца іншыя аспэкты беларускага нацыянальнага жыцьця…*

*Павал Урбан*[275] *пісаў мне, што страціў працу ў радыё. Ня ведаю, што ў вас там робіцца. На маю думку, пры сучаснай палітычнай сытуацыі трэба было-б узмоцніць беларускія праграмы, а не аслабляць.*

*Прывітаньні ўсім знаёмым.*

*Твой а. Алесь Надсон.*

*29 студзеня 1981.*

*Даражэнькі Янка,*

*Вось Табе «папраўлены» (як у паэме Купалы «Паэта і цэнзар»…) рэпартаж пра аўтарскі вечар Сакрата*[276]*. Спадзяюся, што ён цяпер выглядае крыху лепш. Бязумоўна, можаш рабіць якія хочаш стылістычныя папраўкі й замены. Адносна ініцыялаў, дык, калі ўважаеш, што Здановічавы не падыходзяць, стаўляй, якія хочаш, толькі не мае. І не кажы Здановічу, хто рабіў папраўкі, бо я яшчэ хачу жыць…*

*Дзякую за ксэракопію артыкулу Палчанінава*[277] *пра нашы саміздатныя паштоўкі*[278]*. Відаць, яму ня месьціцца ў галаве,*

---

[275] **Павал Урбан** (1924–2011), гісторык, грамадскі дзеяч. Скончыў гістарычны факультэт Лювенскага ўніверсітэта, абараніў дысертацыю пра дзейнасць вялікага князя літоўскага і польскага караля Аляксандра. Працаваў у Інстытуце вывучэння СССР у Мюнхене, потым у Беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода».

[276] Маецца на ўвазе **Сакрат Яновіч** (1936–2013), беларускі пісьменнік у Польшчы, старшыня Клуба Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку.

[277] **Расціслаў Палчанінаў** (нар. 1919), расійскі гісторык, грамадскі дзеяч, калекцыянер. Жыве ў ЗША.

[278] Маюцца на ўвазе дзве паштоўкі з выявамі «Пагоні», прысвечаныя 1000-годдзю беларускай дзяржаўнасці, арыгіналы якіх былі таемна перададзеныя з БССР у Вялікабрытанію. Аўтарам быў мастак Яўген Кулік.

*што беларусы могуць зрабіць нешта лепш за расейцаў ці ўкраінцаў, і таму ён сумняецца, ці рэпрадукцыі ёсьць сапраўды факсіміле. Дык можаш сказаць яму, што дакладна адказваюць атрыманым арыгіналам, уключна з колерамі й некаторымі недакладнасьцямі (у каляровай паштоўцы сярэбраная частка не зусім дакладна пакладзена на чырвоную).*

*Будучы нядаўна ў Мюнхэне, я чуў, што вы ўжо перадавалі праз радыё праграму пра «Лысую гару»*[279]*. Ці можаш прыслаць мне тэкст гэтай праграмы й то як найхутчэй?*

*Ты, напэўна, хочаш ведаць, чаго мяне насіла аж у Мюнхэн. Дык вось, езьдзіў я туды, каб дамовіцца канчаткова аб выданьні беларускай анталёгіі на нямецкай мове. Калі ўсё пойдзе добра, анталёгія выйдзе з друку ў наступным годзе*[280]*. Яна будзе часткай сэрыі «Слявістыш Байтрэгэ»*[281]*, што выходзіць пад агульнай рэдакцыяй др. П. Рэдэра з Мюнхэнскага ўнівэрсытэту.*

*Як у Цябе справы? Спадзяюся, што здароўе Тваёй жонкі папраўілася. Перадай мае прывітаньні ёй, а таксама ўсім знаёмым.*

*Твой а. Алесь Надсон.*

*11 сакавіка 1981.*

*Дарагі Янка,*

*Дзякую за лісты, «Запісы» (вельмі добры нумар!)*[282] *і касэтку з запісам «Лысай гары». Учора Уладыка Часлаў і я слухалі яе і рагаталі да ўпадку. Заўтра даклад Джыма Дынглея*[283]*: калі*

---

Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі выдала гэтыя паштоўкі друкам і стала распаўсюджваць на Захадзе.

[279] Маецца на ўвазе паэма Францішка Ведзьмака-Лысагорскага «Сказ пра Лысую гару» (1980).

[280] Weissrussische Anthologie: ein Lesebuch zur weissrussischen Literatur (mit deutschen Übersetzungen) / Ferdinand Neureiter. München: O. Sagner, 1983. — 230 p.

[281] Slavistische Beiträge. Bd. 162.

[282] Відаць маецца на ўвазе «Запісы БІНіМ» № 16 (Нью-Ёрк, 1978), паколькі наступны № 17 выйшаў толькі ў 1983 г.

[283] **Джэймс (Джым) Дынглі** (анг. *James Dingley*, нар. 1942), брытанскі беларусіст, шматгадовы старшыня Англа-беларускага таварыства.

*астанецца крыху вольнага часу, трэба будзе даць паслухаць «Гару» ўсім прысутным.*

*Прафэсар Адамовіч піша, што тэкст «Гары» ўжо набраны да друку*[284]*. Гэта вельмі добра. Чакаем з нецярплівасьцю.*

*Ты хіба ўжо дастаў высланы Міхалюком ліст Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства*[285] *сакратару польскай камуністычнай партыі Станіславу Кані*[286]*. Паколькі гэта не «саміздат», мы яго не распаўсюджваем масава, а толькі пасылаем у розныя міжнародныя й дзяржаўныя ўстановы, а таксама ў арганізацыі, якія займаюцца абаронай людзкіх правоў. Ня шкодзіла-б выкарыстаць ліст у «Беларусе». Толькі не адкладайце вельмі: трэба рабіць, пакуль усё сьвежае. Для нашых на Беласточчыне гэта будзе вялікая маральная падтрымка.*

*У нас цяпер на чарзе прыезд паэты Яна Чыквіна*[287] *й мастака Аляксандра Хомчыка. Думаем запрасіць іх на канец мая або пачатак чэрвеня.*

*Уладыка Часлаў кажа, што мне трэба зноў адведаць вас у Амэрыцы. Ня думаю, аднак, што мне гэта ўдасца зрабіць раней, як у кастрычніку.*

*Як здароўе Тваёй жонкі? Вітай яе ад мяне.*

*Дык пакуль што бывай здароў. Дзякую яшчэ раз за усё.*

*Твой а. Алесь Надсон.*

---

[284] Маецца на ўвазе выданне: Сказ пра Лысую Гару; Роздум ля параднай брамы: ананімныя самавыдавецкія паэмы. Анатацыі Ант. Адамовіча. Нью Ёрк: Выдавецтва газэты «Беларус», 1985. — 27 с.

[285] **Беларускае грамадска-культурнае таварыства** — грамадская арганізацыя беларусаў у Польшчы, заснаваная ў 1956 г.

[286] **Станіслаў Каня** (пол. *Stanisław Kania,* нар. 1927), польскі камуністычны партыйна-дзяржаўны дзеяч, у 1980–1981 гг. быў першым сакратаром ЦК Польскай аб’яднанай рабочай партыі.

[287] **Ян Чыквін** (нар. 1940), беларускі пісьменнік і літаратуразнаўца ў Польшчы, доктар гуманітарных навук, прафесар. Старшыня літаратурнага аб’яднання «Белавежа».

*17.5.1982*

*Даражэнькі Янка,*

*Вельмі дзякую за добрае слова пра маю бібліяграфію. Прызнаюся, што я не спадзяваўся, каб яна вас магла цікавіць: каб ведаў, то прыслаў бы яе сам. Безумоўна, бібліяграфічная інфармацыя — справа вельмі важная, хоць, на жаль, многія недацэньваюць яе значэньня. Я стараюся зрабіць маю беларускую бібліяграфію як найбольш зьмястоўнай у межах магчымасьцяў, даных мне рэдактарамі выданьня. На жаль, ня ведаю, як доўга змагу яе весьці, бо пасьля сьмерці Ўладыкі Часлава*[288] *мае іншыя абавязкі падвоіліся. Хачу перадаць яе Шырын Акінэр*[289]*. Безумоўна, буду старацца памагаць ей, чым магу. Маленькая папраўка: «Дэ Ірс Уорк і Модэрн Лангуіч Стадыс»*[290] *выдаецца не ў Амэрыцы, але ў Англіі, і выдаўцом зьяўляецца «Дэ Модэрн Гюманітыс Рэсэрч Ассоцыейшн»*[291]*.*

*Апошнім часам я быў вельмі заняты царкоўнымі й бібліятэчнымі справамі*[292]*. Спадзяюся, што цяпер будзе крыху лягчэй. На бібліятэчны фонд ужо сабралі 13 тысяч фунтаў. Яшчэ шмат прыйдзецца папацець, пакуль зьбяром патрэбную нам суму, але наогул будучыня выглядае больш радаснай. Думаем хутка выдаць скромны бюлетэнь, каб паінфармаваць аб тым, што новага ў Бібліятэцы, ну й, безумоўна, падзякаваць ахвярадаўцам.*

*Паколькі мне ведама, у Вас у гэтым годзе будзе сустрэча беларусаў, на якой хочаце адсьвяткаваць стагодзьдзе з дня*

---

[288] Біскуп Часлаў Сіповіч памёр 4 кастрычніка 1981 г.

[289] **Шырын Акінэр** (анг. *Shirin Akiner*, нар. 1943), брытанская даследчыца-ўсходазнаўца. Выкладчыца ў Школе ўсходніх і афрыканскіх даследаванняў пры Лонданскім універсітэце, навуковы супрацоўнік Каралеўскага інстытута міжнародных адносін. Займалася вывучэннем беларускіх кітабаў, цікавіцца славянскімі літаратурамі.

[290] *The Year's Work in Modern Language Studies*.

[291] *The Modern Humanities Research Association*.

[292] Маюцца на ўвазе справы Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане, якой а. Аляксандр Надсан стаў кіраваць пасля смерці біскупа Часлава Сіповіча.

*нараджэньня Купалы й Коласа*[293]*. Напішы мне больш дакладна пра Вашы пляны, падаючы дакладна месяца й дату; хто ведае, магчыма, прыеду.*

*Што з Праф. Адамовічам? Я даўно ня меў ад яго вестак. Вітай ад мяне яго, а таксама ўсіх іншых прыяцеляў і знаёмых.*

*Твой а. Алесь.*

*31 студзеня 1983.*

*Даражэнькі Янка,*

*Вось табе вершы Янішчыц*[294] *(што Ты хацеў) і яшчэ некалькіх іншых паэтаў; можа, яны Табе прыдадуцца.*

*Вярнуўся з падарожжа змучаны й застуджаны. Ня шкодзіла-б паляжаць некалькі дзён у ложку, але на гультайства няма часу. Наогул я рады, што мне ўдалося паехаць у Аўстралію. Цяпер маю лепшае ўяўленьне аб беларускім жыцьці ў заходнім сьвеце. Пацяшальна тое, што беларусы яшчэ трымаюцца разам і выказваюць нямала ініцыятывы і ахвярнасьці. Гэта было відавочна на сустрэчы ў Сыднэі*[295]*, якая мне вельмі спадабалася. Сумна аднак, што лепшыя адзінкі адыходзяць ад нас вельмі хутка. Вось у Сыднэі некалькі дзён пасьля сьмерці Аркадзя Качана*[296] *пайшла ў шпіталь сп-ня Каранеўская*[297]*. Вы-*

---

[293] Маецца на ўвазе **15-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі**, што адбывалася 4–6 верасня 1982 г. у Нью-Джэрсі і была прысвечаная 100-годдзю ад нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

[294] **Яўгенія Янішчыц** (1948–1988), паэтка.

[295] Маецца на ўвазе Пятая Сустрэча беларусаў Аўстраліі, што абдывалася 29 снежня 1982 г. — 2 студзеня 1983 г. у Сіднэі.

[296] **Аркадзь Качан** (1921–1982), грамадскі дзеяч. Жыў у Сіднэі (Аўстралія). Адзін з заснавальнікаў і доўгагадовы сакратар Беларускага аб’яднання ў Новай Паўднёвай Валіі. Сябра Беларускага культурна-грамадскага клуба і Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі. Пры канцы 1970-х гг. — беларускі прадстаўнік у Выканаўчым камітэце Этнічнай рады ў Новай Паўднёвай Валіі. Адзін са стваральнікаў і каардынатар Беларускага радыё ў Сіднэі.

[297] **Аўгіння Каранеўская** (1919–1983), грамадская дзеячка. Жыла ў Сіднэі (Аўстралія). Распаўсюджвала беларускую прэсу, была сталай аўтаркай газеты «Беларус». Сябра Беларускага культурна-грамадскага клуба. Ад 1976 г. — супрацоўніца Беларускага радыё ў Сіднэі.

*явіўся рак. Лекары надзеі на паправу не даюць. Ня ведаю, што цяпер будзе з радыёперадачамі, бо Лужынскі*[298] *сам ня дасьць рады. Тут у Лёндане сустрэлі мяне з другой сумнай весткай: Павал Навара таксама безнадзейна хворы на рака.*

*Ну, але гэта ўсё не ад нас залежыць. Пакуль Бог дае сілы й здароўе, нам трэба рабіць сваё. Бяда толькі, што гэтага «свайго» робіцца больш і больш.*

*Калі крыху спраўлюся са справамі, якіх назьбіралася падчас маёй адсутнасьці, напішу больш. А тымчасам вітай усіх.*

*Твой а. Алесь Надсон.*

*2 травеня 1983.*

*Дарагі Янка,*

*Вось яшчэ невялікі дадатак да Тваёй анталёгіі.*

*Вы, здаецца, атрымліваеце «Голас Радзімы». У но. 15 ад 14 красавіка на стар. 7 ёсьць артыкул Казыры «І нясе яна сьвету свой дар...». Палова артыкулу — рэцэнзія на выданую намі кніжку «Dэ імаджэс суорм фры»*[299]*. Калі верыць аўтару артыкула, гэта «паэтычны зборнік твораў М. Багдановіча, З. Бядулі і іншых». Цікава было-б ведаць, хто гэта «іншыя» і чаму яны так баяцца ўспомніць прозьвішча Алеся Гаруна, асабліва, што тытул кнігі — ангельскі пераклад радка «Снуецца зданяў рой» зь вершу гэтага паэты «Людзям». Забыўся таксама Казыра ўспомніць, хто выдаў кнігу. Ці ня варта было-б памясьціць аб гэтым невялікую зацемку ў «Беларусе»?*

---

[298] **Міхась Лужынскі** (1926–2011), грамадскі дзеяч. Жыў у Сіднэі (Аўстралія). Быў сакратаром Беларускага культурна-грамадскага клуба, а ў 1982–1986 і 1988–2011 гг.— яго старшыня. Ад 1976 г. быў сябрам Беларускага радыёвага камітэта, а ад 1983 г. на працягу дзесяцігоддзя быў фактычна адзіным стваральнікам беларускіх радыёпраграм у Сіднэі. У 1976–1980 гг. — сакратар Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі.

[299] The Images swarm free: a bi-lingual selection of poetry by Maksim Bahdanovič, Aleś Harun and Źmitrok Biadula / translated by Vera Rich; edited with an introduction by Arnold McMillin. London: Anglo-Byelorussian Society, 1982. — 135 p.

*На днях атрымаў ліст ад Адама Мальдзіса, у якім дзякуе праф. Адамовічу за дапамогу ў расшыфроўцы некаторых псэўданімаў. Апісвае пахаваньне Ларысы Геніюш*[300]*, на якім ён быў і прамаўляў. Пахаваньне было царкоўнае. Прычына сьмерці — рак. Таксама ад рака памерла жонка Ўладзіміра Караткевіча*[301]*, які цяпер «у цяжкім псыхалягічным і фызычным стане». Між іншым, увесь архіў і бібліятэку Ларысы Геніюш закупіла Акадэмія навук. Мальдзіс асабіста дагледзіў, каб нічога не прапала.*

*Мне прыкра, што гэтым разам у мяне толькі сумныя весткі, але дзялюся тым, што маю.*

*Жадаю табе, Тваёй жонцы і ўсёй сям'і добра й радасна сустрэць і правесьці сьвяты Вялікадня.*

*Твой а. Алесь.*

*14 лютага 1984.*

*Дарагі Янка,*

*Бяда адна ня ходзіць. На маю галаву навалiліся цяпер розныя царкоўныя справы, Лёфтус*[302] *успомніў добрым словам нашу Бібліятэку, а цяпер вось Мальдзіс…*

*З царкоўнымі справамі дам неяк рады. У справе Лёфтуса іду заўтра да адваката (жыда): будзем дамагацца «паблік аполёджы»*[303] *ад выдавецкай фірмы; калі яе не атрымаем, відаць, прыйдзецца падаваць у суд за дэфамацыю. Адносна Мальдзіса прашу Тваёй дапамогі: буду ўдзячны, калі надрукуеш мой ліст,*

---

[300] **Ларыса Геніюш** (1910–1983), паэтка, грамадская дзеячка. Памерла 7 красавіка 1983 г.

[301] **Уладзімір Караткевіч** (1930–1984) пісьменнік, публіцыст, перакладчык. Тут маецца на ўвазе яго жонка Валянціна Браніславаўна, якая памерла 28 лютага 1983 г.

[302] Маецца на ўвазе **Джон Лофтус** (нар. 1950), колішні супрацоўнік Упраўлення спецыяльных расследаванняў аддзела Крымінальных спраў Міністэрства юстыцыі ЗША, які ў 1982 г. выдаў кнігу «Беларускі сакрэт» (*«Belarus Secret»*) з абвінавачаннямі ў тым, што беларусы як нацыя найбольш, у параўнанні з іншымі, спрыялі Халакосту, а амерыканскія спецслужбы пасля вайны незаконна далі прытулак у ЗША тром сотням беларускіх вайсковых злачынцаў-калабарантаў

[303] ***Public apology*** (анг.) — публічнае выбачэнне.

*які залучаю, у «Беларусе». Думаю, што згодзішся, што Мальдзісу трэба даць спакойны, але станоўчы адказ, бо інакш людзі будуць думаць, што ўсё, што ён піша, — праўда.*

*Учынак Мальдзіса усіх нас тут моцна прыбіў. Мы думалі, што яму прыйдзецца сказаць нешта крытычнае пра нас, і былі на гэта прыгатаваныя. Аднак мы ніколі не спадзяваліся нічога падобнага. Усё гэта выглядае на правакацыю, і баюся, што ў наступных урыўках ён зачэпіць іншых, у тым ліку праф. Адамовіча. Ну, што-ж, ня першы раз нам прыходзіцца расчароўвацца ў людзях. Ангельская прыказка кажа: «той, хто хоча вячэраць з чортам, павінен мець доўгую лыжку».*

*Прабач за кароткі ліст: ня маю сілы і ахвоты пісаць. Калі крыху павесялею і ачуняю фізычна (празь усю гэтую зіму я адчуваў сябе ніякавата), напішу больш. А тымчасам вітай усіх і аставайся здароў.*

*Твой а. Алесь Н.*

*14 лютага 1984.*

*Спадару Рэдактару часапісу «Беларус», Нью Ёрк.*

*Паважаны Спадар Рэдактар,*

*Не адмоўце памясьціць гэты ліст у Вашым часапісе.*

*У газэце «Голас Радзімы», пачынаючы з Но. 3 ад 19 студзеня г. г., пачалі паяўляцца пад назовам «За Ла Маншам, сярод беларусаў» урыўкі з «Ангійскага дзёньніка» Адама Мальдзіса, дзе ён апісвае свае ўражаньні з побыту ў Англіі ад 25 кастрычніка да 24 сьнежня 1982 г. Аўтар зь вялікай сардэчнасьцю піша пра Беларускую Бібліятэку і Музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане, дзе ён жыў і займаўся навуковымі пошукамі. На жаль, ён часта ня мог устрымацца ад спакусы пісаць у форме гутарак са мною і іншымі асобамі. Сапраўды, жывучы амаль два месяцы пад адной страхой, у нас было шмат цікавых гутарак. Усе яны мелі прыватны характар, і я нават ня думаў, што адзін дзень яны будуць служыць матар'ялам для газэтных артыкулаў.*

*Форма гутаркі ў нарысе або артыкуле вельмі прывабная: яна ўносіць жыцьцё й стварае ўражаньне аўтэнтычнасьці. Адначасова, аднак, яна выклікае паважныя засьцярогі. Наогул,*

*выкарыстоўваньне вестак, пачутых у прыватнай гутарцы — справа далікатная і вымагае такту і абачлівасьці, каб не разьвітацца з магчымасьцю свабоднага абмену думкамі між сябрамі. Калі-ж нехта цытуе ў друку словы іншай асобы (і то без яе ведама), то ягоным абавязкам ёсьць захаваць іх аўтэнтычную форму, не дадаючы і не зьмяняючы нічога ад сябе. Безумоўна, гэта, бадай, немагчыма, калі словы цытуюцца з памяці, а не з запісаў, зробленых падчас самой гутаркі. Таму прыходзіцца дзіву даецца, як гэта было магчыма перадаць так дакладна тое, што гаварылася, скажам, ідучы па людной лёнданскай вуліцы або седзячы ў рэстаране з Гаем Пікарда і каштуючы чэшырскі сыр. Дарэчы, ня думаю, што Гай Пікарда палічыў-бы за камплімэнт, калі-б я сказаў, што ён — гурман: у французскай і ангельскай мовах gourmand значыць «абжора». Я нават не падазраваў, што слова «гурман» сёньня ўжо ўвайшло ў беларускую мову, пакуль, пабачыўшы яго ў артыкуле Мальдзіса (гл. «Голас Радзімы», Но. 5, 2.2.1984, б. 5), не заглянуў у «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», каб пераканацца, што гэта сапраўды так.*

*Ці можна ўспомніць усё, што гаварылася ў прыватнай гутарцы больш, чым год раней? Дзеля гэтага я не намерваюся тут даказаць немагчымае. Хачу толькі даць некалькі прыкладаў таго, чаго я ў ніякім выпадку ня мог казаць. Вось хоць-бы, будучы старшынёй Бібліятэчнай Рады і ведаючы яе склад (усяго дзевяць асобаў), я ня мог сказаць, што ў яе ўваходзяць «два манахі-марыяне» (гл. «Голас Радзімы», Но. 4, 26.1.1984, б. 5): у тым часе ў Радзе быў толькі адзін Марыянін, сьв. пам. а. Фэлікс Журня. Дый я-б ніколі ня ўжыў выражэньня «манахі-марыяне». Крыху ніжэй мне прыпісваюцца наступныя словы ў адносінах да адной асобы: «...грошы на музэй і бібліятэку — як наш прыкладны парафіянін — дае!» (гл. там-жа). Як сьвятар і бібліятэкар, я сьведамы маіх падвойных абавязкаў і стараюся іх ня зьмешваць. Прыведзеныя вышэй словы гучалі-б недарэчна ў маіх вуснах, бо ніхто ня ведае лепш за мяне, што падтрымка бібліятэкі ня робіць некага прыкладным парафіянінам і што, з другога боку, прыкладны парафіянін ня мае абавязку*

*падтрымліваць бібліятэку, хіба што ён зьяўляецца таксама прыкладным беларусам. Астаецца дадаць, што асоба, аб якой гутарка і якую лічу маім прыяцелем, не зьяўляецца маім парафіянінам. А вось яшчэ адзін прыклад. Пражыўшы больш за трыццаць гадоў у Англіі, думаю, што ведаю розьніцу паміж «пабам» (pub — піўная, карчма) і клюбам. Таму я ў ніякім выпадку ня мог назваць «пабамі» беларускія грамадзкія клюбы ў Брадфардзе й Манчэстары (гл. там-жа). Між іншым, з усёй «цытаты» чытач можа вынесьці ўражаньне, быццам даход з гэтых клюбаў і іншай беларускай грамадзкай уласнасьці ў Англіі (дамы, гаражы) ідзе на ўтрыманьне Бібліятэкі імя Францішка Скарыны. У сапраўднасьці ўсе яны зьяўляюцца ўласнасьцю Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, якое ўжывае даход зь іх на розныя добрыя мэты (выдавецтва, канфэрэнцыі і г. д.). Бібліятэка, апрача некалькіх прынагодных ахвяраў, грашовай дапамогі ад Згуртаваньня не атрымлівала і не атрымлівае.*

*Ёсьць адна справа, якой не магу прамінуць маўчаньнем. Як можна было спадзявацца, у нас не абышлося бяз гутаркі пра камунізм і мае адносіны да яго. Наколькі памятаю, я сказаў, што аргумэнты палітычнага і эканамічнага парадку не зьяўляюцца галоўнымі прычынамі, чаму не магу пагадзіцца з камуністычнай сыстэмай. На маю думку, камунізм — гэта нешта большае, чым адна з палітычна-эканамічных тэорыяў: гэта суцэльная сыстэма, якая маніцца даць канчатковы адказ на ўсе найбольш запаветныя пытаньні, якія ад пачатку турбавалі чалавецтва, і якая заяўляе сваё права на ўласнасьць усёй людзкой асобы — цела і душы. Думаю, што гэта гучыць крыху інакш, чым калі-б я сказаў: «...што датычыць вашай палітыкі, то я, відаць, мог-бы яе прыняць і эканоміку таксама» (гл. «Голас Радзімы», № 5, 2.2.1984, б. 5).*

*Можна было-б даць іншыя прыклады, але ня бачу на гэта патрэбы. Прыведзеных прыкладаў досыць, каб паказаць, што неабавязкова ўсё было так, як апісана ў «Дзёньніку». Caveat lector!*[304].

[304] Папярэджанне чытачу: будзь асцярожны!

*Ня ведаю, што яшчэ прынясуць наступныя ўрыўкі з «Дзёньніка», ведаю толькі, што ня маю больш намеру і жаданьня займацца імі. Калі-б ішло толькі пра мяне, то я й цяпер прамаўчаў-бы. На жаль, так складаецца, што амаль усё, зьвязанае з маёй асобай, мае нейкае дачыненьне да Бібліятэкі імя Францішка Скарыны. Дый тут замешаныя таксама іншыя асобы. Спадзяюся, што Адам Мальдзіс зразумее мяне добра і ўспрыме сказанае мною не як закід або крытыку, але як сяброўскую заўвагу і просьбу адносіцца ў будучыні больш уважліва да іншых. Вельмі лёгка скрыўдзіць асобу, чые словы цытуюцца, бо яна звычайна ня мае магчымасьці пацьвердзіць або запярэчыць іх аўтэнтычнасьць. Затое выправіць крыўду далёка цяжэй.*

*Карыстаю з нагоды, каб сказаць, што ў мяне асталіся як найлепшыя ўспаміны з побыту Мальдзіса ў Лёндане і што я маю вялікую павагу да яго як да аднаго з найбольш выдатных дасьледчыкаў беларускай літаратуры. Беларуская Бібліятэка і Музэй імя Францішка Скарыны будзе лічыць за гонар, калі і ў будучыні зможа служыць сваімі фондамі яму і ўсім, каму дарагі лёс беларускай культуры. Іншая справа, ці ўдасца вярнуць ранейшы дух сяброўства і даверу. Спадзяюся, што так, бо веру ў дабрыню, якая знаходзіцца ўва ўсіх нас, хоць часам глыбока схованая. Тымчасам, аднак, пераважае пачуцьцё суму.*

*З глыбокай павагаю,*

*а. Аляксандар Надсон,*
*Дырэктар Беларускай Бібліятэкі і Музэю*
*Імя Францішка Скарыны ў Лёндане.*

*3 жніўня 1984.*

*Дарагі Янка,*

*Вы, напэўна, усе дзівіцеся, што са мною сталася. Праўду сказаць, я й сам добра ня ведаю. Пачалося ўсё ад Лёфтуса й Мальдзіса. Пасьля пачалі валіцца на маю галаву іншыя прыкрасьці й цяжкасьці, што ў канцы ня ведаў, куды павярнуцца. Думаў, што ня вытрымаю, асабліва, што ня было з кім параіцца нават. Дзякаваць Богу, аднак неяк пераджыў усё і цяпер пачынаю вяр-*

*тацца да нармальнага жыцьця. Бяда ў тым, што цяпер у мяне шмат залегласьцяў, але, спадзяюся, з часам усё палагодзіцца.*

*Мне асабліва прыкра, што зацягнуў з падзякаю Фундацыі Крэчэўскага*[305]*. Пасылаю цяпер, хоць з вялікім спазьненьнем. Прашу прабачэньня і хачу запэўніць, што гэта сталася не са злой волі.*

*Некалі я меў намер прыехаць да Вас і пабыць на Сустрэчы ў Кліўлендзе. Чуюся, аднак, вельмі змучаны і таму вырашыў у гэтым годзе летам нікуды ня ехаць. Хацелася-б таксама, каб было як найменш наведвальнікаў, але гэта не залежыць ад мяне. Выглядае, што наведвальнікаў у гэтым годзе будзе ў нас ня менш, чым у мінулым.*

*Бібліятэка — адзіная пацеха. Нягледзячы на цяжкасьці, яна ўсьцяж расьце й мацнее. Цяпер маем у касе непарушнага капіталу амаль 100 тысяч фунтаў, якія ў гэтым годзе нам прынясуць каля 10 тысяч фунтаў працэнтаў. Калі ўзяць пад увагу, што пасьля сьмерці Ўладыкі Часлава ўсяго капіталу было 5 тысяч фунтаў, дык хіба згодзішся, што за апошнія тры гады матар'яльны стан бібліятэкі значна паправіўся. Безумоўна, гэтага яшчэ недастаткова — нам трэба мець фонды на сталага платнага працаўніка. Прынамсі аднак цяпер няма той наглай патрэбы і небясьпекі, што бібліятэка зачыніцца дзеля недахопу фондаў. Між іншым, за шэсьць месяцаў гэтага году мы сабралі амаль столькі ахвяр, сколькі за ўвесь мінулы год. Выглядае, што Лёфтус і Мальдзіс не пашкодзілі…*

*У нас тут на днях выйшла кніга апавяданьняў Яновіча з паралельным беларускім і ангельскім тэкстамі*[306]*. Міхалюк выслаў Табе адзін экзэмпляр лятунскай поштай. Больш прывязуць Віця Сенкевіч і Ясьвіловічы*[307]*, едучы ў Кліўленд.*

---

[305] **Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага** — грамадская арганізацыя, заснаваная беларускімі эмігрантамі ў Нью-Ёрку ў 1958 г. з мэтай падтрымкі беларусаведных дасьледаванняў.

[306] Ianovich, Sakrat. Miniatures. Edited and translated by Shirin Akiner. London: Anglo-Byelorussian Society, 1984. — 91 p.

[307] Маецца на ўвазе сям'я **Янкі Ясвіловіча** (нар. 1947) і **Ганны Лемяшонак** з Брадфарда (Вялікабрытанія).

*Жадаю Табе добрага адпачынку: Ты яго заслужыў. Вітай усіх знаёмых і скажы ім, што хутка пастараюся ім усім напісаць. Між іншым, ці ведаеш адрас Раі Станкевіч?*

*Дык пакуль што заставайся здаровы.*

*Твой а. Алесь Н.*

## САКРАТ ЯНОВІЧ

*Беласток, 11 сакавіка 1983 году.*

*Дарагія Суродзічы, Шаноўныя Найдзюкі, Паважаны Сп. Чаславе*[308]*, — шчыры дзякуй Вам за ліста, які надоечы атрымаў я! Прыйшла мне ў галаву такая рэфлексія: у Вас, на Захадзе, вельмі добра працуе пошта, калі Вы дазваляеце сабе невыразна пісаць зваротныя адрасы, Вы — гэта не толькі Вы, як Часлаў Найдзюк... Але ўсур'ёз. І па чарзе. «Беларусь Беларусь»*[309] *выйдзе асобнаю кніжкаю ў Варшаве (умова ўжо падпісана). Вядома, цяжка меркаваць аб тым, як яна выйдзе? Але — пажывем, пабачым. Пакуль што кавалкі зь яе пайшлі: чатыры ў беластоцкіх «Кантактах» і па адным у варшаўскай «Літаратуры на сьвеце»*[310] *ды каталіцкай «Вензі»*[311] *(адпаведныя нумары: 11 і 9). Апроч таго — эсэік пра Янку Купалу зьмясьцілі варшаўскія «Новэ ксёнжкі»*[312] *нр. 23 м. г. І яшчэ такія-сякія публікацыі былі, м. ін. і на старонках «Нівы», якую, як здагадваюся я з Вашага ліста, выпісваеце. Наколькі хапала мне сродкаў, я пасылаў выразкі таго Андрусышыным*[313]*; думаю,*

---

308 Адрасат ліста — **Часлаў Найдзюк** (1915–1995), грамадскі дзеяч. Адвакат паводле адукацыі. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Лос-Анджэлесе (ЗША), узначальваў мясцовы аддзел Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэта, быў прадстаўніком Беларускага кангрэсавага камітэта Амэрыкі на штат Каліфорнія.

309 Janowicz, Sokrat. Białoruś, Białoruś. Warszawa: Iskry, 1987. — 188 p.

310 ***«Literatura na Świecie»*** — штомесячны польскі часопіс сусветнай літаратуры. Выдаецца ў Варшаве ад 1971 г.

311 ***«Więź»*** — польскі каталіцкі грамадска-культурны часопіс. Выдаецца ў Варшаве ад 1958 г.

312 ***«Nowe Książki»*** — польскі штомесячны літаратурны часопіс. Выдаецца ў Варшаве ад 1949 г.

313 Маецца на ўвазе найперш **Юля Андрусышын** (нар. 1932), грамадская дзяячка, маці спевака Багдана Андрусышына (Данчыка). Жыве ў Нью-Ёрку.

*яны атрымалі, хоць і маўчаць. Колькі мог, дапамагаў у гэтай бібліяграфіі таксама Вашаму брату*[314]*, маючы на ўвазе, перш за ўсё, талент Карнэлі і яе цудоўны намер стацца папулярызатарам беларускага ў англамоўным акіяне.*

*Я і мы ўсе тут не разумеем тых «закалотаў» у Вашым эміграцкім асяродзьдзі*[315]*, мала што сьмешна хілым ды малым, а яшчэ і пасвараным паміж сабою! Некаму залежыць на тым, каб Вы выходзілі на ідыётаў, няздольных зразумець, што эміграцыя гэта няшчасьце, што яна не можа існаваць як сама дзеля сябе, што яе будучыня (і сэнс!) у лучнасці ды служэнні інтарэсам роднае нацыі, і што тубыльцы будуць вас настолькі шанаваць ды цаніць, колькі добрага будуць ведаць пра беларускую культуру, пра яе геній... Што тыповаму амэрыканцу прыходзіць у галаву, калі ён пачуе слова «беларус-белорашэн»? Ад гэтага і трэба пачынаць свае роздумы над сваім лёсам ды яго сэнсам у заакіянскім існаваньні. Нам прыкладамі разумнага эміграцтва ёсць землякі тыпу Данчыка, Карнэля*[316] *— ім баліць адсутнасць беларускай зоркі на нябесьсі Амэрыкі і заходняга свету, як і нам! І гэта яны будучыня — разумеючы, што апэрэта палітыканства ня ёсць вартаю таго, каб прысьвячаць ёй сваё жыцьцё (няхай яна згарыць, бы той правінцыяльны цырк!).*

*Выданне па-ангельску твораў Купалы ці Коласа беспараўнальна болей значыць для справы нашага народу і яго культуры, чымсьці розныя «прошчы» і «маніфэстацыі», — гаворачы нейкім вобразным прыкладам, каб быць правідлова зразуметым у галоўным. Чаму ідуць дзесяткі тысячаў даляраў у тую яму херні, а няма грошай, каб заплаціць перакладчыку Купалавага і выдаўцу Купалавага? Ёсць на Фларыдзе Пятроўскі*[317]*, які абе-*

---

[314] Маецца на ўвазе **Язэп Найдзюк** (1909–1984), грамадскі дзеяч, гісторык, выдавец. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Польшчы пад імем Юзафа Александроўскага.

[315] Магчыма, маецца на ўвазе раскол у БАПЦ на прыхільнікаў мітрапаліта Мікалая (Мацукевіча) і прыхільнікаў мітрапаліта Ізяслава (Бруцкага), які аформіўся ў эміграцыйным асяроддзі на пачатку 1980-х гг.

[316] Маецца на ўвазе **Карнэля Найдзюк** — дачка Часлава.

[317] **Ян Пятроўскі** (1905–2001), рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч, пратэстанцкі прапаведнік, выдавец, літаратар, перакладчык. Ад

*ларушчыў і выдаў Плятона, Аўрэлюса*[318]*. Каб Вы тое бачылі, як ён гэтым нас тут на духу: жартанькі — Плятона можна ўжо чытаць па-беларуску! Аўрэлюса!!! Яго гэтыя кніжкі афіцыйна даходзяць да нас тут, за імі ганяецца проста наша інтэлігенцыя, як за кніжкай праф. Макміліна*[319] *з Англіі аб беларускай літаратуры*[320] *ці бо анталёгіяй Веры Рыч*[321] *«Як вада, як агонь»*[322] *(выбар беларускага верша на ангельскай мове, якую ў нас ведае сёньня амаль штодругі малады інтэлігент). Мы прагнем далучыцца да сусьветнае культуры і чакаем помачы ў гэтым так жа ад эміграцыі, зразуменьня ёю, што праз гэткае далучэнне зробімся бесьсьмяротнымі, вечнымі, здольнымі жыць далей, а не гібець у нікому не цікавых сьлёзах-крыўдзе (каму мілы жабрак, неўдалота?). Амэрыканцы любяць і ўмеюць паказацца з добрага, самага моцнага ім, боку. І нам трэба таго, і маем чым. Не ведаю, ці акурат не памылюся, але менавіта гэтак разумею я а. Надсона і лічу яго адным зь нямногалікіх, якія ўмеюць думаць цьвяроза, без шалёных фантасмагорый ды дзіцячасьці ў палітыцы. Скарынінская бібліятэка выклікае ў нас самыя добрыя спадзяванні, ганарымся ёю ды ўсяляк успамагаем яе. — Беларускае вакно на Захад! Але аднаго вакна ў хаце мала, трэба больш, сп. Чаславе. Зразумейце мяне як сьлед.*

---

1953 г. жыў у ЗША. Напісаў і выдаў некалькі дзясяткаў кніг, у тым ліку пераклады з Платона, Марка Аўрэлія, «Клясічны грэка-беларускі слоўнік».

[318] Перакладчыкам «Роздумаў» пазначаны Міхась Кавыль; Ян Пятроўскі напісаў толькі прадмову.

[319] **Арнольд Макмілін** (анг. *Arnold Barratt McMillin*, нар. 1941), брытанскі беларусіст, доктар славянскай філалогіі, даследчык беларускай літаратуры, сябра Англа-беларускага таварыства і рэдактар *«The Journal of Byelorussian Studies»*.

[320] McMillin, Arnold Barratt. Die Literatur der Weissrussen = A history of Byelorussian literature: from its origins to the present day. Giessen: Schmitz, 1977. — 447 p.

[321] **Вера Рыч** (анг. *Vera Rich*, 1936–2009), англійская паэтка, перакладчыца, сябра Англа-беларускага таварыства.

[322] Like water, like fire : an anthology of Byelorussian poetry from 1828 to the present day / selected and translated by Vera Rich. London: Allen & Unwin, 1971. — 351 p.



Як наравісты конь уздыблены,
Мільёнамі машын задымлены,
Хапун —
З прычаламі бясконцымі,
Хрыпун —
З кварталамі бяссонцымі,
З гандлярскаю рэкламнай прозаю,
Са статуяй жанчыны бронзавай
Паўстаў Нью-Йорк перада мной.
Гляджу я на цябе з Эмпайра,
І вось да сэрца падступае
Твой стогн
І гул пагрозны твой.

З чым параўнаць? Мурашнік, вулей?
Шаблон, шаблон...
У гэтым гуле
Любой метафары капец.
Касмапаліт з жыццём нялёгкім,
Банкір і докер, бос і лёкай,
Кравец і пекар, і купец.

Ракфелер-цэнтра манументы
І уол-стрыцкія віры.
Там, як цыбатыя ракеты,
Стаяць счарнелыя муры.

Камоды, вежы, этажэркі —
Граніт і шкло, бетон і сталь.
Ты страшны горад, ненажэрны.
Зямны і незямны амаль.

Здаецца, міг — і гулка грукнеш
Касмічнай катастрофай ты…
Цямнее Бронкс, дыміцца Бруклін,
Гараць Манхаттана хрыбты.

Мастамі туга падпяразаны
Сівы Іст-Рывер і Гудзон,
А далей — далі невыразныя
І акіянскіх хваляў звон.

Нечалавечыя адлегласці,
Геаметрычная нуда.
Як ты стаміўся, як забегаўся,
Шкада цябе, Нью-Йорк, шкада.

Не лаюся, не праклінаю:
Тут ёсць каму цябе клясці.
Калі такі характар маеш —
Расці і ўшыр і ўверх расці.

Я бачыў Рым, Парыж і Прагу
І пакланіўся іх красе.
А на цябе гляджу са страхам
І ўжо сумую пакрысе.

Пара спускацца. Дзень канчаецца.
Агонь рэклам зару згасіў.
Сцвярджай: тут цяжка прызвычаіцца,
Але душою не хлусі.

Няхай табе зусім нямілы ён,
Капіталізму рай і морг.
І ўсё ж страшэннай нейкай сілаю
Даўно валодае Нью-Йорк.

Тут сотні звычаяў, рэлігій,
Прыплыўшых з дальніх берагоў,

Мільёны купленых рэліквій
І бласлаўленне ўсіх багоў.

Тут шмат пакутлівага роздуму,
Натхнёнага узлёту розуму —
Жалезны гімн, літаўраў медзь.
Жылі тут людзі, нараджалі
Людзей,
Пасля іх долар джаліў,
Адных ледзь-ледзь, другіх насмерць.
І некалі над акіянам
Прызнаюць словам пакаянным
Свае грахі, сваю віну
І стрыты ўсе і авеню...

Увечары ў Нью-Йорку вогненна,
Пазней амаль увесь ён спіць.
Адзін Брадвей пякельным водгуллем
Грыміць, рагоча і кіпіць.

Увесь ён у шалёным полымі
Крыўляецца, міргае вам.
Брыджыт Бардо нагамі голымі
Фарсіць з агромністых рэклам.

Бензіну пах, сасісак, кофе,
Рыкаюць медныя басы.
Не едзь сюды, мой друг Пракоф’еў,
Тут ні бяроз, ні рыбы сіг.

Адно імчыцца ў чорнай высі
Рэклама — тройка напралом.
Яшчэ вышэй арол узвіўся,
Махае вогненным крылом.

Тут жоўты д’ябал служыць месу
Нью-йоркскім босам і чынам,

З электралямпачак навесы
Нахабна слепяць вочы нам.

Пад імі ёлупы клятчастыя
Жуюць, жуюць, жуюць, жуюць.
Панель шуміць, дыміць і шастае
І хваліцца: «Вось як жывуць!»

Таймс-сквер. Натоўп.
Над ім з амбіцыяй
Гарлае нейкі кандыдат.
І трохметровая паліцыя
Дубінкамі махае ў лад.

Стары жабрак дзьме ў флейту сіплую,
Ён вольны, так сказаць, мастак.
Я цэнты кідаю, і сціпла ён
«Сэнк'ю», — ківае мне.
Аднак
Ужо глядзяць вачмі пустымі
Юнцы з бародкамі рудымі
З пагрозай цёмнай на цябе...
Брадвей, Брадвей ў агні і дыме,
Цябе я ведаю цяпер!

Не захаплюся бляскам танным,
Не мне тут хіжа паляваць,
І ў злосці нават я не стану
На стрыт заплёваны пляваць.

А пабываць было тут варта
Хоць ноч адну, хоць раз адзін.
Ісці па стрытах страшнавата
Пасля дванаццаці гадзін.

Ідзеш нібы у нейкім кратэры,
А гмахі ўверх — вузей, вузей.

Але цябе ўжо не кратае
Чужой фантастыкі музей.

Тут кожны небаскроб адразу
Сніць дзесяць тысяч розных сноў.
Я ні насмешкай, ні абразай
Не разбуджу яго сыноў...

За дзень агледзеў гмахі, скалы,
Глухі асенні акіян.
Шкада, што ў Бруклін не пускаюць
Павандраваць такіх, як я.

З Эмпайра цяжка ўбачыць гора,
Яно глыбей, яно грубей.
Кіруй, шафёр, мой друг, за горад,
Гані хутчэй у Астэрбей!

Шыпіць дарога, пахне ветрам.
Хвала тварцам такіх дарог!
Пракласці іх між скал і нетраў
Народ вялікі толькі мог.

Я павярнуўся на імгненне,
Зірнуў назад у чорны змрок —
І сэрца ёкнула ў здзіўленні:
Нью-Йорк, прыгожы ты здалёк!

Нібы на ўцеху дзецям злеплены
З янтарных кропелек смалы,
З зялёных, залатых і срэбраных
Крыштальных кубікаў малых.

Там бегаюць начныя зайкі,
Плывуць у рэках светлякі —
Гарыць святла і шкла мазаіка...
Нью-Йорк, ты ж можаш быць такім —

І прыгажэй, і чалавечней,
І казачней, і разумней,
І зблізку стаць на векі вечныя
Такім, як здаўся зараз мне.

*Пімен Панчанка. Нью-йоркскія малюнкі*

## ПАТРЭБА МАЛІЦЦА СВАІМ ЗОРКАМ[323]

Наладжванне, а хутчэй, намацванне кантактаў метраполіі з паваеннай эміграцыяй пачалося ці не ад самага з'яўлення гэтае эміграцыі.

Вось што ў лісце да Аўгена Каханоўскага пісаў тагачасны Прэзідэнт Рады БНР Мікола Абрамчык:

*«В. Паважаны Спадар Старшыня, атрымаў сёньня сьяточны нумар "Бацькаўшчыны". Артыкул*[324] *пра "Чорнага Ката"*[325] *пададзены* [неразб.] *в. неабярэжна.*

*Выглядае напроста правакацыяй нейкай. Падаецца столькі непатрэбных рэчаў, дэмаскаваныя кансьпірацыі і г. д. На якое-ж ліха падаваць такіе сьляды, як "партызаны жывуць у калхозах, займаюць становішчы" ды чуць не адрас вілы Вітушкі*[326]*. Выходзіць, што такіх нямецкіх бегляцоў не варта выпускаць зь Беларусі.*

*Думаю, што Вам абавязкова патрэбна на гэта зьвярнуць увагу тых 2-х хлопцаў, каб яны аб гэтым усім пераказалі там каму патрэбна.*

*3.4. я Вам выслаў ліст, у якім выказаў некулькі сваіх думак, якіе варта-б было туды накінуць праз гэтых хлопцаў.*

*Цяпер, чытаючы "Бацькаўшчыну", прыйшла мне яшчэ адна. Ці не маглі-б яны гэтага "Чорнага Ката" назову — перамяніць*

---

323 Дзякуй Юрыю Бабічу за расчытванне польскамоўнага хуткапісу.

324 Маецца на ўвазе тэкст: У службе «Чорнага Ката». Успаміны нямецкага палоннага // Бацькаўшчына. № 2 (62). 25 сакавіка 1950. С. 3.

325 **«Чорны Кот»** — антысавецкая партызанская арганізацыя, якая дзейнічала ад 1944–1945 гг. да пачатку 1950-х гг. пад кіраўніцтвам Міхася Вітушкі. (Гл.: Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944–1956. Менск: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999.)

326 **Вітушка, Міхась** (1907—?), вайсковы дзеяч, кіраўнік Беларускага Рэзістансу ў другой палове 1940–1950-х гг. (Гл.: Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944–1956. Менск: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999.)

*на такі нацыянальны назоў, які-б акрэсьліў ясьней ідэйна палітычны характар нашага змаганьня. Было-б в. добра, каб яго замянілі на “Варту Б.Н.Р.” ці “Гвардыю Б.Н.Р.”. Або калі нельга ў цэласьці зьліквідаваць гэты назоў “Чорны Кот”, то прынамсі часьць іх, скажым, лепшыя адзінкі-аддзелы назваць “Вартай Б.Н.Р.” — а калі й гэтага нельга, то новую зрабіць фармацыю пад гэтым назовам.*

*На гэтым-бы мы в. выйгралі палітычна. Гэта-б магутнейшым рэхам абыйшлося ў сьвеце і лягчэйшымі-б былі нашыя сукцэсы дыплематычныя. А то “Чорны Кот” хто яго ведае што такое нацыянальнае гэта наша, ці нейкае інтэрнацыянальнае, ці нешта хоць і беларускае, але без акрэсьленага палітычнага аблічча, ось нешта анты бальшавіцкае і ўсё.*

*Потым было-б в. добра, калі Вам удасцца празь іх перакінуць з “Бацькаўшчыны” нашага Маніфэсту*[327]*, некулькі пастановаў Рады, апошні сьвяточны № “Бацькаўшчыны”*»[328].

На гэты ліст Аўген Каханоўскі адказаў:

«*Шаноўны Спадар Прэзыдэнт! На Вашыя лісты ад 3.4.1950 і 12.4.1950 г. я адказваю із спазьненьнем галоўным чынам дзеля таго, што спадзяваўся хуткага спатканьня із нашым кур’ерам з Бацькаўшчыны, каб мець беспасярэднія ад яго больш падрабязныя і канкрэтныя інфармацыі, чымся ягоныя асьцярожныя й толькі агульныя інфармацыі ў лістох. Аднак гэтае спатканьне зь незалежных ад нас і яго прычынаў затрымалася. Цяпер мы маем пратакол перапытаньня яго нашымі прыяцелямі, дастаўлены нам кур’ерскаю поштаю, і надзею хуткага пабачаньня. Болей аб гэтым пісаць Вам ня буду, бо хутка Вы спаткаецеся ў Нью Ёрку з ген. Ф. Кушалем*[329]*, які Вам зложыць аб гэтым*

---

[327] Маніфэст Рады Беларускай Народнай Рэспублікі // Бацькаўшчына. № 9 (12). 25 сакавіка 1948. С. 1.

[328] Ліст М. Абрамчыка да А. Кахаяоўскага ад 12.04.1950. На лісце — штамп *«Kanc. Uradu B.N.R. No 91 Data AHIZSINSIWVIPRIDS»*. Захоўваецца ў архіве БІНІМа.

[329] **Францішак Кушаль** (1895–1968), вайсковы і грамадскі дзеяч. Ад пачатку 1950-х гг. жыў у Нью-Ёрку (ЗША). Браў актыўны ўдзел у працы Рады БНР, Беларуска-амерыканскага задзіночання (у 1952–1954 гг. —

*дакумэнтальную справаздачу. Калі-ж Ф. Кушэль выедзе зь Мюнхэну ў ЗША яшчэ на гэтым тыдні і ня зможа бачыцца з нашым кур'ерам, то пры сваім спатканьні зь ім я сам пастараюся праінструктаваць яго аб Вашых прапазыцыях, а пры спатканьні з Вамі дапоўню Вам справаздачу Ф. Кушэля. Тое, што Вы чулі ў гэтай справе ад В. Русака*[330]*, нічога супольнага з нашай акцыяй ня мае: там мова йшла аб нязнаным нам перабежчыку-беларусу зь Беластоку, які жыве цяпер пад амэрыканскім наглядам у Мюнхэне, прыяжджаў двойчы да нас і пасьля ўважлівага праслуханьня яго зрабіў на нас уражаньне чалавека, да якога мы ня маем даверу. Што-ж да артыкулу ў "Бацькаўшчыне", перадрукаванага зь нямецкай газэты "Райнішэ Цайтунг"*[331]*, то ён ня зробіць нашым партызанам ніякае шкоды, бо, паводля нашых верагодных інфармацыяў, ад травеня месяца 1948 г. пасьля выпадкаў правакацыі польскіх партызанскіх аддзелаў, якія перайшлі ў Беларусь з Польшчы, нашая партызанка так рэарганізавана й закансьпіравана, што яе здэкансьпіраваць цяжка. А немец у сваіх успамінах, праўдападобна апавядаючы аб партызанскай дзейнасьці, увагу бальшавікоў адводзіць у бок*»[332].

Дык якім чынам, якімі сцежкамі дабіраліся — спачатку ў Нямеччыну, пазней у ЗША — «госці» і звесткі з Беларусі, абмінаючы прафесійную ўвагу неабыякавых людзей на Бацькаўшчыне.

Дакладнага адказу тым часам не знойдзена, але пэўныя здагадкі з'яўляюцца. Так, на адбітку аднаго выпадкова выяўленага ліста асадкаю зробленая заўвага: *«Ліст да Ант. Адамовіча*

---

старшыня арганізацыі). У 1967 г. пераехаў з жонкай паэткай Наталляй Арсенневай да сына ў Рочэстэр.

[330] **Васіль Русак** (1923–2000), грамадскі дзеяч. Ад 1950-х гг. жыў у Нью-Джэрсі, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-Джэрсійскага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання, быў актывістам БАПЦ.

[331] ***«Die Rheinische Zeitung»*** — нямецкая газета Сацыял-дэмакратычнай партыі, што выдавалася ў Кёльне ў 1892–1933 і 1946–1951 гг.

[332] Ліст Аўгена Кахамістаўскага да Міколы Абрамчыка ад 06.05.1950. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

*Васіля Гінтаўта, прысланы праз Польшчу. Ліст прысланы ў выніку сувязі, якую К. Мярляк*[333] *дапамог наладзіць праз ЦРУ»*[334].

З пытаннем, што гэта была за сувязь, што наогул вядома пра яе, я быў звярнуўся да Янкі Запрудніка. На жаль, высветлілася няшмат. Янка Запруднік адпісаў: *«Пра Мерлякову сувязь з ЦРУ ў мяне, фактычна, ня веда, а толькі дагадка. Аднойчы — гэта было недзе ў канцы 50-х — ён пытаецца ў мяне, ці не хацеў бы я пасланць пачку сваім у Беларусь. Я папытаўся ў яго, пра якую гэта пачку ён гаворыць. А ён кажа, што ведаве такую кампанію, якая высылае ў Беларусь дармовыя пачкі з харчамі. Каштаваць гэткая пачка нічога ня будзе, сказаў ён, трэба толькі даць адрас. Я падзякаваў яму за прапанову, але ад ягонай услугі адмовіўся, падумаўшы, што за гэтай прапановай хаваюцца нейкія дадатковыя мэты. Больш у нас на гэтую тэму гутарак ня было. Вось гэта — уся мая "веда". А дагадкі тут пра Мерлякову сувязь могуць быць самыя розныя»*[335].

Пэўныя кірункі пошуку сувязей, некаторыя ідэі ўжо маюцца. Цяпер жа — да самога ліста, высланага з Гародні з далучанай кароткай пісулькай па-польску: *«Шчэцын, 3.V.59. Шаноўны спадар! Выконваючы просьбу майго знаёмага, дасылаю Вам ліст. Адразу потым высылаю таксама невялікую пасылку. Лічу сваім абавязкам папрасіць у Вас прабачэньня за затрыманьне гэтых пасланьняў, што было выклікана маёй адсутнасьцю ў Шчэцыне. Багдан Стр[...]чык*».

Каб не дапіска на лісце, наўрад ці можна б калі было здагадацца, што той Ось, да каго пісаны ліст, ёсць Антон (Антось) Адамовіч. І што Васілёк — імя, якім падпісаны ліст, — насамрэч ёсць Гінтаўт, толькі не Васіль, а Франц.

---

[333] **Кастусь Мерляк** (1919–2006), грамадскі дзеяч. Ад канца 1950-х гг. жыў у ЗША. Стваральнік парафіі Св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Ад 1969 г. браў удзел у дзейнасці Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, у 1970-я гг. некаторы час быў віцэ-прэзідэнтам БККА. У сярэдзіне 1990-х адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці. У 1992 г. выдаў успаміны «Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі».

[334] Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[335] Электронны ліст ад Янкі Запрудніка 25.03.2014.

Франц Гінтаўт (1910–2002) разам з Адамовічам вучыўся ў мінскім Беларускім педагагічным тэхнікуме (ягоныя ўспаміны пра той час выдрукаваныя ў кнізе твораў Лукаша Калюгі (Мінск, 1992), агульнага іхняга сябры — разам з іншымі (Сяргеем Астрэйкам, Валерам Мараковым, Юліем Таўбіным... ды хіба ўсіх пералічыш!), а пазней, таксама разам, адбываў пакаранне за ўдзел у «Беларускай народнай грамадзе» — у «амерыканцы» і на высылцы. Пасля жыццёвых перыпетый атрымаў напярэдадні вайны працу ў Беларусі; там і пражыў усю акупацыю, не паспеўшы эвакуявацца.

Дзесьці ў сярэдзіне 1950-х гг. Міністэрствам асветы БССР Франц Гінтаўт быў скіраваны на працу ў Гародню.

Ліст, які кранае абставіны смерці Янкі Купалы, напісаны «па-шпіёнску», але ці быў ягоны змест, намёкі загадкаю для чужых вачэй?

Так ці інакш ліст гэты варты публікацыі: і як сведчанне кантактаў метраполіі з эміграцыяй, і як яшчэ адна версія смерці народнага песняра.

*«Дарагі дружа Ось!*

*Прыкрая часіна мінула с атрыманьнем твайго ліста. Вельмі карціла ведаць, ці атрымаў ліст з новых шляхоў. Думалася і аб тваім здароўі, усёж-ткі кавалак часу адтапталі і крыху, як кажуць, прытапталіся, а нічога пра гэта ня пішаш. Я, дзякуй богу, мацуюся, дзеткі растуць, дачушка ўжо вялікая дзяўчына, яе крыху памятаеш (маці, напэўна, больш памятае). Ці завёў сям'ю на новым месцы?*

*Дудзічыха выйшла замуж, жыве, здаецца, у Менску.*

*Менск стаў прыгожым горадам, расьце ва ўсе бакі, як на дражджах, дарос нават да Дараўкі. Ці маеш здымкі новага Менска? На тым месцы, дзе калісьці жыў Купала, збудавалі яго памяці прыгожы музэй, а ўвесь пляц (ад музэю да Савецкай) стаў прыгожым паркам. Берагі Сьвіслачы ў гэтым месцы адзелі гранітныя фальбонкі. Вуліцы сталі прасторнымі й зялёнымі. Менск можа зачараваць, калі хто яго пабачыць. Менск стаў запраўды сталічным.*

*З цёткай Уладзяй*[336] *час ад часу спатыкаемся, а таксама зь яго сястрой. Купала падвыпіўшы падымаўся па лесьвіцы і штурхануў тэхнічку, а пасьля, падняўшыся крышку вышэй, на адзін паверх, уздумалася яму яе перапрашаць. Перавеснуўся цераз парэнча і, відаць, згубіў раўнавагу. Сьмерць выпадковая.*

*Нашы патроху пішуць, напэўна, чытаеш іх творы. Што падабаецца зь іх табе?*

*Трэба сказаць — пісьменьніцкая кагорта расьце. І як-бы не пісалі, усё-ж яны робяць добрую справу. Беларускае слова расьце, узмацоўваецца, а гэта важна. Было-б горш, каб паўтарыліся тыя падзеі, якія перажыла бацькаўшчына калісьці. Калі прыглядзіцца добра, то можна знайсьці добрыя зярняткі.*

*Ці ёсьць патрэба ў вас маліцца сваім зорам?*

*Ты выказаў многа цікавых думак, ужо яны дайшлі — гэта важна. Добра і тое, што ўзьнікла нарада цераз чорную стужку. Раіцца трэба было больш і часьцей.*

*Багдановіча высылаем. Было-б добра, калі-б выслаў самае цікавае, на тваю думку. Цікава, што напісана там — крытычнае, мастацкае. Мабыць, ''сьпісыватэльскіх'' выданьняў у вас няма?*

*Ці ёсьць згуртаванасьць думак, ці яны розьняцца і як? Зь якімі сябрукамі сябруеш, якіх ведаю я?*

*Пішы часьцей.*

*Няхай збудзецца ўсё тое, аб чым думаем.*

*Усе жадаем усяго найлепшага.*

*Твой Васілёк».*

[336] Маецца на ўвазе **Уладзіслава Францаўна Луцэвіч** (1891–1960), жонка Янкі Купалы.

## ТЫЯ, ШТО ЗАСТАЛІСЯ

Аляксандр Баханчык (1926–1999) — навучэнец Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, у 1944 г. — афіцэрскай школы Беларускай краёвай абароны. Ваяваў у складзе Рускай вызваленчай арміі генерала Бунячэнкі. Арыштаваны СМЕРШам, засуджаны да зняволення. У Беларусь вярнуўся ў 1970-я гг. Жыў у Гарадзеі.

Аляксей Анішчык (Чэмер) (1912–2007) быў выкладчыкам Наваградскай беларускай настаўніцкай семінарыі, супрацоўнікам Беларускага культурнага цэнтра ў Мінску. Удзельнік II Усебеларускага кангрэса. Па вайне жыў у Польшчы, але быў арыштаваны, асуджаны да страты, замененай пазней на 25 гадоў лагераў. Вызвалены ў 1962 г. Жыў у Вільні.

* * *

*Гарадзея, 21 студзеня 1995 г.*

*Паважаная рэдакцыя!*

*Вашую газету «Беларус» чытаю ўжо два гады. Мне яе высылае з Канады мой сябра Кастусь Акула. Бываюць вельмі цікавыя нумары, бываюць менш для нас цікавыя. Апошні нумар за 1994 год (№ 419) вельмі цікавы.*

*Аднак я лічу неабходным паспрачацца з некаторымі аўтарамі, я абсалютна з імі незгодны. Сёння высылаю Вам зацемку аб распальванні рэлігійнай і нацыянальнай варожасці спадаром Уладзімерам Брылеўскім*[337] *у зацемцы «Яшчэ пра польскую экспансію на Беларусі».*

---

337 **Уладзімір Брылеўскі** (1917–2002), грамадскі дзеяч. Ад канца 1940-х гг. жыў у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, ЗША), браў удзел у нацыянальным руху, супрацоўнічаў з польскім часопісам «Культура» (Парыж). Надрукаваў у газеце «Беларус» і часопісе «Беларуская думка» ўспаміны пра дзеячаў беларускага нацыянальнага руху — В. Іваноўскага, Р. Астроўскага, В. Гадлеўскага, Х. Ілляшэвіча, К. Езавітава.

*Не згодзен я і з пастаноўкаю пытання спадаром М. Швэдзюком*[338] *у артыкуле «Пра ўдзел беларусаў у арміі ген. Андэрса», калі ён піша: «У маім папярэднім і цяперашнім артыкулах я стараўся апісаць цяжкасьці, з якімі спатыкаліся ў СССР беларусы, што хацелі ўступіць у польскую армію, каб ратаваць сваё і сваіх сем'яў жыцьцё». І далей:*

*«Былі выпадкі, што бралі ў польскі Другі корпус і людзей, якія служылі ў нямецкім войску».*

*Большага эгаізму трудна прыдумаць! Значыцца, тыя сем'і, якіх бальшавікі пасьпелі вывязьці ў Сібір да лета 1941 года, трэба было ратаваць і вывезьці ў Іран, а тыя, якіх бальшавікі не пасьпелі вывязьці, хай едуць на мукі і голад? Бо ў 1948–49 гады вывозілі бальшавікі настаўнікаў, якія вучылі ў беларускіх школах падчас акупацыі, і навучэнцаў настаўніцкіх сэмінарыяў з Нясьвіжа, Глыбокага ды іншых гарадоў, усіх сяброў СБМ*[339]*, якія не паехалі ў 1944 годзе на Захад. А як было перайсьці да альянтаў (саюзнікаў) без вайсковай вопраткі? Як павядуць сябе саюзнікі пасьля перамогі, было невядома. Пасьля выясьнілася, што шмат каго і з Нямеччыны вывязьлі ў Сібір. Значыцца, у тых сяброў СБМ, навучэнцаў настаўніцкіх сэмінарыяў быў адзін выхад: адзець нямецкую вайсковую форму і папасьці служыць ці змагацца ў Францыю ці Эльзас, а там перайсьці да альянтаў. А спадар Швэдзюк па-бальшавіцкі дзеліць людзей на «чысьцікаў» і «нячысьцікаў». Нячысьцікаў у армію ген. Андэрса не трэба было браць, хай іх бальшавікі назад забіраюць і судзяць. Пражыўшы 50 гадоў на «захадзе», у дэмакратычных дзяржавах, спадар Швэдзюк нават не падазрае, колькі ў ім засталося славянска-бальшавіцкага. Гэта нас, на Радзіме, бальшавікі дзялілі на чысьцікаў і нячысьцікаў. Не маеш права на такую працу, бо быў пад акупацыяй. Не маеш права на такую пасаду,*

---

338 **Міхась Швэдзюк** (нар. 1926), грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Сябра Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Аўтар матэрыялаў пра беларускае жыццё ў Брытаніі для газетаў «Беларус», «Беларускі дайджэст», «Рунь». Жыве ў Конгэлтане *(Congleton)*, у Чэшыры.

339 **СБМ** — Саюз беларускай моладзі.

*бо быў пад акупацыяй, бачыў іншае жыццё, не толькі савецкае. Я на поўначы сустракаў чалавека, якога не прынялі ў партыю, бо, маючы 7 гадоў, ён быў пад акупацыяй. Нячысьцік ды ўсё.*

*Да гэтага ліста далучаю для рэдакцыі артыкул народнага дэпутата беларускага парламэнту Віталя Малашка*[340] *аб міфах сённяшняга дня ў палітычным жыцці Беларусі, аб страхах прэзыдэнта і яго «ворагах». Вельмі добры аналіз сучаснага палітычнага жыцця на Радзіме! Хачу мець надзею, што гэты матарыял будзе карысным для рэдакцыі. Тут жа я не абразаў канец артыкула палітолага Анатоля Майсені*[341] *аб падзеях у Чачні, погляд на гэтыя падзеі з Менску.*

*З павагаю да вас*

*Аляксандар Баханчык.*

*Копія. Да ведама.*

*Гарадзея, 15 красавіка 1995 г.*

*Паважаны Кастусь*[342]*.*

*Сёння я атрымаў Твой ліст з дня 5.04.95 г. Дзякую за звесткі, асабліва за сакавіцкі нумар газэты «Беларус». А ці Ты чытаў гэтую газэту сам? Мо Ты атрымваеш адзін паасобнік і адразу перасылаеш мне, сам не прачытаўшы? Бо вось аб двух маіх артыкулах у апошнім часопісе «Голас часу»*[343] *Ты пішаш, а аб маім артыкуле, які амаль без скаротаў надрукавала газета «Беларус» — Ты ні слова. Той артыкул, што Ты чытаў за маім подпісам у «ГЧ», праляжаў у Весялкоўскага*[344] *больш за поўгода*

---

[340] **Віталь Малашка** ўваходзіў у кіраўніцтва партыі Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, створанай у 1991 г. Пазней — Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада).

[341] **Анатоль Майсеня** (1959–1996), журналіст і палітолаг, кандыдат філасофскіх навук. У 1992–1996 гг. быў кіраўніком Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход–Захад». Загінуў у аўтакатастрофе.

[342] Ліст адрасаваны Кастусю Акулу.

[343] **«Голас часу»** — царкоўна-грамадскі часопіс, які выдаваўся ў Лондане ў 1989–1996 гг. Галоўны рэдактар — Юры Весялкоўскі.

[344] **Юры Весялкоўскі** (нар. 1924), грамадскі дзеяч, публіцыст. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Хрысціянскага аб’яднання беларускіх работнікаў. У 1954–1962 гг. быў

*і да таго-ж скарочаны, бо там выкінута лікаванне камуністаў, калі ім удалося не дапусьціць вэтэранаў пад бел-чырвона-белым сьцягам на плошчу Перамогі. Камуністычная газетка «Мы и время»*[345] *за 6 ліпеня 94 г. (калі я не памыліўся з датаю) надрукавала на апошняй старонцы артыкул, поўны радасьці, пад загалоўкам «Националистическая провокация не прошла». З гэтага артыкула якраз і бачна, хто быў арганізатарам гэтай правакацыі, але аб гэтым Весялкоўскі тэкст выкінуў, каб змясціць у нумары нешта, на яго погляд больш важнае. І ўвогуле, калі Ты ўважліва чытаў, Ты павінен быў заўважыць, што артыкул пісаны яшчэ да выбараў прэзыдэнта, яшчэ падчас кіравання Кебіча*[346]*. Гэта добра адчуваецца з тэксту. І вось Весялкоўскі, не адчуваючы тады пагрозы, навісшай над нашымі дзяржаўнымі сімваламі, артыкул затрымаў, а друкаваў вершы рускага паэта і барда Уладзімера Высоцкага*[347]*, успаміны Марыны Уладзі*[348] *аб Высоцкім і іншае, а на паведамленне аб правакацыі камуністаў адносна дзяржаўнага сцяга Рэспублікі — месца не хапіла. Прышлося некалькі месяцаў перапісвацца, даказваць, што ён не адчувае актуальныя тэмы, не трымае руку на пульсе часу, і так я дабіўся публікацыі гэтага артыкула са спазьненнем амаль на 9 месяцаў і то ў скарочаным варыянце. Своечасова гэта прагучала б лепш, бо я пісаў гэты артыкул адразу пасьля атрымання*

---

адным з рэдактараў часопіса «Аб'еднаньне». У 1952 г. уваходзіў у Беларускі вызвольны рух. Належыў да парафіі Св. Еўфрасінні Полацкай у Лондане. У 1974–1976 гг. выдаваў часопіс «Званіца», пазней, у 1989–1996 гг., — часопіс «Голас часу». Аўтар шэрагу кніг па беларускай і сусветнай гісторыі: «Дарогі рымскіх папаў на Ўсход» (1992), «Беларусь у першай сусьветнай вайне» (1995), «Па сьлядах Другой сусьветнай вайны» (2002) і іншых, а таксама ўспамінаў «Няясна мроіліся новыя дарогі» (1997).

345 ***«Мы и время»*** (сёння *«Коммунист Беларуси. Мы и время»*) — газета Камуністычнай партыі Беларусі, адноўленай у 1991 г.

346 **Вячаслаў Кебіч** (нар. 1936), палітычны дзеяч, першы прэм'ер-міністр незалежнай Рэспублікі Беларусь у 1990–1994 гг.

347 **Уладзімір Высоцкі** (1938–1980), савецкі акцёр, паэт, аўтар-выканаўца песень.

348 **Марына Уладзі** (фр. *Marina Vlady,* нар. 1938), французская спявачка і акцёрка расійскага паходжання, жонка Уладзіміра Высоцкага.

*газеткі «Мы и время» з радасным рэпартажам аб зьдзеках над дзяржаўным сьцягам, аб недапушчэнні «фашыстаў» на плошчу Перамогі са сьцягам, якога ўвесь беларускі народ павінен саромяцца, бо ён фашысцкі, зацьверджаны гаўляйтарам Кубэ*[349].

*А ў газеце «Беларус» № 422 шмат маіх матарыялаў, хаця Ты мо і не заўважыў гэтага. Вазьмі адкрыты ліст прэм'ер міністру і міністру сувязі РБ на апошняй бачыне газеты. Я як глянуў, дык адразу пазнаў маркі на маім канвэрце з рысункам зялёнага дуба. Бо толькі я мог дадумацца закупіць столькі латышскіх канвертаў з моцнай паперы на гады наперад. І мая дагадка спраўдзілася: прачытай штэмпель пошты пад зоркаю і надпісам СССР. На штэмпелі напісана «Гарадзея, Минск, обл.». Далей глядзі паведамленні са спасылкамі на газеты «Пагоня»*[350] *і «Народную газету»*[351]. *Я лічу, што былі выкарыстаны мае выразкі з газет, ды далёка ня ўсё. Гэта я высылаў выразку з «Пагоні» з вершам Ведзьмака Лысагорскага*[352] *і матарыялы аб пагадненнях з Расіяю*[353], *якія абнарадовала «Пагоня». Безумоўна, газета магла б выкарыстаць больш, але ж у «Беларусе» вельмі абшырныя зазвычай успаміны аб памерших, так як у «Пагоні» шмат месца займае праграма тэлебачання (аж дзьве бачынкі) і ў кожным нумары бачынка т. зв. дасьледванняў. Хаця я лічу, што зараз, перад рэфэрэндумам, лісты чытачоў наконт таго, што чырвоную зорку як сімвал дзяржавы ніхто не зацьверджваў усеагульным галасаваньнем, што пытанні*

---

[349] **Вільгельм Кубэ** (ням. *Wilhelm Kube,* 1887–1943), нямецкі палітычны дзеяч, генеральны камісар Генеральнай акругі Беларусь Рэйхскамісарыята Остланд (1941–1943).

[350] **«Пагоня»** — беларускамоўная незалежная газета, што выдавалася ў Горадні ў 1992–2001 гг.

[351] **«Народная газета»** — грамадска-палітычная газета, заснаваная ў Мінску ў 1990 г. У першай палове 1990-х гг. выходзіла як афіцыйнае выданне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

[352] Маецца на ўвазе верш Ведзьмака Лысагорскага «Лука Мудзішчаў — Прэзідэнт».

[353] Маюцца на ўвазе Дагавор аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж Расійскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь, падпісаны 21 лютага 1995 г.

*дзяржаўнай мовы нідзе і ніколі не вырашалі п’янюгі, зладзеі, прастытуткі, ды нават звыклыя працоўныя людзі, якім трэба хлеб сеяць, і ім не да палітыкі ці глыбокага вывучэння гісторыі. Яны чакаюць падсказкі ад газеты, якую перад сном чытаюць. Але ж калі і што друкаваць і ў якім аб’ёме — вырашае галоўны рэдактар, і ён не абавязаны праводзіць рэфэрэндум аб тым, калі і што яму друкаваць. Тым больш, што сп. Маркевіч*[354] *сам дэпутат ВС і лепш за мяне ведае абстаноўку ў гэтым воргане і тое, ці нашыя падсказкі паўплываюць на рашэнні дэпутатаў. Так што трэба лічыць, што друкуецца тое, што неабходна, хаця пішацца значна больш.*

*Бачыш, у адносінах да «Беларуса» ў мяне іншая крыўда. Праўда, яны ж мяне не прасілі, каб я высылаў ім актуальныя выразкі з газет, але я пісаў ім, што я пенсіянер. І вось, каб яны не пісалі неабгрунтаваныя і зараз ня вельмі актуальныя лісты сваіх чытачоў, я вырашыў дасылаць ім самыя актуальныя выразкі з газет, ды не толькі беларускіх, але і рускіх. Ну што яны друкавалі, што мяне раздражала: спачатку аб тым, што палякі незаконна акупавалі заходнюю частку Беларусі, а праз пару месяцаў аб тым, што палякі, сволачы, не ўсіх беларусаў, якія хацелі, узялі ў войска ген. Андерса. Дык будзьце пасьлядоўнымі: калі акупацыя, нягледзячы на міжнародную ўмову, якой, дарэчы, не было ў 1939 годзе пры вызваленні заходняй часткі — незаконная, дык чаго ж вы хаваецеся за былое польскае грамадзянства ў незаконнай акупацыйнай зоне палякаў? Будзьце ж пасьлядоўнымі: Сталін вызваліў з-пад панскай акупацыі, цярпі ад Сталіна ўсё! Нашто ж ад вызваліцеля хавацца пад крыло акупантаў! Альбо вазьмі артыкул Брылеўскага, адказ на які надрукавала рэдакцыя «Беларуса», дзякуй ёй за гэта. Ну надаеў мне гэты праваслаўны бальшавізм, кто не с нами, тот против нас. У нас прэзыдэнт, урад ня хочуць гаварыць па-беларуску, войска слухае рускія каманды, і гэта найбольш актуальна, а сп. Брылеўскі займае плошчу газеты апісаннем паланізацыі ў*

[354] **Мікола Маркевіч** (нар. 1962), журналіст, выдавец, палітык. Быў заснавальнікам і галоўным рэдактарам газеты «Пагоня».

*нас. Ты двойчы быў у Менску, дзе па апісаннях Ул. Сыракомлі*[355] *100 гадоў таму найбольш было гебраяў і палякаў (бо беларусы былі на вёсках, і вёска нам захавала беларускасьць), а зараз Ты чуў польскую мову? Ці мо сталіца Беларусі зруфіцыкавана? Што зараз важней: ці тое, што ў Гародні ксёндз збірае 30–40 каталікоў і яны моляцца па малітоўнікам, выданым у Польшчы на польскай мове, ці тое, што праваслаўны сьвятар збярэ на асьвячэнне неяк 4–5 тысяч праваслаўных гародзяйцаў і будзе ім гаварыць, а пасьля і пропаведзь чытаць выключна на рускай мове. Беларускую ён не прызнае і не вучыцца, каб гаварыць на ёй, няма такога загаду ад мітрапаліта Філарэта*[356]*! Дык дзе ўплыў, уздзеянне большае? Я ня вельмі меў надзею на тое, што мой артыкул аб рэлігійнай талерантнасьці будзе надрукаваны без скаротаў, а то я напісаў бы трохі больш. Бо я прапусьціў такую тэму, як 200-годдзе ўтварэньня Менскай епархіі летам 1993 года. Гэтае сьвяткаванне, урачыстыя званы ўсіх цэркваў Менску мы назіралі разам з Надсанам і пагадзіліся, што Кебіч не пашкадаваў грошай на гэтую ўрачыстасьць і сам прысутнічаў на гэтым сьвяце, бо практычна адзначалася 200-годдзе далучэння Менска і акругі да Расіі падчас другога разбору Рэчы Паспалітай. Таму ніхто не выступаў супраць гэтага сьвята, нават камуністы, бо адны сьвяткавалі такім чынам далучэнне Беларусі да Расеі, а другія двухсотгоддзе ўтварэння Менскай епархіі, прызнаючы тым самым, што да 1793 года такой епархіі не было, бо не было і праваслаўных. Усе насельніцтва тагачаснага Менску было грэка і рыма каталікамі акрамя гебраяў і татар, безумоўна. Так што пан Кебіч фінансаваў сьвята пачатку вынішчэння ўніяцтва на Беларусі. Не напісаў я таксама і аб сьвяткаваньні тысячагоддзя праваслаўя (ці ўсё ж хрысьціянства?) на Беларусі ў 1992 годзе. На паштовых марках*

---

[355] **Уладзіслаў Сыракомля** (сапр. Людвік Уладзіслаў Францішак Кандратовіч, 1823–1862), беларуска-польскі паэт, драматург, перакладчык, літаратурны крытык і краязнаўца.

[356] **Філарэт** (свецк. **Кірыл Вахрамееў**, нар. 1935), рэлігійны дзеяч, архірэй Расійскай праваслаўнай царквы. У 1978–2013 гг. — мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

*і паштовым блоку быў усё ж надпіс (надрук) такі: 1000-годдзе праваслаўнай царквы на Беларусі. А ці тое праваслаўе было ў нас тысяча гадоў таму? Бо была ж рэформа Нікана*[357]*, якую вельмі падтрымаў цар Пятро I*[358]*. Чаму ён быў такі заінтэрасаваны ў распаўсюджванні гэтай рэформы Нікана, што пасылаў войскі, каб знішчыць нават у лясах малельні (бажніцы) старавераў, якія з гэтаю рэформаю не пагаджаліся. Забіты былі сотні тысяч, мо мільёны старавераў, частка іх сама сябе спаліла, абы не пагадзіцца з рэформамі Нікана ці Пятра, і цар сілаю навязваў народу гэтыя рэформы, чаму? Мо калі б не было разбораў Рэчы Паспалітай і панавання рускіх цароў, менавіта рускай праваслаўнай царквы, наша праваслаўе было б зусім іншым, мо яно было б падобнае да абраду старавераў, якія менавіта ў нас, пад Вільняю шукалі паратунку ад зьдзекаў цара Пятра I. Колькі раз я пытаў аб гэтым праваслаўнага бальшавіка Весялкоўскага, адказу не атрымаў. Дарэчы аб Весялкоўскім. Я ведаў яго з 1942 года па Нясьвіжскай сэмінарыі. Гэта быў недалёкі, але і нядрэнны хлопец. Нейк ля Бэльфорту*[359] *ён трымаўся ля нас, мы неаднойчы будавалі разам адну палатку, і тады я ў яго не заўважаў праваслаўнага фанатызму. Зараз бачу рэлігійную нецярпімасьць, і я, як магу, вяду барацьбу з гэтым, але вынікаў нешта не відаць. Мо ў вялікай капэрце, разам з выразкамі газэт, вышлю Табе копію якога ліста да яго, і Ты пабачыш, як я ваюю з гэтым фанатызмам, які я прыраўноўваю да фанатызма бальшавіцкага. Але ж я не павінен забываць і аб тым, што Весялкоўскі першы напісаў мне, прачытаўшы мой ліст у «ЛіМ»е. Дзякуючы яму я пасьля знайшоў іншых, у тым ліку і Цябе. Бо адкуль мне было ведаць, што пісьменьнік Акула, які адведаў*

[357] **Нікан** (свецк. руск. *Никита Минин*, 1605–1681), Маскоўскі патрыярх у 1652–1681 гг. Быў ініцыятарам рэформаў расійскай Праваслаўнай царквы, якія справакавалі раскол.

[358] **Пётр I** (1672–1725), маскоўскі цар і першы імператар Расійскай імперыі.

[359] Маецца на ўвазе **Бельфор** (фр. *Belfort*) — горад на паўночным усходзе Францыі.

*Радзіму, гэта якраз той Качан*[360]*, што спаў побач з Баўдзеем. Так што я пісаў і буду яму пісаць, хоць гэта некаму і не падабаецца. А вершы Надзі*[361] *былі ў друку апублікаваныя пасьля праўкі ці рэдакцыі самога Юры. Ну, як жа, раз рэдактар, значыць і паэзію разумее. А высылала яму вершы не сама Надзя, а Вера, якая баіцца, што Надзя Дземідовіч пажыве нядоўга, і ніхто не даведаецца, чым яна жыла, аб чым марыла. Як-ніяк, Надзя мела ўжо тры вылівы крыві ў мозг (інсульты), пасьля чаго была спаралізаваная, вось і кульгае. Параліч можа паўтарыцца, калі яна здэнэрвуецца, і тады яе ўжо ніхто не выратуе. Вось Вера і стараецца зрабіць ёй прыемнае і паказаць, што вершы яе добрыя, іх друкуюць часопісы і газеты. Мо Надзя і была б паэткаю, каб яна атрымала адукацыю, мела большы запас слоў, большую начытанасьць. Але ж, калі пачалі арыштоўваць тых, хто вучыўся пры немцах, Надзя ўцякла ў Сярэднюю Азію, Ташкент, калі не памыляюся. А ў чужым горадзе трэба было нейк жыць, тут было не да вучобы, як дома. Пасьля арышт, турма, допыты. Гэта ўжо іншая адукацыя. У сьцяпным лагеры Кенгіру*[362] *наўрад ці была бібліятэка. А мо і была з бальшавіцкіх выхаваўчых брашур на рускай мове. Дзеўкі баяцца старасьці, хочуць мець дзяцей, сям'ю. А вышла яна з лагеру маючы ўжо каля 29 гадоў. Тут трэба ўжо не вучыцца, а сьпяшацца завязаць сям'ю, бо застанешся адной да канца жыцця. Гэта ж пасляваенны час, колькі хлопцаў загубіў Сталін, каб паказаць свайму быламу сябру «кузькіну маць»? Вось так і жыве зараз пенсіянерка, у якой у галаве нешта складаецца, а для шліфоўкі напісанага няма ні практыкі, ні ведаў. А я толькі не вытрымаў, калі Юра калечыў сваёю рэдакцыяй верш аб Пагоні, адрэдагаваў яго сам і выслаў Табе, усе астатнія яе вершы я так перарабляць не магу, я маю свае жыццёвыя задачы. Мяне пры жыцці трымае*

---

[360] Сапраўднае імя Кастуся Акулы — Аляксандр Качан.

[361] **Надзея Дземідовіч** (нар. 1927), удзельніца Саюза беларускай моладзі, палітвязень, мемуарыстка.

[362] Надзея Дземідовіч была ўдзельніцай паўстання ў Кенгірскім лагеры ў 1954 г.

*неабходнасьць здзейсьнення таго, што я сам сабе вызначыў. І я раблю гэта так, як разумею, вось і ўсё.*

*Але я адышоў ад тэмы і не закончыў пісаць аб сваім жалю да рэдакцыі штомесячніка «Беларуса». Дык вось, яны мяне не прасілі аб тым, каб я ім высылаў лісты ці выразкі з газет. Але ж яны бачылі, што атрымваюць ад пенсіянера па два лісты на тыдзень з неблагой інфармацыяй. Карацей, маючы тады пенсію 200 тысяч рублёў на месяц, я не пашкадаваў патраціць на гэтую імфармацыю 10 % свае пенсіі, бо я выслаў ня менш, як 12 лістоў па 1800 руб. За кожны, калі не лічыць расходаў на куплю газет. Аб тым, што з нашых зберажэнняў на старасьць застаўся «пшык», яны там павінны ведаць. Бо 2 тысячы рублёў у Збербанку дзесяць год таму — гэта ўсяго 1 % маёй месячнай пенсіі. А на кніжцы як было 2 тыс. руб. на сьмерць, так і засталіся 2 тыс. руб. І вось я патраціў 10 % заробку на інфармацыю газеты, а ў рэдакцыі пашкадавалі 0,5 % свайго месячнага заробку, каб напісаць мне толькі адзін ліст аб тым, што «Свабоду» яны атрымліваюць і выразкі з яе высылаць не трэба. Я так і не ведаю, ці інфармацыя, перадрукаваная з «Народнай газеты» — гэта мая інфармацыя, ці рэдакцыя «Беларуса» атрымлівае «Народную» непасрэдна з Менску і без мяне? А я ж грошы траціў, мо і дарэмна. Думалі аб гэтым так занятыя людзі з рэдакцыі «Беларуса»? Альбо вазьмі апошні, 422 нумар газеты. Калі б Ты не выслаў мне гэты нумар, я б так і не ведаў, ці надрукавалі мой палемічны артыкул, ці не. Дык што, я на гуманітарную дапамогу ад іх чакаю ці толькі нармальных адносін: выкарысталі напісанае — паведаміце аўтару! Я ж ні ў адну газету не пішу для заробку, я не ганарар чакаю, а нармальных адносін да чалавека, які не толькі працаваў, але і меў матарыяльныя затраты на перасылку, паперу, ленту. Я нават ад беларускіх газет на ганарары не чакаю, бо за ганарар у 6 тыс. руб. у рэдакцыю даедзеш, а назад усё роўна трэба ехаць за свае, з пенсіі. Так што тут не заробіш.*

*Вось, нарабіўшыся ўчора ў агародзе, я не закончыў гэты ліст, дапісваю яго ў нядзелю, 16 красавіка, у дзень каталіцкага Вялікадня. Каб не адчуваць адзіноты і чуць чалавечыя галасы, у мяне ўключаны тэлевізар. Менск перадае аб нейкай жыхарцы*

*Клецка, дзе калісь Сымон Будны*[363] *быў настаўнікам. Гэтую кабету знайшлі, дзякуючы яе ўмельству рабіць пісанкі, г. зн. размалёўваць яйкі ў розныя колеры фарбамі. А жанчына аказалася не прастой, яе род ідзе ад другой жонкі караля Ягайлы*[364]*. Яна добра ведае, чаму продкі ўцяклі з Польшчы на Літву, менавіта ў Клецк, калі ў Клецку быў пабудаваны касьцёл, у вежы якой дагэтуль сядзіць ядро швэдзкай гарматы. І вось гэты касьцёл бальшавікі зрабілі сховішчам для жыта, а зараз тыя ж самыя камуністычныя ўлады горада аддалі нейкім гандлярам, каб зрабіць там бар з танцамі па начах і з бойкамі п'яных новых багачоў (бо просты люд на бар ці рэстарацыю грошай ня мае). І вось гэтая жанчына ўспамінае, як да прыходу бальшавікоў мірна ўжываліся тут людзі розных веравызнаньняў, розных канфесіяў. Бо ў Клецку і побач жыве шмат беларускіх татар, мабыць, пасьля вядомай беларуска-татарскай бітвы пад Клецкам*[365]*. Мо калісь засталіся параненыя ці палонныя. Акрамя таго ў гэтым горадзе калісь было шмат гебраяў, як і ва ўсіх беларускіх мястэчках перад акупацыяю. Былі і палякі (граніца ж была вельмі блізка), сем'яў 10 немцаў. Астатнія — беларусы абыдвух канфесіяў. І вось яна ўспамінае, як праваслаўныя заглядалі ў касьцёл, каб ведаць, яка ў каталікоў усеношчная, а каталікі беглі ў царкву паглядзець на хрэстны ход са сьвечкамі вакол царквы, на асьвячэньне пасхі і яек, асабліва ў тыя гады, калі Вялікдзень у праваслаўных і каталікоў супадалі ў адзін дзень. Тады моладзь бегала ад аднаго храма да другога, і ніякіх сутычак. Больш таго, з хрысьціянамі разам бегалі і іх сябры — татары і гебраі, толькі яны баяліся абвінавачваньня ў граху сваімі сьвятарамі, таму далей брамы не заходзілі, але цікавасьць была і ў іх. Як гэта адпавядае зместу майго арты-*

---

[363] **Сымон Будны** (каля 1530 — 1593), гуманіст, філосаф, асветнік, дзеяч рэфармацыйнага руху, адзін з заснавальнікаў навуковай крытыкі Бібліі на Беларусі.

[364] **Ягайла** (катал. Уладзіслаў, каля 1348–1434), вялікі князь літоўскі (1377–1392), кароль польскі (1385–1434), заснавальнік дынастыі Ягелонаў.

[365] Маецца на ўвазе бітва паміж войскамі Вялікага Княства Літоўскага і крымскіх татараў, што адбылася пад Клецкам 5 жніўня 1506 г.

*кулу ў 422 «Беларуса». Гэты аповід быў для мяне, як лек на маё сэрца, бо я сапраўды не памятаю варожасьці ў нашай школе: поп у адным памяшканні, ксёнзд у другім, а гебрайскім дзецям гуляць 45 мінут. А так як у Гародзяі шмат было гебраяў, дык мацой на дні сваей пасхі яны ўгашчалі так, што не змог у школе з'есьці, дахаты прыносіў. І бацька не адбіраў, не загадваў зьнішчыць. Бо гебраі яму давалі ў доўг, ён жа братоў маіх вучыў, і грошай дома не было, многа гадоў нам усё давалі ў доўг, на запіс у кніжцы. Вучоба пасьля сямігодкі платнаю ж была. Вось так і жылі, так і вучыліся ў адным класе Баханчыкі, ды Янчыкі з Пляндоўскімі, ды Каткоўскімі, ды яшчэ Вольфсанамі, ды Шварцманамі, і ніколі на пераменках, ні летам падчас фэрыяў (канікул) мы паміж сабой не біліся, наадварот, кожны заступаўся за любога са свайго класа. І адкуль пасьля ўзяліся праваслаўныя бальшавікі тыпу Весялкоўскага ці Брылеўскага, далібог ня ведаю. У іх усё, што не так, як у нас — гэта дрэнна, хто не думае, як мы — жулік, а хто моліцца не на царкоўнаславянскай мове — грэшнік. І колькі я ні пісаў таму ж Весялкоўскаму аб тым, колькі выдатных беларусаў было з каталіцкіх сем'яў — усё як гарох аб сьцяну. Не дакажаш, што Купала — каталік, Браніслаў Тарашкевіч[366] — каталік, Пазьняк, наканец, каталік. І нічога, што падчас іх юнацтва нават улады іх лічылі палякамі па прызнаку веравызнання. Б. Тарашкевіч адстойваў беларускасьць у польскім сэйме будучы каталіком. І ніхто тады не крычаў «ратуйце» таму, што ў касьцёлах сапраўды апалячвалі. А людзі заставаліся людзьмі! А зараз падбухторваюць і падбухторваюць тую варожасьць, нашто?*

*Уладзімер Аляксеявіч (Арлоў)[367], мабыць, застаўся ў Лондане пасьля Твайго ад'езду. Бо я чакаў два тыдні з той пятніцы, калі ён паляцеў у Лондан і ў наступны панядзелак патэлефанаваў на працу. Кабета адказала: Арлоў у Лондане, цераз два дні тэлефаную — тое самае. Так што ён затрымаўся мо на паха-*

---

[366] **Браніслаў Тарашкевіч** (1892–1938) , грамадска-палітычны дзеяч, мовазнавец, перакладчык.

[367] **Уладзімір Арлоў** (нар. 1953), пісьменнік.

*ванне Міхалюка[368] ці як там прозвішча Кіраўніка задзіночання беларусаў Вялікабрытаніі. Зараз я яму не тэлефаную, і ён мне плоціць той жа манетаю. На тым тыдні патэлефаную, каб пажадаць вясёлых сьвятаў Вялікадня.*

*Ну, бывай здароў, пара канчаць гэты ліст.*

* * *

*Вільня, 31.VII.97 г.*

*Шчыра Паважаны Сп. Запруднік!*

*Даўно хацеў да Вас напісаць, але дакладнага адрасу ня меў. За апошнія пару гадоў мне ўдалося выдаць некалькі кніжак, з якіх тры беларускія. Бадай найлепшая з іх — «Навагрaдская Беларуская Гімназія»[369].*

*Бяда ў тым, што выдаём іх за свой кошт, адну пенсію (маю) на аплату друкарні, а другую (жончыну) на аплату кватэры і харчаванне. Такім чынам, на выдачу брашуркі мне трэба год чакаць альбо больш.*

*Гэта — пры самым малым тыражы. А калі большы, то без дапамогі сяброў трэба два гады зьбіраць. А мяне гады ціснуць (ужо 85). Хацелася б пры жыцці закончыць збор і друк спадчыны.*

*Дасылаючы Вам апошнюю кніжыцу — манаграфію НБГ, спадзяюся, што Вы хоць крыху дапаможаце. Бо калі я гэтага не зраблю, ніхто ня зробіць.*

*Дапамогу найлепей прыслаць імянным чэкам (на маё імя і адрас). Тады атрымаю азначаную суму цераз тры-чатыры тыдні.*

*Рад быў бы пра Вас напісаць як выдатнага беларуса (напр., як Б. Кіта[370]), але нават Вашай біяграфіі ня маю. А трэба*

---

[368] Янка Міхалюк памёр 31 сакавіка 1995 г.

[369] Маецца на ўвазе кніга: Чэмер, Андрэй. Наваградзкая беларуская гімназія. Вільнюс, 1997. — 133 с.

[370] **Барыс Кіт** (нар. 1910), навуковец, грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у ЗША. Працаваў у амерыканскай касмічнай прамысловасці. У 1972 г. пераехаў у Нямеччыну. Жыве ў Франкфурце.

*было б вельмі падрабязную (продкі, хата, сям’я, лес ці рэчка, дубы, таполі, возера, суседзі... Нават розныя эпізоды. З гэтага я апрацаваў бы цэласьць і калярыт эпохі нашага краю і вёскі або горада). Маглі б дабавіць 20–30 здымкаў, пажадана кантрастных (чорна-белых).*

*У даны момант амаль закончаны мае тры чарговыя кніжкі — у тым ліку ўспаміны. Затрымка ў фондах, якія здабываю вельмі паволі, з самых розных крыніц.*

*Толькі, калі ласка, нічога не перасылайце цераз нашага Нюньку*[371] *— гэта чалавек з нячыстымі рукамі, які з грамадзкага карыта хоча стаць капіталістам. Хітры і зваротлівы ліс.*

*Пробуе на кручок узяць нават Пазьняка і Шушкевіча*[372]*, Гарэцкага*[373] *і Сурмач*[374] *ды ім падобных. Так стварае (фальшывым елеем) свой імідж... Умее ашукваць. Асьцерагайцеся.*

*А мне, занятаму работай, няма калі ўмешвацца ў гэты бруд.*

*Рад буду атрымаць Вашу апінію аб «НБГ» цераз ласкава ўчынную сп. праф. Аллу Орса-Рамана.*

*Калі Вам спатрэбіцца больш экзэмпляраў — напішэце, я прышлю. Хоць дарага каштуе перасылка. А можа заглянеце ў нашу Вільню? Будзем вельмі рады. Адзін пакой — для Вас будзе свабодны — мы жывём удваіх.*

---

[371] **Хведар Нюнька** (нар. 1928), грамадскі дзеяч, інжынер. Ад 1943 г. жыве ў Вільні. Ад 1980-х гг. — актыўны ўдзельнік беларускага жыцця ў Вільні. Ад 1989 г. — доўгагадовы старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве.

[372] **Станіслаў Шушкевіч** (нар. 1934), дзяржаўны і грамадскі дзеяч, фізік, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар. У 1991–1994 гг. быў Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

[373] Маецца на ўвазе **Радзім Гарэцкі** (нар. 1928), геолаг, акадэмік АН БССР, доктар геолага-мінералагічных навук, заслужаны дзеяч навукі БССР, сын Гаўрылы і пляменнік Максіма Гарэцкага. У 1992–1997 гг. — віцэ-прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У 1993–2001 гг. быў прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

[374] **Ганна Сурмач** (нар. 1947), грамадская дзяячка. У 1982–1993 гг. была дырэктарам Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. У 1993–2001 гг. была старшынёй Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Сёння жыве ў ЗША.

*Нядаўна быў др. Рагуля*[375]*. Але наш «дзеяч» яго так ізаляваў і заканспіраваў, што ня было ніякай сустрэчы з народам, арганізацыямі. І паўсталі розныя крыватолкі, нават падазрэнні пра нейкую «гешэфтную» мафію…*

*Прыкра слухаць пра тое, што паніжае аўтарытэт БНР (Рагуля ж прадстаўнік БНР).*

*Шчыра Вітаю,*

*Анішчык.*

[375] **Барыс Рагуля** (1920–2005), вайсковы і грамадска-палітычны дзеяч, медык. Ад сярэдзіны 1950-х гг. жыў у Канадзе. У першай палове 1990-х гг. быў віцэ-прэзідэнтам Рады БНР.

## У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «БЕЛАРУС»

* * *

*Бэт-Шэмэш, Ізраіль.*

*Шалом, сябры!*

*Так, сябры, хоць я й не ведаю, хто вы, але ж я ведаю пэўна, што сябры ўсе людзі, якія не страцілі сваёй нацыянальнасці гордасці, якія гатовы змагацца за родную мову, за родную культуру, за Народ свой, ашуканы ды абрабаваны. Таксама ўпэўнены я, што беларускі народ убачыць яшчэ радзіму свабоднаю — як мы, яўрэі, убачылі ж.*

*Я нарадзіўся ў Мінске, а рэпатрыяваўся ў 1979 годзе, калі было мне 19 гадоў. Бацькі мае й сёння яшчэ ў Мінске. Заўсёды любіў я беларускую мову, і маці мая добра ведае яе, а я з дзяцінства любіў на беларускай мове чытаць і слухаць гэтую мову, прыгожую ды пявучую. Але ж у Мінске — тады, хочацца верыць, што пераіначыцца гэтае становішча! — амаль што ні чуваць было беларускую мову! У школе ведаў я беларускую мову лепш за ўсіх у класе, у мяне нават пыталі, што якое слова значыць. Я ж толькі думаў пра сябе — што робіцца тут, вось і беларусы ўжо сваёй мовы не ведаюць, як і мы (я ж такі яўрэйскую мову ведаю з маленства, сам яе вывучаў). Беларусы мову сваіх дзядоў і вымаўлення сваіх бацькоў саромеюцца — дакладна, як яўрэі, але ж беларусы ў сваёй краіне, у сваёй сталіце!*

*Сёння гэта змяняецца. Прасіў я бацькоў прыслаць мне беларуска-рускі слоўнік. Кажуць, трэба чакаць, пакуль выдадут новы, а ў букіністычных крамах няма беларускіх слоўнікаў — усе параскупілі. Бо, кажуць, сёння «росквіт мовы»! Ну, дай Б-г! Дык вось, трапіў мне ў рукі «Беларус», і вырашыў я напісаць вам гэты ліст ды сказаць, што ў далёкай усходняй краіне Ізраіле ёсць людзі, якія любяць Беларусь і мову беларускую, і сочаць за*

*тым, што робіцца там. Усе мае сябры, з якімі я яшчэ ў Мінске зпатыкаўся да рэпатрыяцыі — усе мы вельмі шануем Беларусь і мову; калі размаўляем з кім з Расеі, дык заўсёды кажам: мы не з «России», а з Беларусі. Падкрэсліваем гэта. Таксама, калі мы сядзім часам, п'ем гарэлку, прыгатуваем рознае — дык заўсёды наш кілішак за свабодную Беларусь – што убачым яшчэ гэта, як мы сваю Радзіму ўбачылі.*

*Усяго найлепшага вам, сябры-беларусы!*

*Поспехаў у барацьбе вашай.*

*Шалом.*

*Иігаэль.*

*1 студзеня 1989 г.*

*Шаноўны, дарагі сябар Янка Запруднік!*

*Перш за ўсё віншую Вас і ўсіх Вашых супрацоўнікаў і сяброў з Новым Годам ды зычу ўсім вам усяго найлепшага ў жыцці і ў працы ў гэтым годзе!*

*Дзякую Вас таксама за Ваш шчыры ліст ды за газэты з зборнічкам — вершы гэтыя, сапраўды, цудоўныя — гэткія простыя і шчырыя, а пачуццё да сваёй краіны, да сваёй веры — яно ў кожнага народа сваё, але ж таксама — супольнае для ўсіх людзей, якія жадаюць «людзьмі звацца!».*

*Газэткі ж вашы маленькія, але ж вельмі цікавыя. Усхваляваны я быў, прачытаўшы пра дэманстрацыю, якая адбылася ў Мінску*[376] *— і як жа усё ж такі ўздымаецца свядомасць народу — бо хто марыў дзесяць год назад, каб у Мінску былі такія дэманстрацыі! Так, нацыянальная свядомасць беларусаў, незважаючы на «навуковыя доказы», што «беларускай нацыі няма» — прачнулася — і гэта прымушаны будуць зразумець усе парт-сабакі! Я толькі цешуся, што ў яўрэяў на Беларусі хопіць сэнса падтрымаць беларускі рух — ды таксама звяртацца да сваёй культуры — а не рабіць з сябе «носьбітаў вялікае рускае*

[376] Маецца на ўвазе шматтысячны мітынг-рэквіем, што адбыўся ў Мінску 30 кастрычніка 1988 г. і быў жорстка разагнаны.

*культуры»! Як гавораць там: хто размаўляе на літаратурнай рускай мове? Толькі яўрэі.*

*Галоснасць — галоснасць, але ж і міліцыя з дубінкамі ёсць, і жраць няма чаго. Бо трэба падтрымліваць «вялікага брата» — мае сябры былі ў Мінску ў гэтым годзе (і дзякаваць Гарбачову, што праўда, то праўда), дык кажуць, што і бульбы няма — а дзе ж яна?! Скажаш тры разы «Сталін — сабака», і ў роце салодка не зробіцца.*

*Вельмі ўдзячны за Ваша запрашэнне, але я ў Нью Ёрк пакуль што не вандрую — бо ўсе мае сябры тут, у Ізраіле, а грошай вандраваць я не маю. (Пабачыцца з бацькамі з магчыма паеду). Са сваяго боку — запрашаю да сябе, калі Вы ці хто з Вашых супрацоўнікаў альбо сяброў ці знаёмых будзе ў Ізраіле (мы, як кажуць, «турыстская краіна») — дык запрашаю на абед! («кашерны», але бліны і дранікі абяцаю, добрая гарэлка таксама знойдзецца), ды наогул — можна ў мяне пагасцеваць, калі ласка!*

*Атрымаў я ліст таксама ад Вітаўта Кіпеля і напісаў яму. Зычу ўсім беларусам у ЗША ўсяго добрага ў Новым Годзе.*

*Шалом!*

*З пашанай,*

*Иігаэль.*

* * *

*Мінск, 25 лютага 1989 г.*

*Шаноўны Павал!*

*Я Вам вельмі ўдзячны за ліст і звесткі пра Мікалая*[377]*. Свае сустрэчы з ім я ўспамінаю з вялікай прыемнасцю. Пра яго недамаганне я ўжо чуў. Але вось як бывае: у 1984–1985 гадах я сам моцна хварэў. Цэлы год я развітваўся з жыццём. Здаралася так, што перад вачыма усё круцілася, як круціцца прапеллер самалёта, і сам я тады быццам ляцеў у пропасць. Нават чытаць зусім нічога не мог. А потым паступова і памаленьку пачаў папраўляцца. І ў мінулым, 1988 годзе, нават двойчы ездзіў у Польшчу (другі раз — у канцы верасня на адкрыццё помніка беларускаму*

---

[377] Маецца на ўвазе Мікалай Заморскі.

*пісьменніку Алесю Гаруну ў Кракаве*[378]*). А яшчэ кожны год лячу самалётам на Чорнае мора адпачываць і набірацца сіл.*

*Прызнаюся: мяне ўсцешыла добрае веданне Вамі беларускай мовы і тое, што ў Вас аказалася пішучая машынка з беларускім шрыфтам. Радасна ўсведамляць, што там, на чужыне, ёсць людзі, якія так беражліва захоўваюць родныя традыцыі. А да нас толькі ў апошнія часы пачынаюць даходзіць звесткі аб жыцці нашых землякоў за рубяжом.*

*Перадайце, калі ласка, Мікалаю маё сардэчнае прывітанне разам з найлепшымі пажаданнямі.*

*З павагай*

*Уладзімір Казбярук*[379]*.*

* * *

*3 кастрычніка 1989 г.*

*Шаноўны П. Яноўскі!*

*З цікавасцю прачытаў у «Беларусе» за чэрвень 1988 г. (№ 348) артыкул Вячаслава Завалішына*[380]*, прысьвечаны славутай полацкай князёўне Рагнедзе — «Несьмяротнасьць бяз знойдзенае магілы». У сувязі з гэтым хацеў бы звярнуцца да аўтара з шэрагам пытанняў, адказы на якія мяне вельмі цікавяць, бо я займаюся вывучэннем старажытнага Заслаўя (X—XIII ст.), працую у аднаіменным запаведніку над стварэннем экспазіцыі музея археалогіі на Замэчку, дзе калісьці была паселена Рагнеда.*

*Паважаны В. Завалішын, адкажыце, калі ласка, на падставе якіх крыніц (а можа і першакрыніц) Вы пішыце:*

---

[378] Помнік на магіле Алеся Гаруна на Ракавіцкіх могілках у Кракаве быў адкрыты ў 1988 г.

[379] **Уладзімір Казбярук** (1923–2016), літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук. У 1959–1991 гг. працаваў у Інстытуце літаратуры АН БССР.

[380] **Вячаслаў Завалішын** (рус. *Вячеслав Завалишин*, 1915–1995), расійскі журналіст, мастацтвазнаўца і літаратуразнаўца. Ад 1951 г. жыў у ЗША.

*1. «У 1866 г. археолегічная экспэдыцыя Маскоўскага ўнівэрсытэту дасьледавала магілу Рагнеды...».*

*2. «У беларускім фальклоры ёсьць шмат легендаў пра ўваскрослую Рагнеду. Яе бачылі пасьля бітвы пад Грунвальдам...., бачылі, як яна ішла па крывавым Дубровенскім полі»?*

*3. «Яраслаў сьвята шанаваў памяць свае маці ды шмат што зрабіў для Полацкага княства. У гэтым яму дапамагала ягоная ўлюбёная дачка Елізавета, унучка Рагнедзіна»?*

*Паважаны П. Янкоўскі! Я быў бы Вам несказана ўдзячны, калі б Вы дапамаглі мне і перадалі вышэйпералічаныя пытанні В. Завалішыну. Сабраўшы шмат літаратуры па ранейшаму перыяду гісторыі Заслаўя (X—XII ст.), я, на жаль, ня ведаю, адкуль В. Завалішын займеў прыведзеныя ім факты. Мне было б вельмі цікава даведацца аб гэтым. Калі ласка, перадайце мой ліст аўтару.*

*Паколькі вывучая старажытнае Заслаўе я збіраю матар'ялы, якія знойдуць месца ў экспазіцыі музея на Замчэку, у мяне просьба да Вяч. Завалішына: калі ласка, Вячаслаў, дашліце мне ксеракопіі тых крыніц, якія Вы выкарыстоўвалі пры напісанні свайго артыкула.*

*Яшчэ раз выказваю Вам удзячнасць. Прабачце за клопаты.*

*З павагаю, ст. навуковы супрацоўнік Гісторыка-культурнага запаведніка «Заслаўе»*

*Крыванос Хведар Паўлавіч*[381].

* * *

*16 лютага 1990, Масква.*

*У рэдакцыю «Беларуса».*

*Шаноўныя спадарства!*

*З ласкі Вашае газэты (№ 364) даведаўся пра кнігу Вітаўта Тумаша «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны»*[382]. *Адсюль мая*

[381] Відаць, аўтарам ліста з'яўляецца цяперашні айцец **Фёдар Крыванос** (нар. 1962), колішні выпускнік гістарычнага факультэта БДУ, высвячаны на святара ў 1994 г.

[382] Маецца на ўвазе кніга: Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны. Нью Ёрк, 1989. — XXVIII+283 с.

*ласкавая просьба: ці не маглі б паспрыяць у набыцьці гэтае ўнікальнае для кожнага дасьледчыка беларускае культуры кнігі. Мо рэдакцыя пераказала б маю публікацыю пра Скарыну доктару Тумашу*[383] *(на жаль, адраса ягонага ня ведаю і асабіста зьвярнуцца не магу).*

*Дазвольце зычыць міру, дабра ды багатага плёну на ніве служэньня маці-Беларусі. Няхай усім нам шчасьціць у Скарынавым — юбілейным — году!*

*З павагаю,*

*Аляксей Каўка*[384].

* * *

*28.6.1990.*

*Добры дзень, паважаныя суайчыньнікі!*

*Піша Вам Зьмітрок Мікалаевіч Казлоў. Аднойчы, слухаючы радыё Свабода на беларускай мове, пачуў, што к Вам магчыма зьвяртацца за дапамогай адшукаць сваякоў у ЗША. Таму прашу Вас дапамагчы мне ў гэтым. Таму і прывожу ўсе зьвесткі аб іх.*

*Пётр Пятровіч Маскалік (нар. у 1892 або ў 1893 р. — пам. у 1951 р. 7 чэрвеня) эміграваў у ЗША ў перыяд 1912–1914 рр. (напэўна, восеньню 1913 р.) разам са сваімі сябрамі з вёскі Вуглы і Ванелевічы, што цяпер у Капыльскім раёне Менскай вобласьці. На Беларусі пакінуў 2-х братоў родных: Міхаіла (нар. у 1899 р.), Івана (1902–1983), 2-х сёстраў: Марыю (1897–1977), Зосю (1911 або 1912 — 1943).*

---

[383] Маецца на ўвазе кніга: Каўка, Аляксей. Тут мой народ : Францішак Скарына і беларуская літаратура XVI — пач. XX стст. Мінск: Мастацкая літаратура, 1989. — 225 с.

[384] **Аляксей Каўка** (нар. 1937), гісторык і літаратуразнаўца, грамадскі дзеяч, доктар філалагічных навук. У 1971–1979 і 1983–1987 гг. працаваў у Інстытуце эканомікі сусветнай сацыялістычнай сістэмы АН СССР. У 1979–1982 гг. быў прадстаўніком Саюза савецкіх таварыстваў дружбы і культурных сувязей з заграніцай, саветнікам пасольства СССР у Польшчы. Ад 1987 г. быў галоўным рэдактарам часопіса «*Советское славяноведение*», ад 1989 г. працаваў у Інстытуце сусветнай літаратуры імя М. Горкага Расійскай АН. Жыве ў Маскве.

*(Я пішу ад імя сваёй маці — Маскалік Валенціны Іванаўны — дачкі Івана Пятровіча Маскаліка — роднага брата Пятра П. Маскаліка.)*

*У ЗША Пётр П. Маскалік ажаніўся на літоўке, меў 2-х хлопцаў: Івана і Аляксея. Пётр П. Маскалік памёр «ад нырак» (быў рак або сухоты). Працаваў амаль да самай сьмерці на папяровай фабрыке. Яго жонка была звар'яцелая і лячылася ў шпіталі.*

*Сын Іван (мабыць, нар. у 1923 р.) меў 2-е дачкі: Карол (на 1959 ёй 11 год) і Жарыю*[385] *(на 1959 ёй 9 год). Ён да 1946 р. працаваў (цытую пісьмо) «на производстве аэропланов».*

*Сын Аляксей (на 3 рокі маладзейшы за Івана) (дадзеныя на 1959 р.) быў жанаты, але дзяцей тады ня меў. Ягоная жонка была медыкам.*

*Усе гэтыя дадзеныя ўзяты з пісьмаў, якія прысылалі ў 1946 р. Пётр П. Маскалік, а ў 1959 р. — Аляксей П. Маскалік (яго сын). Пасьля гэтага было яшчэ адно пісьмо (якое згубілася), у якім Аляксей Маскалік сказаў, што больш пісаць не будзе, таму што няма чалавека, які бы пісаў на рускай мове. Самі Аляксей і яго брат Іван не атрымалі адукацыі ні ў беларускай, ні ў рускай школах, як ні намагаўся іх бацька, які жыў сярод рускай калёніі.*

*Вось адрасы, якія былі даны на заканчэньне пісьмаў [...]*

*Вось і ўсё. Яшчэ скажыце, калі ласка, як у нас на Беларусі магчыма чытаць Вашу газэту, ці магчыма на яе падпісацца?*

*На гэтым заканчваю. Вельмі Вам удзячны. Спадзяюся на дапамогу.*

*З павагай к Вам*

*Зьмітрок Казлоў.*

*Да пабачэньня!*

---

[385] Так у лісце.

* * *

*2.10.90*

*Kuzbass Institute of preventive medicine*

*Вельміпаважанае Панства!*

*Піша да Вас працоўнік навуковы вышпаіменаванага інстытуту Дварэцкі Уладзімер. Адрасу Вашага я дастаў з газэты «Беларус», якую мне давялося чытаць у гуртку петраградзкіх (Leningrad) беларусаў, калі я вучыўся там з кветня па ліпень с. г. мэдыцынскай гэнэтыцы. Дзяды мае заехалі на Сыбір у часы сталыпінскай рэформы, яшчэ да перавароту бальшавікоў, жылі глыбака ў тайзе, далёка ад няшчаснай радзімы, але можа дзякуючы гэтай адлегласьці і ўдалося захаваць мову, веру і беларускі лад у чысьціні. Бацькі мае кшталціліся і працавалі ў расійскім асяродзьдзі, таму добра чытаю і размаўляю на расійскай мове, а да таго з задавальненьнем чытаю па-украінску і па-польску (у 1989 гасьцяваў на Беласточчыне ў сяброў-палякаў). Але ўсё гэта справы прыватныя, і калі Панства зацікаві мая асоба, магу напісаць аб тым у другім лісьце.*

*Пераходжу да болей важнай справы. У нашым інстытуце, які функцыянуе як малое прадпрыемства (small business ventures firm) ствараецца служба пошуку крэўных (Search Service), распрашоных па сьвеце ў выніку ўсіх сацыяльных катаклізмаў, без ідэалягічнай сэлекцыі на годных і нягодных да таго людзей. Попыт у Саветах на такі сэрвіс дужа вялікі, якія бы ні былі матывы тых, хто шукае. Мы ў сваю чаргу маем мажлівасьць публікаваць у прэсе велькім тыражом (да 150 000) аб’явы падобныя, напрыклад, да такой:*

*«Шукаюць крэўных: Тодар Клышка, радзіўся 15.09.1923 у Будзе Кашалёўскай, пад Гомлем, у 1942 годзе выехаў да Германіі, з 1948 года жыве ў ЗША. На радзіме засталіся сястра Вольга (1934) і брат Сяргей (1938). Дадатковай інфармацыі можна дастаць, затэлефанаваўшы па нумары 22994 Пракопьеўск». Калі ласка, вельміпаважанае Панства, не маглі бы Вы даць нам інфармацыю аб падобных фірмах пошуку крэўных (неабавязкова беларусаў), якія працуюць у ЗША і іншых краінах (адрас, тэлефон, тэлекс ці тэлефакс). Пазасталае зробім мы самі.*

*Ахвотна пазнаёміўся бы з амерыканскімі беларусамі з галіны мэдыцынская гэнэтыка, біятэхналёгія, псыхіятрыя.*

*Мне 34 гады, маю жонку псыхолёга і трох дзяцей.*

*З надзеяй на супрацу і з пажаданьнем посьпехаў у Панства добрых справах.*

*Дварэцкі Уладзімер, Пракопьеўск.*

* * *

*16.10.90 г.*
*Менск*

*Шаноўны спадару Янка Запруднік!*

*Доўгімі шляхамі дайшлі да маіх вушэй пагудкі (а нават і запытаньне было) пра занепакоенасьць амэрыканскіх і канадыйскіх беларусаў лёсам майго перакладу Сьвятога Пісаньня на беларускую мову: нібыта зь нейкіх прычынаў Сёмуха*[386] *прыпыніў працу.*

*Прашу Вас, спадару Рэдактар, паведаміць праз паважаную газэту ўсім маім невядомым прыяцелям, а тым болей зласьлівым неабольнікам, што ў гэтытх чутках далібог жа анізваньня ніякае праўды няма й быць ня можа, нават калі б каму й дужа карцела пасеяць зерне ліхога недаверства ды здэнэрвваць перакладчыка.*

*З жалем мушу, хай крыху запозьнена, прызнацца, што пачуваюся вінаватым перад беларусамі Амэрыкі й Канады, як што зараней не даўмеўся паведаміць пра існы стан рэчаў, ці не таму мо што адчуваў добрую падбадзёрку і клопат за маю працу. Шчыра вінюся і перапрашаюся за нядбальства сваё перад вернікамі-беларусамі.*

*Праца йдзе. Не магу пахваліцца тэмпамі, якіх прагне душа мая, але, мабыць, варта будзе згадзіцца, што Біблія — гэта ня тая кніга, пры перакладзе якой лішняе шчыраваньне ў хуткасьцях можна ўважаць за станоўчую якасьць.*

---

[386] **Васіль Сёмуха** (нар. 1936), перакладчык, рэдактар. Ад 1972 г. працаваў рэдактарам у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Аўтар перакладу Бібліі на беларускую мову (выдадзены ў 2002 г.).

*На апраўданьне сваё скажу: Новы Запавет перакладзены цалкам. Беларуская Праваслаўная Царква цяпер гэты пераклад чытае, зьвярае з грэцкім арыгіналам, рыхтуе свае заўвагі, — словам, як у добрых людзей вядзецца — ідзе падрыхтоўка выданьня, спакойна, бяз лішняга ляманту. Паралельна з рэдагаваньнем тэксту сёлета маецца выйсьці ў сьвет Евангельле ад Мацьвея асобным выданьнем, а налета, дасьць Бог, і ўвесь Новы Запавет. Во тады ўжо можна будзе ўваліць у званы, жартам кажучы. А датуль сьлед пацярпець.*

*Каб крыху злагодзіць грамадзкую думку вашых тамтэйшых беларусаў, дасылаю Вам асобнік альманаха «Даляглядьі-90» з публікацыяй кніг Эклезіяста і Найвышэйшай Песьні Саламона з запрашэньнем выказацца наконт маіх спробаў, не саромячыся даць перакладчыку дубца, калі ён таго варты.*

*На сёньняшні дзень зроблены пераклад Псалтыры і Саламонавых Прыпавесьцяў — дый далей пяро ў чарніла ўмачаю і ўмачаю. Калі ўсё гэта скласьці разам, дык вынік мог бы, вельмі спадзяюся, стацца якраз тым аргумэнтам на маю карысьць, які схіліў бы вернікаў да згоды — дараваць Сёмуху пэўную ягоную марудлівасьць.*

*У ходзе працы, вядома, паўстаюць пэўныя праблемы, вырашэньне якіх вымагае і цярплівасьці і нават цярпеньняў. Могуць узьнікнуць непаразуменьні і аб'ектыўныя і наўмысна накінутыя, каб у ліхую змусту ўвесьці. Пустая марнасьць, а, бачыце, і яно час рабуе.*

*Прашу Вас, спадару Рэдактару, супакоіць добрых беларускіх хрысьціянаў усіх канфесій што да маёй вытрываласьці і намеру давесьці справу да канца, колькі б часу гэта ні забрала. І ня верце нядобрым намовам, адкуль бы яны ні зыходзілі.*

*З добрай ласкі спадара Рэдактара дужа ахвочуся перадаць усім вернікам маё прывітаньне, падзяку за шчыры клопат і даспадобную сэрцу майму ўстурбаванасьць.*

*І асобным абзацам — прывітаньне і падзяка беларускім евангельскім хрысьціянам ды спадару Юрку Рапэцкаму*[387]*,*

[387] **Юры Рапэцкі** (нар. 1944), пратэстанцкі святар, грамадскі дзеяч. Святар евангельскай царквы хрысціянаў-баптыстаў у Таронта, рэдактар

*Дырэктару Славянскай Хрысьціянскай Місіі ў Канадзе, гэта бо, кажуць, недзе там ад Амэрыкі недалёка, як ад Менску да Жлобіна і назад.*

*І ад'яда сэрца майго Алеся кланяецца Вам асабіста.*

*Шчыра Ваш*

*Васіль Сёмуха.*

* * *

*10.12.1990*

*Шаноўны рэдактар!*

*Пішу гэты ліст да Вас па жаданню блізка знаёмага мне чалавека Кісілевіча Алексея Алексеевіча, жыхара вёскі Обеч Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. Справа ў тым, што ён хоча даведацца пра цяперашняе месцажыхарства свайго старшага брата, калі яшчэ жывы, Кісілевіча Антона Алексеевіча, які эміграваў у ЗША дзесьці незадоўга да І сусветнай вайны. Не ведаю, ці існуе большая верагоднасць паспяховага пошуку, калі Вы памесціце аб'яву ў сваім тыгодніку*[388]*, ці калі дасць згоду заняцца справай пошуку таварыства «Беларуска-амерыканскае задзіночанне», што ў Нью Ёрку, дакладнае знаходжанне якога мне невядома. Паводле слоў майго знаёмага, яго брат меў жонку, месца нараджэння якой быў г. Вільна. Захаваўся здымак, на якім сям'я прысутнічае ў няпоўным складзе (акрамя галавы сям'і адсутнічае яшчэ адна дачка): маці, сын Аляксей 1931 року нараджэння ва ўзросце аднаго року, дачка Марыя ў трохгадовым узросце, дачка Вера прыкладна 6-7 гадоў. Фотаздымак у тэрміне 1931–1932. (Уладальнік фотаатэлье: Maciolek. 603 Atlantic st. Stamford, Comm.) Галава сям'і, зноў жа паводле слоў знаёмага, быў уладальнікам жылога будынку ў Нью Ёрку (відавочна дзесьці ў прыгарадзе), які або частку якога здаваў жыльцам.*

---

беларускамоўнай перадачы «Добрая вестка» на Сусветным Радыё ў Монтэ-Карла, аўтар кнігі «Новае жыццё ў Хрысце» (1995).

[388] Газета «Беларус» выходзіла штомесяц.

*Тутэйшы Кісілевіч удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне 1944–1945 гадах і меў мэту, не вяртаючыся дадому, паехаць да свайго брата. Але на шляхах вайны не змог зберагчы прыгатаваныя і патрэбныя паперы для ўезда ў ЗША. Жыццё яго склалася так, што ён цяпер жыве адзін, мае восемдзесят гадоў і нікога з блізкіх. Спадарожнікамі ў такім узросце звычайна бываюць хваробы, да таго ж яшчэ ў апошнія часы ён стаў дрэнна бачыць. Становішча пагаршае яшчэ і апазыцыйны настрой, у выніку чаго мясцовыя ўлады адносяцца непрыхільна. Галоўнай рысай яго характару з'яўляецца амаль поўная адсутнасць канфармізму, без чаго ў нашых умовах жыць нельга, хіба што толькі выжыць. Апошнія гады забяспечваю яго палівам (дровамі), бліжэйшыя суседзі калі не штодзень, то праз дзень прыносяць што-небудзь неабходнае з харчавання. Але гэтага мала. Адзін позірк на ўнутранае ўбранне жылля прыводзіць у роспач. У апошні час клапаціліся аб павялічэнні пенсіі, з якой можна было б выплачваць асобе, даўшай згоду даглядаць.*

*Выказаўшы пажаданне атрымаць вестку ад блізкага чалавека, ён не мае на ўвазе прасіць аб чым-небудзь. Гэта, як гаворыцца, не ў яго натуры. У канцы жыццёвага шляху яму проста цікава даведацца, як склаўся далей лёс блізкага яму чалавека, абмен лістамі з якім быў абарваны 1 верасня 1939 року. Можа хто з таварыства «Задзіночанне» з'яўляецца таксама вэтэранам вайны, удзельнікам «сустрэчы на Эльбе»*[389] *(а Кісілевіч быў удзельнікам гэтай сустрэчы), дасць згоду напісаць яму ліст, то такое пажаданне можна толькі прывітаць. Пры наяўнасці якой-небудзь весткі просьба напісаць на мой або яго адрас [...]. Але ў апошнім выпадку існуе менш надзеі, што ліст трапіць да яго ў рукі.*

*З павагай*

*С. Казловіч.*

---

[389] **«Сустрэча на Эльбе»** — сустрэча жаўнераў савецкай і амерыканскай армій каля мястэчка Торгаў на рацэ Эльба 25 красавіка 1945 г., што правяло да падзелу нямецкіх войскаў на паўночную і паўднёвую часткі.

* * *

*11.03.91.*

*Дарагія сябры Беларусы!*

*Мір і шчырая падзяка Вам з далёкай Радзімы ад Вашага прыхільніка й чытача, таго, хто па радыёпрыймальніку й з прэсы пільна сочыць за Вашым удзелам у нашу бяду — Філанюка (Пазьняка) Міхаіла Аляксеевіча.*

*Дарагія Суродзічы за мяжой!*

*Я вымушаны ад самых простых «прадстаўнікоў» Піншчыны, бо жыву тут ужо 33 гады ад таго, як нарадзіўся, сказаць Вам словы ўдзячнасці й прывітання за тую заботу й любоў, якая прылятае ад Вас з-за мяжы да нашых сэрцаў.*

*Няма іншых сродкаў, каб гэта зрабіць, ажыццявіць па-іншаму... Але я духоўным позіркам бачу Ваша сэрца й Вашы твары й Вашы рукі, якія імкнуцца да нас — у бяду. Няхай Вам адбудзецца падзяка ад Бога Бацькі. Бо толькі так, з слязьмі, і магчыма сказаць.*

*Маё прозвішча па-бацьку — Пазьняк. Па-матцы Філанюк, але й гэта па ейнай замужняй долі. А па дзявочай Кахнюк. Я застаўся сірата з 1981 р. Жыву сам ужо дзесяць гадоў. Нікога ў мяне няма: ні брата, ні сястры. Толькі цётка — матчына сястра па матцы. Ёй 70 гадоў. Гэта тлумачыцца тым, што амаль адразу пасля шлюбу ў 1949 годзе матчын муж Філанюк Адам загінуў у берыяўскіх «шпіталях».*

*Пражыўшы з свякроўю, як Руф з Ноемінню*[390]*, у 1957 годзе мая матуля вырашыла, каб не застацца самой, каб быў сэнс у жыцці, даць жыццё мне. Мой бацька Аляксей Данілавіч Пазьняк быў, кажуць, аграномам. У дзяцінстве мяне клікалі «Пазьнячок». У вёсцы больш нікога з гэткім прозьвішчам ня было, і я бывала засумую.*

*Калі падрос, стаў «Пазьняком». А па мэтрыках Філанюк. Сумаваў таксама. Калі памерлі бабка й матка, я з той пары сваё жыццё звязаў з Ахвярай за ўсе грахі — Хрыстом. Стаў*

---

[390] Біблійная праведніца Руф, імем якой названа Кніга Руфі, пасля смерці свайго мужа жыла з свякроўю Ноэміньё (Наомі).

*Хрысціянінам. У 1981 годзе, у 24 гады. Рабіў тады ў школе — апынуўся на вуліцы. Стаў непатрэбны з-за веры. Блукаў па свеце, шукаў сродкі ў Латвіі, строіў і штукатурыў, у Пскове, за Масквой.*

*Потым у 1987 годзе ўлада адабрала ў мяне хату матчыну. Таму што яна была запісана на дзядулю 91 летняга як Гаспадара. Ён памёр пасля смерці маці цераз 1 месяц. А завет-завяшчанне хаты мне не пакінуў, бо ўміраў ад слёз і бяды. А я ніяк ня мог уладзе даказаць, што я ягоны ўнук. Паўсталі людзі, і я застаўся ў хаце.*

*Пачуў пра Вас. І пра Зянона Пазьняка. Сэрца ня так засумавала. Стаў слухаць Родную мову з далёкага Свету.*

*Што цяпер у нас робіцца, нельга намаляваць нават: кожны дзень узмацняюцца «ветры». У мяне вясковая прапіска і нельга знайсці работу ў Пінску. Не бяруць. Ідзе скарачэнне штатаў. Я ўжо паўтары гады без работы. У Латвіі — амаль вайна. З Беларусі падаюцца за мяжу. Радыяцыя. У мяне на вуглу хаты, там, дзе капае дождж, сказалі 44 мікрарангены. Але я сумняваюся. Думаю, што больш. Людзі жаўцеюць.*

*Я ніколі ня быў жанаты. Жыву, як Апостал Паўло. Ня маю магчымасці мець дзяцей. Ня ўпэўнены, што яны родзяцца здаровымі. А хацелася-б аставіць нашчадка. Успамінаю маці. Ці можаце мяне паклікаць у Амэрыку?*

*Пасылаю свой ліст цераз Польшчу знаёмых людзей, якія едуць туды. Баюсь, што ня дойдзе да Вас. У нас губляюцца лісты.*

*З надзеяй і шчырай падзякай*

*Міша.*

* * *

*Міністэрства Культуры Беларускай ССР*
*18.10.1991 г.*

*Вельміпаважаны Сп. Запруднік!*

*Вялікі Вам дзякуй за ліст і за тое, што Вы так зацікаўлена сочыце за дзейнасцю Міністэрства ў галіне культуры. Што датычыцца пытання аб вяртанні нацыянальнай музычнай спадчыны на Радзіму, дык сёння яно вельмі актуальнае. Сучасная беларуская інтэлігенцыя сапраўды не ведае шматлікіх цікавых твораў кампазітараў-эмігрантаў, у тым ліку і операў Міколы Куліковіча*[391].

*Але ж праца ў гэтым накірунку ўжо вядзецца. Вучонымі Рэспублікі ствараюцца зараз цікавыя зборнікі артыкулаў, прысвечаныя дзейнасці беларускай эміграцыі за мяжой.*

*У наступным годзе плануецца камандыроўка нашага музычнага рэдактара Э. А. Алейнікавай*[392] *у Лондан з мэтай вяртання музычнай спадчыны кампазітараў-беларусаў на іх Радзіму. Мы спадзяемся, што ў гэтай дзейнасці атрымаем падтрымку з боку шаноўнага Сп. Пікарда і нашы сумесныя намаганні ў выніку будуць спрыяць вяртанню ўсім беларусам нацыянальнай годнасці і свядомасці, што так неабходна сёння ўсім нам у гэтакі цяжкі, складаны час.*

*З вялікай пашанай,*

*Міністр Я. К. Вайтовіч*[393].

---

[391] **Мікола Куліковіч-Шчаглоў** (1893–1969), кампазітар, музыка, музыказнаўца, грамадска-культурны дзеяч. Ад 1950-х гг. жыў у ЗША.

[392] **Эльвіра Алейнікава** (нар. 1956), мастацтвазнаўца, педагог, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт кафедры гісторыі музыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

[393] **Яўген Вайтовіч** (нар. 1937), палітык і дыпламат, кандыдат эканамічных навук. У 1975–1983 гг. быў дырэктарам «Беларусьфільма». У 1990–1993 гг. — міністр культуры Беларусі.

* * *

*«Нёман»*

*10 студзеня 1992 г.*

*Шаноўны спадар Янка Запруднік!*

*Спадзяюся, што Вы памятаеце нашу сустрэчу на Кангрэсе беларусістаў*[394] *і дамоўленасць пра матэрыял аб беларускім самаўсведамленні, ці больш справядліва — самаўсведамленні беларуса, пра лёс і ўсведамленне эмігранта ці беларуса па-за межамі яго этнічнай радзімы.*

*Ведаючы ад Таццяны Антонавай*[395] *у газэце «Голас Радзімы», што Вы зараз цалкам прысвячаеце сябе даследчыцкай і пісьменніцкай працы, згадваю, што і ў Менску Вы мелі на ўвазе зрабіць для нас артыкул, эсэ? — у жанры, які Вам прыдасца, адным словам, вось якраз паслякалядным часам. То будзем вельмі чакаць.*

*Рабіце, якая Вам будуць патрэбныя, гістарычныя экскурсы (паводле гісторыі БНР, Дзяржаўнай Думы), размысліце пра тое, што Вам будзе да душы.*

*Неяк у спеху і мітусні тады ў Менску не было нават магчымасці падзякаваць Вам асабіста і Вашаму «Беларусу» за тое, што перадрукавалі наш «круглы стол» «Нефармалы — хто вы?». Увогуле, наш часопіс, хаця і рускамоўны, імкнецца як мага больш прысвячаць матэрыялаў гісторыі Беларусі і Беларушчыне. У нас ёсць раздзел «Гісторыя, культура, нацыя». Там друкаваліся і артыкул Ігната Абдзіраловіча (Ігната Канчэўскага)*[396] *«Адвечным шляхам», і допіс М. Доўнар-Запольскага*[397] *пра беларускую дзяржаўнасць, і ў № 1 за 1992 год будзе змешчаны*

---

[394] Маецца на ўвазе Першы кангрэс беларусістаў, што праходзіў у Мінску 25–27 траўня 1991 г.

[395] **Таццяна Антонава** — журналістка, у той час супрацоўніца газеты «Голас Радзімы», аўтарка кнігі «У землякоў за акіянам» (Мінск, 1992).

[396] **Ігнат Канчэўскі** (псеўд. Абдзіраловіч, 1896–1923), філосаф, паэт, публіцыст, аўтар вядомага эсэ «Адвечным шляхам».

[397] **Мітрафан Доўнар-Запольскі** (1867–1934), гісторык, этнограф, фальклярыст і літаратуразнаўца. Быў чальцом камісіі БНР па арганізацыі Беларускага ўніверсітэта.

*праграмны артыкул Уладзіміра Самойлы[398] (пад псеўданімам Суліма) «Гэтым пераможаш» — «Сим победиши». Досыць выразна лінія часопіса, прынамсі, нашага аддзела, крытыкі і мастацтва, выявілася ў «круглым стале» «И еще тысячу лет», які вёў Зянон Пазняк (пра лёс нашай архітэктурнай спадчыны, і ў анкеце «Еще раз о равенстве равных» (пра міжнацыянальныя адносіны і месца беларуса ў свеце). Упершыню ў нашым часопісе і па «стратэгічным» плане часопіса з'явіліся артыкулы пра Вацлава Ластоўскага[399], Антона Луцкевіча[400], Язэпа Лёсіка[401]. Зараз рыхтуем матэрыял Юрыя (Ежы) Туронка[402] пра Вацлава Іваноўскага[403] і яго спадчыннікаў. А ў № 10 1991 года мы змясцілі ўрывак з ягонай (Туронкавай) кнігі «Беларусь пад акупацыяй нямецкай»[404] (раздзел пра Кубэ). З артыкуламі ў нас выступалі дзеячы сённешняга беларускага Адраджэння: Уладзімір Конан[405], Рыгор Барадулін[406], Уладзімір Калеснік[407],*

---

[398] **Самойла Уладзімір** (1878–1941), публіцыст, літаратурны крытык, філосаф. Адзін з першых, хто ацаніў і падтрымаў Янку Купалу. У 1930-я гг. працаваў бібліятэкарам Беларускага музея імя І. Луцкевіча.

[399] **Вацлаў Ластоўскі** (1883–1938), грамадскі дзеяч, празаік, паэт, этнограф, мовазнаўца, мемуарыст.

[400] **Антон Луцкевіч** (1884–1942), палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст, літаратурны крытык, гісторык, выдавец.

[401] **Язэп Лёсік** (1883–1940) — мовазнаўца, палітык, педагог.

[402] **Юры Туронак** (нар. 1929), гісторык, доктар гістарычных навук. Жыве ў Польшчы. Даследчык гісторыі Беларусі, аўтар кніг «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», «Людзі СБМ» і інш.

[403] **Вацлаў Іваноўскі** (1880–1943), палітычны і грамадскі дзеяч, удзельнік ўрада БНР у 1918 г. У часе Другой сусветнай вайны быў бургамістрам Мінска, старшынёй Беларускай рады даверу і інш.

[404] Маецца на ўвазе кніга: Туронак, Юры. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мінск, 1993. — 236 с.

[405] **Уладзімір Конан** (1934–2011), філосаф, гісторык, літаратуразнаўца, доктар філасофскіх навук. У 1990-я працаваў загадчыкам аддзела Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны. Даследаваў тэарэтычна-метадалагічныя праблемы філасофіі і культуралогіі, гісторыю эстэтычнай думкі, пытанні фальклырыстыкі і літаратуразнаўства Беларусі.

[406] **Рыгор Барадулін** (1935–2014), паэт, эсэіст, перакладчык. Апошнім на сёння атрымаў званне народнага паэта Беларусі.

[407] **Уладзімір Калеснік** (1922–1994), літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук, прафесар. Ад 1956 г. працаваў загадчыкам кафедры беларускай мовы і літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута.

*Аляксей Каўка, шмат хто з маладзейшых: Уладзімер Арлоў, Сяргей Дубавец*[408]*, Вінцук Вячорка*[409]*, Алесь Бяляцкі*[410] *і інш.*

*З № 2 1992 года распачынаем рубрыку «Куды не трапяць беларусы…» — пра беларускую эміграцыю і пра беларусаў па-за межамі іх этнічнай радзімы.*

*Пачынаючы з Новага года, будзем дасылаць Вам усе нумары нашага часопіса — ёсць ужо дамоўленасць з начальствам.*

*Існаванне нашае эканамічнае, калі распавесці гаворку пра публікацыі суайчыннікаў, досыць незайздроснае. Валюты ў нас няма. Але Вы гэта ведаеце і, здаецца, былі згодныя на нейкі кампраміс.*

*Дарэчы, на якіх умовах перадрукоўвалі Вашы матэрыялы ў нас, напрыклад, «ЛіМ»? Як увогуле нам паразумецца з беларусамі свету, калі мы збіраемся нешта перакладаць, перадрукоўваць?*

*Будзем вельмі ўдзячныя за якую параду.*

*З павагай рэдактар (загадчык) аддзела мастацтва і крытыкі часопіса «Неман» Ала (Альбіна) Сямёнава*[411].

*П. С. Між іншым, зараз чытаю дасланы з Санкт-Пецярбургу «Амерыканскі дзённік» спадара Валянціна Грыцкевіча*[412] *— таксама дамаўляліся ў траўні на кангрэсе. Дык у гэтым дзённіку з*

---

408 **Сяргей Дубавец** (нар. 1959), журналіст, літаратар, крытык, выдавец. Рэдактар аддзела крытыкі часопіса «Нёман» (1987–1990), галоўны рэдактар газет «Наша Ніва» (1991–2000) і «Свабода» (2004–2008), радыё «Балтыйскія хвалі» (2000–2001), аўтар штотыднёвае перадачы «Вострая Брама» на Радыё «Свабода».

409 **Вінцук Вячорка** (нар. 1961), палітычны дзеяч, мовазнаўца. Адзін з заснавальнікаў Беларускага народнага фронту «Адраджэнне». У 1995–1999 гг. — намеснік старшыні БНФ, у 1999–2007 гг. — старшыня Партыі БНФ.

410 **Алесь Бяляцкі** (нар. 1962), грамадскі дзеяч, праваабаронца. У 1989–1998 гг. працаваў у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, у тым ліку і на пасадзе дырэктара. Ад 1997 г. — кіраўнік беларускага грамадскага праваабарончага цэнтра «Вясна».

411 **Ала (Альбіна) Сямёнава** (нар. 1938), пісьменніца. Ад 1987 г. працавала рэдактарам аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі часопіса «Нёман».

412 **Валянцін Грыцкевіч** (1933–2013), медык, гісторык, грамадскі дзеяч, кандыдат медыцынскіх навук, доктар культуралогіі. Адзін

*цікавасцю і прыемнасцю сустракаю на старонках Вас, спадара Вітаўта Кіпеля, спадарыню Зору Кіпель[413], іх дачку Алесю[414]. І рыхтую дзённік у друк.*

* * *

*Пісьмо-тэлеграма*

***З днём нараджэння Р. Рэйгана***

*Я вас віншую як роднага бацьку.*
*Не з юбілеем — з дзевятым дзясяткам.*
*Родным, сям'і, вам здароўя жадаю*
*І як прэзідэнта — не забываю.*
*Справядлівасць, свабода ўсім народам —*
*Вы паўтаралі доўгія годы.*
*Добрыя словы ў саюзе пачулі*
*І ў рэспубліках людзі прачнулісь.*
*Ідзе абнаўленне, перабудова.*
*Шкада, што да гэтага мы не гатовы.*
*Прабачце, мой сябра, за доўгія словы!*
*Настрою вам добрага і жыцця год доўгіх!*
*На конях катайцеся, дровы каліце,*
*У моры купайцеся, бадзёрым жывіце.*
*Не магу нагадаць вам пра чорную дату,*
*Калі у вас стрэліў паганец пракляты.*
*Куля прабіла гарачае цела*
*І ў сантыметры ля сэрца засела.*
*Днём памяці час той цяпер называеце,*

з заснавальнікаў і доўгагадовы старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу.

[413] **Зора Кіпель** (дзяв. Савёнак, 1927–2003), грамадская дзеячка, бібліёграф, літаратуразнаўца, жонка Вітаўта Кіпеля.

[414] **Алеся Кіпель** (нар. 1957), адвакат, грамадская дзеячка, дачка Вітаўта і Зоры Кіпеляў. Скончыла Прынстанскі ўніверсітэт у галіне гісторыі і Джорджтаўнскі ўніверсітэт у галіне права. У 1983 г. была прынятая ў адвакацкую калегію ў Вашынґтоне. Была партнёрам у вялікай адвакацкай фірме *«Steptoe & Johnson»*. Цяпер на дзяржаўнай службе. Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання, заснавальніца і старшыня яго Вашынгтонскага аддзела.

*Дзесяты ўжо год у сям'і адзначаеце.*
*Кнігу пра ваша жыццё напісалі.*
*І, як заўсёды, шмат прыбрахалі.*
*Хоць злосныя словы страшней пісталета,*
*Прашу, не звяртайце увагі на гэта.*
*Мала такіх тэлеграм у вас будзе.*
*Рэдка іх пішуць простыя людзі.*

*Шапялевіч Анатоль Пятровіч,*
*рабочы, гор. Рагачоў.*
*23 студзеня 1992 г.*

* * *

*24.5.92.*

*Шаноўны калега!*

*Шаноўная Лідзія Савік*[415] *своечасова перадала мне Ваша ласкавае пасланне. Па розных прычынах — так ужо здарылася — адпісваю толькі цяпер.*

*Прысланыя Вамі матэрыялы, вядома ж, мяне зацікавілі. Якраз цяпер Інстытут літаратуры, дзе я працую, даручыў мне падрыхтаваць збор твораў Каліноўскага. Даць усё, што дайшло-захавалася, без якіх-небудзь выключэнняў і скарачэнняў. Гэтая нялёгкая справа патрабуе дадатковых даследаванняў, роздуму. Ваша выданне*[416]*, з якім быў знаёмы і раней, будзе для мяне ў гэтым плане карыснае.*

*На будучае хацеў бы атрымаць «Сказ пра Лысую Гару» (пра выхад вычытаў у канцы брашуры Адамовіча*[417]*). А ці не было замежнага выдання «Тараса на Парнасе»?*

---

[415] **Лідзія Савік** (нар. 1936), пісьменніца, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Даследчыца эміграцыйнай літаратуры.

[416] Паўстаньне на Беларусі 1863 году: «Мужыцкая праўда» і лісты «з-пад шыбеніцы»: тэксты і камэнтары Я. Запруднік і Т. Бэрд. Нью Ёрк: Фундацыя Крэчэўскага, 1980.

[417] Відаць, маецца на ўвазе брашура: Адамовіч, Антон. «Як дух змаганьня Беларусі» : (Да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча). Нью Ёрк: Выдавецтва газэты «Беларус», 1983. — 28 с.

*Са свайго боку на першы выпадак пасылаю крыніцазнаўчую штудыю пра Дуніна-Марцінкевіча*[418]*, брашуру пра паўстанне 1863 года на Міншчыне*[419] *і адбітак артыкула пра Каліноўскага.*

*Далучаю найлепшыя зычэнні.*

*З прабачэннямі за марудлівасць.*

*Генадзь Кісялёў*[420].

* * *

*Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

*17 июля 1992 г.*

*Шаноўны спадар Янка Запруднік!*

*Шчыра дзякую за дасланыя Вамі плакаты, прысвечаныя слаўнаму песняру беларускага народа Максіму Багдановічу з нагоды 100-годдзя яго нараджэння.*

*Мяне радуе, што Вы прыкладаеце шмат намаганняў па адраджэнню нашае нацыянальнай культуры, уносіце асабісты ўклад у гэтую вялікую і высакародную справу.*

*Буду рады сустрэцца з Вамі падчас Вашае паездкі ў Мінск, куды Вы збіраецеся на канферэнцыю, прысвечаную адраджэнню беларускай нацыянальнай свядомасці, альбо маёй замежнай камандзіроўкі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, куды я таксама спадзяюся прыехаць.*

*Жадаю плённых поспехаў у Вашых нястомных пошуках, моцнага здароўя! З дабразычлівасцю.*

*Станіслаў Шушкевіч.*

---

[418] **Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч** (1808–1884), драматург, паэт, заснавальнік беларускай драматургіі, тэатра. Тут маецца на ўвазе кніга: Кісялёў, Генадзь. Спасцігаючы Дуніна-Марцынкевіча: Спроба навуковай сістэматызацыі дакументаў і матэрыялаў. Мінск: Універсітэцкае, 1988. — 160 с.

[419] Маецца на ўвазе выданне: Кісялёў, Генадзь На пераломе дзвюх эпох: Паўстанне 1863 года на Міншчыне. Мінск: Полымя, 1990. — 35 с.

[420] **Генадзь Кісялёў** (1931–2008), літаратуразнаўца, архівіст, пісьменнік, кандыдат гістарычных навук, доктар філалагічных навук. Ад 1971 г. працаваў навуковым супрацоўнікам у Інстытуце літаратуры АН БССР.

* * *

*22 красавіка 1993 году.*

*Паважаны спадар Янка Запруднік!*

*Да Вас звяртаецца супрацоўнік аддзела крытыкі часопіса «Нёман» Сяргей Запрудскі*[421]*.*

*У траўні мінулага году праз Яўгена Лецку*[422] *я накіраваў ліст Вітаўту Кіпелю, у якім прасіў даслаць мне ўкладзеную Зорай Кіпель бібліяграфію прац Антона Адамовіча*[423]*. У тым жа лісце я прасіў дазволу на публікацыю ў нашым выданні фрагментаў з кнігі «Opposition to Sovietization in Belorussian literature»*[424]*.*

*У жніўні мінулага году я вельмі сціссла пагутарыў з Вамі ў Маладэчне, але паўстрымаўся ад размоў наконт магчымай публікацыі Адамовіча ў «Нёмане».*

*Тым часам ужо дайшло да здачы артыкула ў друк, а я ведаю толькі (паводле слоў загадчыцы аддзела Альбіны Сямёнавай), што Вітаўт Кіпель і Вы «неафіцыйна» дазволілі нам публікаваць сёе-тое з эмігранцкай літаратуры — што мы й рабілі. Звяртаюся да Вас з наступнай просьбай.*

*Прашу Вас дазволіць друкаванне ў часопісе «Нёман» III-IV раздзелаў працы Адамовіча «Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне "Ўзвышша"»*[425]*. (Пераклад з беларускай мовы,*

---

[421] **Сяргей Запрудскі** (нар. 1957), мовазнаўца, кандыдат філалагічных навук. У 1986–1990 гг. працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН БССР. Сёння — на кафедры беларускай мовы БДУ.

[422] **Яўген Лецка** (нар. 1944), пісьменнік, крытык, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Ад 1971 г. працаваў у Інстытуце літаратуры АН Беларусі, ад 1986 г. — у выдавецтве «Мастацкая літаратура», ад 1997 г. — дырэктар выдавецтва «Бацькаўшчына». У 1989–1990 гг. быў старшынёй Аргкамітэта, а ў 1990–1993 гг. — старшынёй Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

[423] Да юбілею Антона Адамовіча ў 1989 г. Зора Кіпель зрабіла яму ў якасці падарунка ягоную бібліяграфію, якая нідзе потым не публікавалася да часу выдання кнігі: Адамовіч, Антон. Творы. Нью Ёрк: БІНіМ, 2003 (тут ранейшая бібліяграфія была дапоўненая Лявонам Юрэвічам).

[424] Маецца на ўвазе кніга: Adamovich, Anthony. Opposition to sovietization in Belorussian literarure (1917–1957). New York: Scarecrow Press, 1958. — 204 p.

[425] Маецца на ўвазе праца: Адамовіч, Антон. Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаваньне «Узвышша» // Беларускі зборнік. Кн. 8. Мюнхен,

*каментары і пасляслоўе выкананы мною.) Вельмі спадзяюся на станоўчы адказ. У 1980 годзе на паседжанні, прысвечаным 70-годдзю Антона Адамовіча, тагачасны старшыня БІНІМа Вітаўт Тумаш зазначыў, што «ўплыў працаў Адамовіча адчуваецца сяньня й на Бацькаўшчыне» («Беларус», № 273, 1980). Я бачу тут пэўнае перабольшанне. На жаль, спадчына Вашага настаўніка на Радзіме вядома мала, і, мяркую, да гэтага міжволі спрычыніўся Арнольд Макмілін, які ў сваёй «Гісторыі...»*[426] *не адзначыў Адамовічаў «Opposition...». Да апошняга часу беларускія літаратуразнаўцы (напрыклад, Мушынскі*[427]*) лічылі, што кніга Макміліна — адзіная пра беларускую літаратуру на ангельскай мове.*

*Публікацыя працы Адамовіча плануецца ў 7-м нумары часопіса. У гэтым жа нумары будзе надрукаваны і Ваш даклад, які прагучаў на канферэнцыі ў Маладэчне.*

*Спадзяюся на Ваша спрыянне.*

*З павагай да Вас і з пажаданнем плёну ў працы*

*Сяргей Запрудскі.*

* * *

*7 снежня 1993 г.*

*Мір Вам, міласць Алаха і яго благаславенне, вельмі паважаны наш сябар і брат!*

*Дарагі доктар Ян Запруднік!*

*Дасылаю Вам чарговы нумар нашага «Байрама»*[428]*, які дзякуючы вашай падтрымцы і падтрымцы нашых сяброў працягвае выходзіць у такую складаную і цяжкую пару. Вельмі няпроста*

---

1957. С. 5–52. Тэкст, пра які згадваецца ў лісце, быў передрукаваны ў часопісе «Нёман» (1993. № 7. С. 144–148)

[426] Маецца на ўвазе кніга: McMillin, Arnold. Die Literatur der Weissrussen = A history of byelorussian literature : from its origins to the present day. Giessen : Wilhelm Schmitz Verlag, 1977. — 447 p.

[427] **Міхась Мушынскі** (нар. 1931), крытык, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук. Ад 1956 г. працаваў у Інстытуце літаратуры АН БССР.

[428] **«Байрам»** — беларускамоўны квартальнік, што выдаваўся ў Мінску Беларускім згуртаваннем татар-мусульман «Аль-Кітаб» у 1991–2002 гг.

*перарабляць тое, што было наламана і знішчана ў мінуўшыя гады. Праўду кажуць: «Што адзін дурань зробіць, сто разумных не пераробіць». Але рабіць трэба. У гэтым мы бачым сэнс стварэння і дзейнасці Беларускага Згуртавання татар-мусульман «Аль-Кітаб»*[429]*. Рыхтуючыся да вялікай даты — 600 годдзя пасялення татараў на землях Беларуска-Літоўскай дзяржавы, якая імша ала будзе адзначацца ў 1997 годзе. За гэты час плануем адбудаваць нашыя мячэці, стварыць музей у Менску, правесці шэраг навуковых і практычных канферэнцый. У канцы, а мо ў сярэдзіне (пакуль што ня ведаем) думаем правесці канферэнцыю разам з іншымі культурна-асветніцкімі Згуртаваннямі па тэме «Народы Беларусі: гісторыя, традыцыі, культура», міжканфесійныя дыялогі і г. д. Запрашаем Вас да ўдзелу. Спадзяюся, што Вы прыміце таксама ўдзел у напісанні шэрагу артыкулаў для энцыклапедычнага даведніка «Татары Беларусі, Літвы, Польшчы», які мяркуем падрыхтаваць да 1997 года (рэестр артыкулаў мы давалі ў мінулым і ў наступных нумарах «Байрама»). З вялікай цікавасцю чытаем вашую газету «Беларус», якую, хвала Ўсявышняму, сёння можна набыць (праўда, у ксеракопіі) у кіёску ТБМ на праспекце Скарыны. Зычым Вам добрага здароўя, плёну ў працы і спадзяемся часта бачыць Вас у нас, у Менску.*

*Моцна цісну вашыя працавітыя рукі.*

*Шчыра Ваш*

*Ібрагім Канапацкі*[430].

[429] **Беларускае згуртаванне татар-мусульман «Аль-Кітаб»** — грамадская арганізацыя, заснаваная на з’ездзе ў Іўі ў 1991 г. дзеля вывучэння і адраджэння культуры беларускіх татараў. Ад 2001 г. функцыянуе як Беларускае грамадскае аб’яднанне татараў «Зікр уль-Кітаб».

[430] **Ібрагім Канапацкі** (1949–2005), грамадска-культурны і рэлігійны дзеяч, гісторык, адзін з лідараў татарскага адраджэння ў Беларусі.

* * *

*6.03.1995 г.*

*«Беларускі Гістарычны Часопіс».*

*Праўленню Беларускага Фонду Крычэўскага ў ЗША.*

*Паважанае спадарства!*

*З студзеня 1993 г., пасля шматгадовых пакутлівых намаганняў гісторыкаў і ўсёй свядомай беларускай грамадскасці, пачаў выходзіць першы ў Рэспубліцы Беларусь навуковы гістарычны часопіс, разлічаны як на навукоўцаў, так і на выкладчыкаў і настаўнікаў гісторыі вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і школ,а таксама студэнтаў і навучэнцаў. Заснавальнікамі яго з'яўляюцца Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, Інстытут гісторыі АН Беларусі, Беларускі дзяржаўны ўніверсытэт, таварыства «Веды»*[431] *Рэспублікі Беларусь.*

*У 1993–1994 гг., дзякуючы падтрымцы яго заснавальнікаў, а таксама ўдзеле ў працы нашага часопіса вучоных рэспублікі і творча думаючых настаўнікаў, часопіс стаў на ногі і атрымаў прызнанне з боку чытачоў. Наклад яго заўсёды быў і зараз ёсць звыш 6000 паасобнікаў. Нягледзячы на тое, што заснавальнікамі часопіса з'яўляюцца афіцыйныя дзяржаўныя структуры, рэдакцыя часопіса даволі самастойна ў сваіх поглядах і імкнецца праўдзіва адлюстроўваць гістарычнае мінулае, друкаваць перш за ўсё тыя матэрыялы, якія служаць адраджэнню нацыянальнай свядомасці беларусаў. Так, на старонках нашага часопіса ўпершыню на Беларусі надрукаваны поўны газетны варыянт стэнаграмы Ўсебеларускага з'езда 1917 г. (№№ 1–4 за 1993 г.). Мы адзіны часопіс, які поўнасцю надрукаваў рэзалюцыі першага з'езду беларусаў свету. На навуковы ўзровень узняты праблемы эміграцыі беларусаў і жыццё беларускай дыяспары за мяжой, праблемы заснавання і развіцця Вялікага Княства Літоўскага,*

---

[431] Маецца на ўвазе **грамадскае аб'яднанне «Беларускае таварыства "Веды"»**, якое ад 1947 г. існавала як рэспубліканскае аддзяленне агульнасаюзнага таварыства па распаўсюдзе палітычных і навуковых ведаў. Ад 1963 г. атрымала назву «Веды».

*гісторыя беларускіх княстваў, адносіны з памежнымі дзяржавамі і многія іншыя.*

*Аднак у 1994 г. фінансаванне ўсіх газет і часопісаў было перададзена ў Міністэрства культуры і друку. Для нашага і другіх педадагічных выданняў на 1995 г. яно вызначана ў памеры 75 % ад неабходных затрат.*

*Паколькі мы не маем ні асабістага рахунку, ні адпаведных тэхнічных умоў, і асабліва ва ўмовах інфляцыі, калі грошы падпісчыкаў абясцэньваюцца, то склалася такая сітуацыя, калі мы апынуліся на мяжы закрыцця. Для нас, як і ўсіх беларусаў, сёння характэрна спадзяванне, што ўсё ж такі ўдасцца выйсці з крызісу, і справы палепшацца. Але сёння мы просім ад вас, перш за ўсё, маральнай падтрымкі беларускамоўных педагагічных выданняў.*

*У той жа час будзем вельмі ўдзячны, калі фонд знойдзе магчымасць падтрымаць наш часопіс на гэты год магчымай для Вас грашовай сумай, напрыклад, 2000 даляраў ЗША, без якой далейшае існаванне часопіса будзе пад пагрозай.*

*Па даручэнню рэдакцыйнай рады*

*галоўны рэдактар В. Кушнер*[432].

* * *

*Красавік 10, 1995.*

*Паважаны спадар!*

*Няма прарока ў сваёй Айчыне! Я пішу вершы, напісаў ужо больш за 700 (каля 6000 чатырохрадковых строф). Тэматыка — філасофская лірыка, усе 9 муз Апалона, асабліва часта мяне наведвае Эрата. Ужо працяглы час напісана навуковая паэма «Зямля і жыццё» (1780 чатырохрадковыя страфы), дзе даецца мая тэорыя утварэння Зямлі і жыцця на нашай планеце. Звяртаўся ў беларускія выданні, але... Ні адзін мой твор не надрукаваны.*

---

[432] **Васіль Кушнер** (нар. 1947), гісторык, кандыдат гістарычных навук. У 1993–2001 гг. быў галоўным рэдактарам «Беларускага гістарычнага часопіса».

*Шкада, калі прападзе для беларускай культуры цэлы культурны пласт. Я кандыдат тэхнічных навук, мне 59 гадоў. Пачаў пісаць вершы два з паловай гады таму назад. Я нават ні аб чым не прашу, а проста даць інфармацыю, што ёсць такі невадомы свету беларускі паэт у бліжэйшай дыяспары. Можа выпадкова знойдзецца спонсар, і мае творы пабачаць свет?*

*З пашанаю,*

*Анатолій Балуценка, Львоў.*

*Даруйце, што не надрукавана, у нас няма беларускамоўных друкарскіх машынак. Каб пазнаёміліся з маёй рукой, высылаю верш «Дарэмныя ахвяры».*

***Дарэмныя ахвяры***

*Ужо нас поў-стагоддзя аддзяляе*
*Ад светлых дзён, калі перамаглі.*
*Не жыў хто ў той час, не ўяўляе,*
*Як цяжка шлях вайны мы ўсе прайшлі.*
*Усе аддана з ворагам змагалісь,*
*Да перамогі не усе дайшлі.*
*Ўвесь час байцы са смерцю сустракалісь*
*І ў зямлю сырую палеглі.*
*Больш дваццаці мільёнаў смерць прынялі,*
*Мо марнымі утраты ўсе былі?*
*Калі перамаглі, дабра чакалі,*
*Але концлагер дома набылі.*
*Ляжаць даўно ў сырой зямлі салдаты,*
*За што змагалісь, як цяпер пазнаць?*
*Надзей даваў багата сорак пяты,*
*Падняць бы іх з магіл і запытаць.*
*За тое, што мы маем, аддавалі*
*Яны сваё бясцэннае жыццё.*
*Ці гэтага яны тады чакалі,*
*Калі навек пайшлі у небыццё?*
*Пазаду поў-стагоддзя. Перамога.*
*Але фанфар ў душы зусім няма.*

*Не дамаглісь мы ў барацьбе нічога.*
*Ахвяры былі нашы ўсе дарма.*

*Львоў, 18.03.95.*

* * *

*Шаноўныя спадарыні і спадары, супрацоўнікі газэты «Беларус»!*

*Са шчырым прывітаннем ад роднай Бацькаўшчыны звяртаецца да вас і да ўсіх беларусаў Амерыкі Алена Ксавер'еўна Шыдлоўская і яе сын Аляксандр.*

*Просім вас дапамгчы нам у пошуках сваякоў, якія эміўгравалі ў ЗША ў пачатку XX стагоддзя.*

*Тамаш Вікенцьевіч Шыдлоўскі нарадзіўся ў 1890 (прыблізна) у сям'і дробнага шляхціца Вікенція Шыдлоўскага ў Слуцкім раёне Мінскай вобласці. Маці яго звалася Разаля. Томаш быў на 2 гады старэйшы за свайго малодшага брата — Ксаверыя Вікенцьевіча — бацьку Алены Ксавер'еўны.*

*У ЗША Томаш Вікенцьевіч выехаў ва ўросце каля 16 гадоў, прыблізна ў 1907 годзе. Апынуўшыся ў ЗША, ён не забыўся пра сваіх бацькоў, трох сясцёр і брата, якія засталіся на Беларусі, у Слуцкім раёне. Адразу наладзіў перапіску са сваякамі, прыслаў сваё фота, копію якога да Вас дасылаем. Крыху пазней ён ажаніўся і стварыў сям'ю. Пісаў, што ўладкаваўся вельмі ўдала.*

*Мы атрымалі ад Томаша 2 фотакарткі, на якіх маюцца выявы яго жонкі і дзяцей. Дасылаем да Вас копію толькі адной з іх, дзе размешчаны дзеці Томаша Вікенцьевіча. Другая, на якой выглядае яго жонка з малодшым сынам, вельмі пацёрлася ад часу і не паддалася капіраванню. Але ж на адваротнай яе староне маюцца наступныя словы па-польску: Ja Jadviga Szydlowska posylam fotografie moja siostry i dwoch braci i matу.*

*Па-беларуску гэта будзе: «Я — Ядвіга Шыдлоўская, пасылаем фатаграфіі маёй сястры, двух братоў і мамы».*

*Шыдлоўскія на Беларусі былі каталікамі, добра ведалі польскую мову. Таму, відаць, няма нічога дзіўнага ў тым, што надпіс зроблены па-польску. Гэта гаворыць аб тым, што дзя-*

*цей сваіх Томаш Вікенцьевіч таксама выхоўваў каталікамі. Зроблены ж гэты надпіс, хутчэй за ўсё, старэйшай дачкой Томаша Вікенцьевіча Ядвігай, якая выглядае на фотакартцы ў цэнтры і трымае на руках малодшага браціка. Менавіта яна як старэйшая магла ўжо добра ведаць граматыку, і таму падпісала фотакартку за ўсіх дзяцей. Бацькам жа гэта было ўдвая прыемна.*

*Сувязь паміж Шыдлоўскімі ў Амэрыцы і на Беларусі падтрымлівалася шмат гадоў. Нават пасля таго, як памёрлі бацькі Томаша і Ксаверыя, а сам Ксаверый Вікенцьевіч ажаніўся і ў яго зьявіліся дзеці. Адрас Шыдлоўскіх у Амэрыцы, адкуль ішлі пісьмы, на жаль, цалкам не захаваўся. Аднак па ўспамінах маці Алены Ксавер'еўны на гэтым адрасе значылася слова «Ямайка»*[433].

*Сувязь падтрымлівалася нават у цяжкія даваенныя гады, калі існаваў сталінскі рэжым. Аднак у час вайны сям'я Ксаверыя Вікенцьевіча вымушаная была пераехаць у іншае месца са спаленай фашыстамі роднай вёскі Ніва Слуцкага раёну. Пасля вайны вярнуліся назад, але з той пары ўсе кантакты са сваякамі з Амэрыкі спыніліся. Пасля вайны сталінскі тэрор узмацніўся, і Шыдлоўскія баяліся перапісвацца са сваімі амэрыканскімі сваякамі пад пагрозай рэпрэсій. Тыя яшчэ пэўны час дасылалі лісты, але, не атрымаўшы адказу, відаць, вырашылі, што Ксаверый Вікенцьевіч і яго жонка з дзецьмі загінулі. У «хрушчоўскія» і «брэжнеўскія» часы сувязь з замежжам была таксама небяспечнай. А ў канцы 80-х гадоў здавалася, што кантакты наладзіць немагчыма, таму што ні 1 арганізацыя не бралася за гэта: ні Чырвоны Крыж, ні Інюркалегія, ні пасольства ў ЗША. І толькі калі мы даведаліся, што ў ЗША існуе «Беларус» — газета беларусаў у свабодным свеце, якая пачала выходзіць і на Беларусі*[434]*, то адразу вырашылі паспрабаваць пачаць пошукі з вашай дапамогай.*

---

433 ***Jamaica*** — назва раёна ў Queens, NY, дзе знаходзіцца Фундацыя імя П. Крэчэўскага і рэдакцыя газеты «Беларус».

434 У пачатку — сярэдзіне 1990-х гг. газета «Беларус» па дасланых з Нью-Ёрка файлах выдавалася ў Мінску друкаром Вацлавам Багдановічам.

*На думку аб гэтым нас падштурхнуў адрас вашай рэдакцыі, дзе таксама, як некалі і ў адрасе нашых сваякоў, значыцца слова «Ямайка».*

*Раней цяжка было зразумець сувязь паміж Ямайкай (востравам) і Злучанымі Штатамі Амерыкі, здавалася, што гэта нейкая памылка ва ўспамінах. Цяпер жа, калі высветлілася, што Ямайка — гэта раён Нью-Ёрка, усё становіцца на сваё месца. Відаць, Томаш Шыдлоўскі эміграваў у Нью-Ёрк, адкуль і ішлі пісьмы на Беларусь.*

*Хутчэй за ўсё Томаш Вікенцьевіч і яго жонка ўжо памёрлі. Але ж павінны застацца іх дзеці, што выглядаюць на фотакартцы, унукі. Дадамо, што Ксаверый Вікенцьевіч Шыдлоўскі памёр у 1958 г., а таксама памёрлі яго і Томаша сястры.*

*Спадзяёмся, што наша падрабязная пісьмо дасць вам значныя магчымасці ў пошуках дзяцей, унукаў ці іншых нашчадкаў і сваякоў Томаша Вікеньцевіча Шыдлоўскага, нашага дзядзі і дзядулі. Можа яны жывуць паблізу ад вашай рэдакцыі, у тым самым раёне Ямайка, дзе некалі жылі іх продкі. А можа ў ЗША ёсць і іншыя мясціны з назваю Ямайка. Тады пошукі, відаць, будуць больш цяжкімі. Але мы шчыра спадзяемся на вашу дапамогу і загадзя дзякуем. […]*

*Мы будзем чакаць лістоў ад вас і ад нашых сваякоў, калі іх удасца знайсці. Просім вас адказаць на наш ліст.*

*З вялікай прыязнасцю*

*Шыдлоўская Алена Ксавер'еўна і сям'я.*

* * *

*26.XII.1995 г.*

*Дарагі спадар Біл*[435]*!*

*Слухаючы радыё «Голас Амерыкі», я даведаўся, што Вам 46 гадоў і Вы самы багаты чалавек Амерыкі. Вырашыў накіраваць Вам сваё пісьмо-просьбу.*

*Я — беларус. Нарадзіўся 3 мая 1927 года ў вёсцы Рыдамля Талачынскага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і фельчара. У 1937*

---

[435] Ліст адрасаваны Білу Гейтсу.

*годзе бацьку расстралялі камуністы ў г. Орша як «ворага народа», усю нашу маёмасць канфіскавалі. Засталіся маці і трое дзяцей. Мне тады было 10 гадоў, я быў старэйшы ў сям'і. Вымушаны быў працаваць у калгасе, але плацілі вельмі мала, даводзілася галадаць. Як «сына ворага народа» мяне нават не хацелі браць у школу ФЗО*[436].

*У 1941 годзе прыйшлі немцы, раздалі сялянам зямлю. З'явіўся хлеб, жыць стала лягчэй.*

*Зімой 1943 года з Расіі нахлынулі партызаны і сталі забіраць у свае шэрагі нас, малалетніх. Гэтых партызан народ справядліва называў бандытамі. Мяне маці схавала ў родных. Летам гэтага ж года, прымушаючы яе прывесці мяне ў партызаны, узялі ў закладнікі маіх малодшых брата і сястру. Былі вымушаныя падпарадкавацца.*

*У красавіку 1944 года рускія-уласаўцы*[437] *начыста разбілі нашу партызанскую брыгаду. Я трапіў у палон. На трэці дзень уласаўцы прапанавалі ўсім нам уступіць у іхнюю армію. Нас, малалетніх, узялі ездавымі на фурманкі. У жніўні 1944 года, калі чырвонаармейцы сталі вызваляць Беларусь, я ўцёк ад немцаў, вярнуўся дамоў. А праз некаторы час за тое, што я трапіў у палон, а не застрэліўся, мяне арыштавалі чэкісты. Хацелі накіраваць у штрафны батальён. Выратаваў выпадак, і ў выніку мяне дабраахвотнікам паслалі на фронт.*

*Вайну закончыў у Бэрліне. Я, як і многія іншыя, быў, шчыра кажучы, дураком, ідучы ў бой з воклічамі «За Родину, за Сталина!». Усё гэта было, як аказалася потым, нашай памылкай, якая стала магчымай у выніку масіраванай апрацоўкі народа ілжывай бальшавіцкай прапагандай.*

*Служыў у арміі да 1951 года. Добрыя людзі, у прыватнасці, рускія афіцэры-саслужыўцы адкрылі мне ўсю праўду на камунізм. У нашай авіяэскадрылі было з дзесятак «сыноў ворагаў*

---

436 **Школы фабрычна-заводскага навучання** (рус. *ФЗО*) — асноўны тып прафесійна-тэхнічных школаў у СССР у 1940–1963 гг.

437 Маюцца на ўвазе ўдзельнікі Рускай вызвольнай арміі (рус. *РОА*) пад кіраўніцтвам Андрэя Уласава (1901–1946), што ваявала на баку Трэцяга рэйха.

*народа». Мы сталі змагацца супраць камуністаў. 17 снежня 1950 г., у дзень выбараў, я з армейскімі сябрамі вырабіў антысавецкія лістоўкі, раскідалі іх на выбарчым участку. Мяне арыштавалі, але сяброў ня выдаў, усю віну ўзяў на сябе. Мне прысудзілі 10 гадоў і яшчэ пяць — пазбаўлення ўсялякіх правоў.*

*У сталінскім ГУЛАГУ я сустрэўся з уласаўцамі, якія ў 1945 здаліся амерыканцам. Іх пераслалі ў Амерыку, а ў 1946 годзе выдалі Сталіну, як кажуць, на смерць.*

*Зараз я — старшыня Талачынскага раённай рады партыі БНФ. Беларускі Народны Фронт — гэта апазіцыя Прэзідэнту А. Р. Лукашэнку, нашаму ўраду, якія не прадухілілі забойства двух амерыканскіх спартсменаў.*

*У нас на Талачыншчыне ў гады сталінскага генацыду камуністы знішчылі больш за 300 чалавек, большасць з якіх пасмяротна рэабілітаваны. Сярод іх ёсць і такія, што былі высланы з Амерыкі ў 1946 годзе.*

*Мы вырашылі паставіць у Талачыне ахвярам сталінскіх рэпрэсій агульны помнік з указаннем усіх імён загінуўшых. Збіраем грошы, бо ні наш Прэзыдэнт, ні наш урад аб гэтым не турбуюцца. За год на нашым рахунку ў пераводзе на Вашу валюту толькі 300 долараў. Гэтага вельмі мала. А я хачу ўбачыць гэты помнік сваімі вачыма, каб тады спакойна памерці.*

*Я атрымліваю пенсію ў памеры 50 долараў у месяц, частку аддаю на помнік і на нашу партыю БНФ.*

*Дарагі спадар Біл! Калі ёсць у Вас такая магчымасць, калі ласка, ахвяруйце на святую справу. Пабагацеем — доўг аддадзім.*

*Хай дапаможа Вам Бог! Загадзя Вам удзячны. Шчыра віншуем з нараджэннем Хрыстовым і Новым 1996 годам. Шчасця Вам!*

*З нізкім паклонам*

*Анатоль Рылько.*



У брудным Брукліне ў Нью-Йорку,
Дзе доля горкая жыве,
Я чую наскую гаворку
І мову родную ў царкве.
У кожным гуку так дарэчы
Сярод глухіх чужых муроў
Лаўлю я ўсплеск палескіх рэчак
І гоман полацкіх бароў.
Ашчадна захавалі ўсё-ткі
Жывое слова землякі,
Браслаўскія сівыя цёткі,
Мажныя слуцкія дзядзькі.
Звязала мова ім
Набыткі
І сцежкі ўсе ў клубку гадоў,
Як тая суравая нітка,
Што лучыць з кроснамі дзядоў.
Ці не таму так лёгка
Сэрца,
Ледзь толькі памяць запалі,
На ласку Бога адгукнецца
І песню з матчынай зямлі?..
А я стаяў між малітоўцаў
І зразумець ніяк не мог,
Чаму па-нашаму ні слоўца
У Мінску не гаворыць Бог?..

Генадзь Бураўкін



*Янка ЗАПРУДНІК*

# МАЕ КАНТАКТЫ З РОДЗІЧАМІ Й СУРОДЗІЧАМІ[438]

## Існасьць кантактаў

На працягу ўсяго майго занаходжаньня на Захадзе цяга да кантактаў зь беларусамі «адтуль» мела тры стымулы: пэрсанальны, палітычны й прафэсійны.

*Стымул асабісты*

Я пакінуў Бацькаўшчыну 17-гадовым юнаком, калі быў вучнем гандлёвай школы ў Баранавічах. Выезд адбыўся ў самым канцы чэрвеня 1944 г. раптоўна й непрадбачана, без паразуменьня з бацькамі, якія жылі ў Міры за 50 кілямэтраў. Нас было чатырох мірскіх хлопцаў, што стаялі перад грузавіком, які ад'яжджаў у Мір. Двух ужо загрузіліся былі, а мы з Вадзімам Сурком[439] яшчэ ўсё ўзважвалі: ехаць ці ня ехаць? А ў гэты мамэнт праходзіць каля нас наша клясная настаўніца й выкладчыца беларускай мовы Аўгеньня Левановіч, зь якой мы падзяліліся сваім ваганьнем. А яна кажа: калі хочаце падацца на Захад, то можаце паехаць у Альбэртын і запісацца там у дабраахвотнікі паветранай абароны. Так мы з Вадзімам і зрабілі. У выніку такой самаволі ў дачыненьні да бацькоў мяне мучыла адчуваньне віны перад імі, увесь час карцела наладзіць сувязь зь імі, даць знаць, што «жыў-здароў», каб злагодзіць неяк іхную трывогу. Некалькі гадоў я ня ведаў, што бацька, хранічна хворы на жывот, загінуў недзе на вайне пад Ваўкавыскам, капаючы акопы.

---

438 Напісана адмыслова для гэтае кнігі. Пры публікацыі захаваны аўтарскі правапіс.

439 Па вайне Вадзім Сурко змяніў прозвішча на Уладзіміра Цвірку, каб не пашкодзіць сястры, якая засталася ў Беларусі.

*Стымул палітычны*

Мы з Вадзімам Сурком яшчэ ў Баранавічах, у прагімназіі, дзе нашымі настаўнікамі (а па-за школай — старэйшымі сябрамі) былі Лявон[440] і Юрка Луцкевічы[441], рана ўключыліся ў палітычную нацыянальна-незалежніцкую плынь, а па вайне ў Нямеччыне ўжо — у дзейнасьць Рады БНР. Імпэт да такой дзейнасьці ў нас, маладых, быў узмоцнены выкладчыкамі гімназіі імя Янкі Купалы[442] ды беларускім скаўтынгам.

*Стымул прафэсійны*

Ён выплываў зусім натуральна з мае журналісцкай працы ў Беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленьне» (ад 1959 г. «Свабода»). Там я пачаў працаваць увосень 1954 г. пасьля заканчэньня гістарычнага факультэту Лювэнскага ўнівэрсытэту (Бэльгія). Саветы глушылі нашы радыёперадачы аж да гарбачоўскай «перабудовы», і нам было вельмі важна ведаць, ці нас чуюць, ці слухаюць, ды як ацэньваюць перадачы.

Абагульняючы ўсё вышэй сказанае, хачу падкрэсьліць, што кантакты зь людзьмі «адтуль» і зацікаўленасьць рэчаіснасьцю «там» былі й застаюцца сэрцавінай майго індэнтытэту як чала-

---

[440] **Лявон Луцкевіч** (1922–1997), грамадска-культурны дзеяч, педагог, сын Антона Луцкевіча. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў, браў удзел у нацыянальным падполлі. У 1944 г. уступіў у Беларускую краёвую абарону. Арыштаваны савецкай дзяржбяспекай у Польшчы ў канцы 1945 г. Быў асуджаны на судовым працэсе над кіраўніцтвам Беларускай незалежніцкай партыі. Пасля вызвалення жыў у Вільні.

[441] **Юрка Луцкевіч** (1920–1992), грамадскі дзеяч, сын Антона Луцкевіча. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Вучыўся ў Варшаўскай палітэхніцы, польскай афіцэрскай школе. У верасні 1939 г. трапіў у нямецкі палон. У часе нямецкай акупацыі быў дырэктарам школы ў Радашкавічах, настаўнічаў у Баранавічах. У 1944 г. уступіў у Беларускую краёвую абарону. Быў сябрам Беларускай незалежніцкай партыі. Арыштаваны ў Польшчы ў 1945 г. Асуджаны на 25 гадоў. Пасля вызвалення жыў у Вільні.

[442] **Беларуская гімназія імя Янку Купалы** — навучальная ўстанова ў паваеннай Нямеччыне. Дзейнічала ў 1946–1950 гг. у беларускіх лагерах для перамешчаных асобаў у Рэгенсбургу, Міхельсдорфе, Віндышбергердорфе, Розенгайме.

века, мае тоеснасьці, самасьведамасьці. Без такога зацікаўленьня я быў бы зусім іншай асобай, і не-беларусам. Беларускасьць, я мяркую, вымяраецца ступеньню спалучанасьці (скантактаванасьці) з суродзічамі, са сваім народам, з Бацькаўшчынай, зь беларушчынай. Бо гэтая спалучанасьць абумоўлівае шмат якія якасьці ды ўчынкі асобы, карысныя Бацькаўшчыне.

## Кантакты з маці

Самай раньняй спробай кантакту было ў мяне, зразумела, імкненьне наладзіць сувязь зь сям'ёй, даць знаць, што я жывы. У 1948 г., калі мы з Валодзем Цьвіркам працавалі ўжо у Англіі вуглякопамі, я сустрэў там нашага знаёмага зь Міра, сп. Варгана[443]. Ён займаўся ўдома сьлясаркай, а мой дзед Сьцяпан Вільчыцкі меў кузьню, і на гэтай глебе трымалася знаёмства з Варганом. Ад Варгана я даведаўся, што ягоная дачка жыве ў Польшчы. Празь яе, схаваўшся за маю вулічную мянушку Скараход, я даў знаць маме, што я ў Англіі. Пасылаў ёй невялікія падарункі — то хустку, то настольніцу, то яшчэ што. Атрымаў ад яе кароценькі лісток. Неўзабаве выявілася, што ў Польшчы жыве з дачкою жонка майго дзядзькі, бацькавага малодшага брата, Ягора Вільчыцкага. Празь яе я наладзіў трывалую сувязь з раднёй, але ніколі не карыстаўся маім новым прозьвішчам Запруднік, ані ў ліставаньні, ані ў радыёперадачах «Свабоды». Тлумачыць тут чаму, было б лішне.

## Раньняя спроба кантакту ў Бэрліне

Яшчэ да працы ў радыё, але ўжо ў студэнцкім пэрыядзе, у жнівені 1951 г., мы з Валодзем Цьвіркам бралі ўдзел у прапагандысцкай акцыі радыё «Вольная Эўропа»[444] ў Бэрліне. Там у

---

[443] **Васіль Варган** (1886—?), грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам ЗБВБ,

[444] **Радыё «Вольная Еўропа»** (анг. *Radio Free Europe*) — радыястанцыя, заснаваная адмысловым антыкамуністычным амерыканскім камітэтам у 1949 г. для вяшчання на г. зв. краіны сацыялістычнага лагеру, ці краіны-сатэліты СССР. Праз некалькі гадоў было створана Радыё «Вызваленне» (пазней «Свабода») для вяшчання на сам Савецкі Саюз на мовах яго народаў. Абодва радыё аб'ядналіся ў 1976 г.

савецкай зоне гораду адбываўся міжнародны фэстываль «прагрэсыўнай» моладзі. Радыё «Вольная Эўропа» з гэтай нагоды заплянавала шэраг мерапрыёмстваў у заходнім Бэрліне з мэтай наладжаньня кантактаў з удзельнікамі фэстывалю. Наша з Валодзем заданьне было даць беларускамоўныя пераклады тэкстаў, напісаць адозву да ўдзельнікаў зь Беларусі, ну, і быць гатовымі, калі б трапілася нагода, паразмаўляць з маладымі беларусамі, перадаць ім інфармацыйную літаратуру. Для ўдзельнікаў гэтай акцыі — прадстаўнікоў народаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, а таксама савецкіх нерасейскіх рэспублік — праводзіліся палітычныя даклады, нарады з мэтай наладжаньня цясьнейшага супрацоўніцтва на будучыню, адбываліся супольныя сяброўскія вечары й да гэтага падобныя мерапрыемствы. Нам зь Цьвіркам занятку й работы хапала, а заадно было й вельмі цікава паўдзельнічаць у такой захапляльнай акцыі. Але спадзяваньне на сустрэчу зь беларусамі «адтуль» ня зьдзейсьнілася, калі не сказаць, што было наіўным.

### Маці-наведніца эмігранта пра аплакваньне Сталіна

Наступным, рэальным ужо, кантактам з асобай «адтуль» сталася гутарка з маці аднаго з маіх знаёмых, Часлава Ханяўкі[445], якая ў 1958 годзе прыехала ў Злучаныя Штаты да сына ў адведкі. Яна, настаўніца, жыла недзе на Будслаўшчыне ў былой Заходняй Беларусі. Мне як журналісту было цікава пагаварыць зь ёю. З таго, што я пачуў ад яе, найбольш уразіў аповед пра рэакцыю дзьвюх квантарантак-студэнтак на вестку аб сьмерці Сталіна (сакавік 1953 г.). Казала, абедзьве страшэнна рыдалі, заліваліся сьлязьмі. А мне, слухаючы гэта, у галаве не мясьцілася, што нехта можа аплакваць крывавага тырана й душагубца. Задняй датай бачыш, што тады ўжо закладалася псыхалягічная, а разам і маральная, дыстанцыя паміж так званымі «саўк**а**мі» й «нармальнымі» людзьмі. Прорва гэтая відавочная па сёньняшні дзень, калі на тэрыторыі былога сталінскага ГУЛАГу

---

445 **Часлаў Ханяўка** (1909–1988), грамадскі дзеяч. Жыў у ЗША.

праваслаўныя расейцы, а зь імі й абруселыя беларусы носяць іконы са Сталіным!

## Пісьменьнікі-дыпляматы

На працягу 1970-х–1980-х у складзе дэлегацыяў БССР на асамблеі ААН у Нью-Ёрк кожны раз прыяжджаў прадстаўнік беларускай культурнай сфэры, найчасьцей пісьменьнік. Мы зь Вітаўтам Кіпелем і прафэсарам Томасам Бэрдам[446] выкарыстоўвалі такія нагоды, каб наладзіць ва ўнівэрсытэцкім будынку сустрэчу з такім дэлегатам для дакладу пра стан беларускай культуры.

Моцна запамятаўся даклад пісьменьніка Івана Чыгрынава[447]. Даведаліся мы ад яго найбольш пра савецкую «свабоду». Дакладчык сеў за стол, разгарнуў сшыток і манатонным голасам прачытаў нам статыстыку: гэтулькі а гэтулькі вышэйшых навучальных установаў, гэтулькі клюбаў, тэатраў; кнігі выдаюцца накладамі ў дзясяткі й сотні тысячаў. Аднак, калі пачаліся пытаньні, стала відавочным, што праўды пра стан нацыянальнай культуры ад нэрвознага дакладчыка не пачуеш.

Другая памятная сустрэча з дэлегатам на Асамблею ААН адбылася праз колькі гадоў з Алесем Адамовічам[448]. Падрабязьней пра яе напісаў Вітаўт Кіпель у кнізе сваіх успамінаў «Жыць і дзеіць»[449]. Мне ж востра засела ў памяці Адамовічава празорлівае, як выяўляецца, выказваньне пра выжываньне беларускай мовы. *«Майце на ўвазе,* — сказаў ён тады, — *што беларуская мова набывае ўсё больш і больш характар мовы гарадзкой, і*

---

[446] **Томас Бэрд** (анг. *Thomas Bird*, нар. 1935), амерыканскі славіст, беларусіст, сябра БІНіМа.

[447] **Іван Чыгрынаў** (1934–1996), пісьменнік, драматург, публіцыст, Народны пісьменнік Беларусі. У 1978 г. у складзе дэлегацыі БССР удзельнічаў у рабоце XXXIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Ёрку.

[448] **Алесь Адамовіч** (1926–1994), пісьменнік і грамадскі дзеяч. Працаваў у Інстытуце літаратуры АН БССР. У 1982 г. у складзе дэлегацыі БССР удзельнічаў у рабоце XXXVII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Ёрку.

[449] Маецца на ўвазе кніга: Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць: успаміны / прадмова Янкі Запрудніка. Мінск: Зміцер Колас, 2015. — 442 с.

*прыйдзе час, калі яна пазбудзецца кляйма "вясковай", а стане мовай гарадзкой культуры ды ў гэтым статусе замацуецца».* Такое выказваньне ўсім нам, устрывожаным за долю роднае мовы, зразумела, прыпала да душы. Яно гучыць актуальна й па сёньняшні дзень як заклік, як кліч да маладых беларусаў і беларусак па цэлым сьвеце.

### Роспыты пра Сяргея Вільчыцкага (Янку Запрудніка)

Былі таксама ў Нью-Ёрку сустрэчы з БССР-аўскімі пісьменьнікамі-дыпляматамі, якія прыяджалі на асамблеі ААН з дадатковай «нагрузкай» ад адпаведных органаў. Адным з такіх выявіўся Яўген Васілёнак[450], якому было даручана пабачыцца зь Сяргеем Вільчыцкім. На сустрэчу зь ім паклікаў мяне мой сябра Вітаўт Кіпель, які працаваў у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы недалёка ад месца мае працы ў радыё «Свабода».

Васілёнак яшчэ падарозе ў рэстаран, куды ён запрасіў нас абодвух (гл. пра гэта Вітаўтаў успамін[451]), пачаў распытваць пра Вільчыцкага, а калі мы селі за стол, ён вярнуўся да гэтай тэмы і, дастаўшы з кішэні паперку з прозьвішчам Вільчыцкага, паказаў яе мне ды, пазіраючы ў вочы, кажа: маці ў пошуку яго вельмі сумуе, плача. Не маргнуўшы вокам, я адказаў, што *«так, нейкі Вільчыцкі быў калісьці ў Нью Ёрку, але некуды зьехаў».* А зусім нядаўна даведаўся, што Васілёнак быў таксама ў Саўт-Рывэры (гадзіна язды ад Нью-Ёрку) і там распытваў беларусаў пра Сяргея Вільчыцкага. Відаць, кадэбэшнікам вельмі карцела дабрацца да яго.

### Кантакты зь «Песьнярамі»

У самым канцы 1976 г. і пачатку 1977 г. славутыя беларускія «Песьняры» гастралявалі па Амэрыцы, але не асобна, а супольна з амэрыканскім гуртом *«New Christi Minstrels»*[452], і не па вялікіх

---

[450] **Яўген Васілёнак** (1917–1973), пісьменнік. У 1958–1966 гг. быў галоўным рэдактарам часопіса «Нёман».

[451] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць: успаміны… С. 273–274.

[452] ***New Christi Minstrels*** — амерыканская фольк-група, заснаваная Рэндзі Спарксам у 1961 г. Іх дэбютны альбом у 1962 г. атрымаў узнагароду «Грэмі».

гарадах, а па прывінцыяльных. Зразумела, гэтае мерапрыемства было санкцыянавана ўрадамі з абовух бакоў. Гэтак рабіліся крокі да паразуменьня-збліжэньня ў выніку падпісанага ў 1975 г. Гэльсінскага пагадненьня.

Пра канцэрты «Песьняроў» шмат пісалі амэрыканскія мясцовыя газэты. Мне, рэпартэру Радыё «Свабода», вельмі хацелася мець ня толькі выразкі зь мясцовых газэт з рэпартажамі пра гастролі, але й доступ (тэлефонны) да самых сьпевакоў. Я ведаў, што ім вельмі хочацца ведаць, якія пра іх водгукі. Давай, думаю, патэлефаную ім у гатэль. Але, добра разумеючы, што ім было небясьпечна кантактавацца з Арсенем Загорным (мой псэўдонім у РС), карэспандэнтам радыёстанцыі, якую савецкая цэнзура глушыла, я патэлефанаваў ім як «Павал Янкоўскі», карэспандэнт ньюёркскага «Беларуса». Трубку падняў кампазытар Ігар Лучанок (што гэта быў Лучанок, я даведаўся шмат гадоў пазьней у Беларусі ад самога Лучанка, які езьдзіў разам са сьпевакамі). Мне прыемна было пачуць мяккую родную мову суразмоўцы. Ён быў вельмі рады пачуць, што гастролі выклікаюць прыхільныя водгукі. У нас з Лучанком адбылося зь дзясятак гутарак, у якіх я цытаваў у перакладзе з газэтных матэрыялаў пра вельмі пасьпяховае турнэ бардаў. Усім ім, я перакананы, мусіла быць прыемна даведацца, што, прыкладам, у ньюёркскай газэце NEWS (12-XII-76) загаловак артыкулу пра гастролі гучэў так: «Жалезная заслона распахнута абдымкам, пацалункам і песьняй». Прызнайма: сказана ня толькі праўдзіва, але й вельмі паэтычна!


PESNYARY, a Soviet group is now touring the U.S. with The New Christy Minstrels, an American group. They dig each other.

The Iron Curtain is parted by a hug, a kiss and a song

By DON NELSEN

HOW DO you kiss a stranger? How do you raise a curtain which is invisible yet iron enough to make a first mutual hello between different people awkward?

It was no trouble at all for Pesnyary, the first Soviet pop-folk group to appear in the U.S., and the New Christy Minstrels, the American folk singers


hair and mustache. Alexander Sergeyevich Demeshko, percussionist and the most jovial of the Ps, walked down the aisle of the bus as it whizzed through the fir-studded mountains of northern Virginia and distributed souvenir pins from Minsk and Brest. Mine read: "Long life to the Soviet Army." Okay, as long as it lets me alone.

Bill Brawley, a veteran Greyhound driver whose

*Нью-Ёркская газета «Ньюз» з артыкулам пра гастролі «Песняроў»*

Зусім зразумела, што ў маіх радыёрэпартажах я ні словам не абмовіўся, што кантактаваў зь «Песьнярамі». Гэта было б супраць строгага правіла — дый супраць майго

ўласнага разуменьня сытуацыі: ня ставіць пад небясьпеку з боку савецкай улады людзей за іхныя лішнія кантакты за межамі краіны.

Пра «Паўла Янкоўскага» я прызнаўся Ігару Лучанку недзе ў сярэдзіне 1990-х, калі мы зь ім спаткаліся ў Менску. Дарэчы, я захоплены ягонымі задушэўнымі песнямі. Пачуўшы пра «Янкоўскага», Ігар моцна зьдзівіўся, прыхільна засьмяяўся ды запрасіў мяне ў сваю лазьню. Я шчыра падзякаваў, але час не дазволіў скарыстаць зь ягонай ветлівасьці.

## Вершы «адтуль» праз французскую дыпляматку з Варшавы

Аднойчы ў 1982 г. рэдакцыя «Беларуса» атрымала канвэрцік з Парыжа, а ў ім — восем старонак рукапіных вершаў. На адвароце залучанай візытоўкі незнаёмая жанчына напісала па-польску:

*«Шаноўная Рэдакцыя.*

*Залучаю перададзеныя мне сп. Жамойцінам*[453] *вершы паэта, які піша пад псэўдонімам Зьніч. Маю яшчэ для перасылкі Беларускі Каляндар. Усякую карэспандэнцыю прашу пасылаць на мой адрас на польскай мове, нямецкай або па-француску. — Д(анута). Магнэты (Magnetti)».*

Рукапіс вершаў канчаўся месцам і датай: Мінск, 1981. Я апублікаваў іх у «Беларусе» (№ 303–304, 1982) пад заг. «Вершы з таго боку». А неўзабаве пасьля гэтага — якое супадзеньне! — у выдаваным для замежных суродзічаў менскім «Голасе Радзімы» (№ 31, 5-VIII-82) зьявіўся ключ для расшыфроўкі «Зьніча». «Голас» у рубрыцы «Новыя вершы» зьмясьціў, разам зь вершамі іншых паэтаў, чатыры

Szanowna Redakcjo,
Załączam przekazane mi przez P. Zamojcina wiersze poety piszącego pod pseudonimem „Znicz"
Mam jeszcze do przekazania Kalendarz Białoruski. Wszelką korespondencję proszę kierować na mój adres w jęz. polskim, niem. lub francuskim.
D. Magnetti

*Адваротны бок візітоўкі, далучанай да рукапісу вершаў Зніча*

---

[453] **Янка Жамойцін** (1922–2003), пісьменнік-публіцыст, грамадскі дзеяч. У 1949–1956 гг. знаходзіўся у савецкіх лагерах. Ад 1957 г. жыў у Варшаве. Скончыў Варшаўскі ўнівэрсітэт. Займаўся літаратурнай творчасцю, быў актыўным удзельнікам беларускага жыцця ў Польшчы.


-1-
Аўтар: Зьніч
Рэха малітвы
.... па-за зямнымі багацьцямі,
за ўзнагародай і карай
шэпчуцца рыфмы з паняцьцямі
там, дзе адвольныя мары....
... вякі плывуць ...
а Ён
— раскрыжаваны
жывы ...
і род людзей
ляніва
апантаны
не мае сілы
зняць яго
з крыжа..
.... Бясконца
— вечны цяжар і пакута...
ўсё да рэшты —
самота...
нябыт...

*Старонка рукапісу верша Зніча*

страфы Алега Бембеля, зь якіх чацьвертая была таксама ў тым Зьнічовым «польска-парыскім» рукапісе.

Па-за зямнымі багацьцямі,
за ўзнагародай і карай
шэпчуцца рыфмы з паняцьцямі
там, дзе адвольныя мары.

У 1988 г., коштам Фундацыі імя П. Крэчэўскага, я выдаў з прадмовай атрыманыя Зьнічовы вершы асобнай кніжыцай (36 старонак) пад заг. «Рэха малітвы» (загаловак першага зь вершаў). У прадмове зазначана, што яны *«друкуюцца бязь ведама й згоды аўтара»*[454].

На пачатку 1990-х мы з Алегам Бембелем, пазнаёміліся ў Менску, пасябравалі. Калі яго гарадзкія ўлады выкідалі з бацькоўскага дому, у 1994 г. я апублікаваў на ягоную просьбу артыкул у «Беларусе» ў спробе дапамагчы яму абараніць сваё права на дом бацькі, заслужанага архітэктара. Адстаяць сваё права на дом яму, на жаль, не ўдалося.

**Генадзь Бураўкін з «падпалкоўнікам» на радыё «Свабода»**

Перабудовачныя працэсы ў Савецкім Саюзе й нацыянальна-дзяржаўніцкае адраджэньне ў Беларусі значна аблягчылі й прысьпешылі паразуменьне паміж беларусамі «адтуль» і беларусамі «адгэтуль». І якая іронія гісторыі! Пасьля дзесяцігодзьдзяў амаль суцэльнай нематы й траскатні глушылак на другім баку «жалезнай заслоны» насталі часы, калі я, працуючы на радыё «Свабода», мог ня толькі бліжэй кантактаваць з дыпляматамі

[454] Гл.: Зьніч. Рэха малітвы: Вершы зь Беларусі. Нью-Ёрк: выдавецтва «Беларус», 1988. — 34 с.



*У Беларускай рэдакцыі радыё «Свабода» ў Нью-Ёрку (справа налева): Генадзь Бураўкін, Уладзімір Сакалоўскі і падпалкоўнік*

«адтуль», але й запрасіць кіраўніка беларускай місіі пры ААН да мікрафону РС на інтэрвію. Праўда, зрабіць гэта можна было не без прысутнасьці «палкоўніка».

На самым пачатку 1990-х, калі гарбачоўская «перабудова» была ўжо ў поўным размаху, а беларускую місію пры ААН узначальваў патрыёт сваёй радзімы Генадзь Бураўкін[455], мы, амэрыканскія беларусы, мелі даволі свабодныя й частыя кантакты, афіцыйныя й прыватныя, зь беларускімі дыпляматамі. Сувязь гэтая замацоўвалася рознымі спосабамі, у тым ліку, падарункамі дапляматам кнігаў ды мастацкіх твораў на ўдэкараваньне офісаў і памешканьняў, прыкладам, кансуляту Рэспублікі Беларусь і Беларускай місіі пры ААН на 67-й вуліцы ў Мангатэне.

Аднойчы я папытаўся ў Бураўкіна, ці не згадзіўся б ён даць інтэрвію ў беларускай праграме Радыё «Свабода». Ён сказаў, што «падумае». А пасьля колькіх дзён кажа, што так, можна

[455] **Генадзь Бураўкін** (1936–2014), паэт, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. У 1990–1993 гг. быў афіцыйным прадстаўніком Беларусі ў ААН.

будзе пагаварыць, але ён прыйдзе ня сам. Ну што ж, гэта не перашкода.

З Бураўкінам прыйшло двух: Уладзімір Сакалоўскі, які займаўся справамі пратаколу, і другі Ўладзімір (прозьвішча, на жаль, не захавалася ў памяці), пра якога мне сказалі, што ён «падпалкоўнік». Ну, з гэтым усё ясна: без такіх не абыходзяцца ніякія дыпслужбы.

Я запэўніў Бураўкіна яшчэ раз, што мы з Адамам Акулічам, штатным супрацоўнікам Беларускай рэдакцыі, ніякіх правакацыйных пытаньняў задаваць ня будзем, гутарка будзе мець характар чыста інфармацыйны: пра бягучыя падзеі ў Беларусі ды міжнародныя кантакты. Калі дайшло да адказу так-ці-не, Бураўкін, бачу, зірнуў на падпалкоўніка, той лёгка кіўнуў галавой, і мы ўсе пайшлі ў студыю запісаць інтэрвію (ньюёрскія перадачы РС запісваліся тады спачатку на стужку). Інтэрвію «на тэму дня» прайшло спакойна безь ніякіх інцыдэнтаў. Шкадую, што не захавалася копія яго.



*У студыі РС перад пачаткам запісу інтэрв'ю з Генадзем Бураўкіным (злева направа): падпалкоўнік, Адам Акуліч, Янка Запруднік, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Сакалоўскі. Фота з бюлетэня «Кароткія хвалі» Радыё «Вольная Эўропа» / Радыё «Свабода»*

## Абмежаваная «нармалізацыя» кантактаў

Пачынаючы з 1990 г. кантакты зь людзьмі «адтуль» пачалі паступова нармалізавацца. У шырокім сэнсе, катэгорыі «адтуль» і «адгэтуль» страцілі сваю палярнасьць, хоць кантрасты засталіся і дасюль ня сьцерліся. Быў час у пачатку й сярэдзіне 1990-х, калі ў Злучаныя Штаты, найбольш у Нью Ёрк, прыязджалі дэпутаты Вярхоўнага Савету, палітыкі, журналісты, культурныя дзеячы, артысты, мастакі, шукальнікі дабрадзеяў на дапамогу ахвярам Чарнобыля, а сярод іх цімала й розных дзяльцоў дзеля свае нажывы. Амэрыканскія беларусы, «галодныя» на сустрэчы з суродзічамі, былі радыя кожнаму земляку й асабліва сардэчна прыймалі прадстаўнікоў БНФ, актывістаў адраджэнскага руху. Разам з кантактамі наладзілася супрацоўніцтва, якое дало немалы плён на культурнай і гуманітарна дапамаговай ніве. Але з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі настаў «карэкцыйны» пэрыяд, што трывае дасюль, зь ягонымі патэнцыяльнымі магчымасьцямі й абмежаваньнямі.

# ШТО СКАЗАЎ БОГ БЕЛАРУСУ[456]

## І сказаў Бог беларусу... (1)

1. І сказаў Бог беларусу: Я стварыў цябе паводле вобразу й падабенства Майго, удыхнуў у цябе дыханьне жыцьця й зрабіў цябе душою жывою.

2. Я даў табе розум, і волю, і працавітасьць, каб ты карыстаўся імі дзеля дабра бліжніх сваіх.

3. Прыглядайся да навакольля. Бач, як стварэньні Мае множацца паводле роду іхняга: усякае быльлё, кустоўе, дрэвы, усякая рыба, жывёла й птушка крылатая, і плямёны людзкія — усё працягваецца паводле роду іхняга.

4. У разнастайнасьці прыроды — Мая сутнасьць. Будзь верны ёй, стварай паводле роду свайго й будзеш дабраславёны за гэта.

5. Я ўдыхнуў у цябе здольнасьць называць рэчы й зьявы сваімі імёнамі, каб захоўвалася повязь паміж табой і тваімі нашчадкамі.

6. Нашчадкі будуць тваім замагільным жыцьцём, будуць перахоўваць тваю вечнасьць.

7. Рух і тварэньне — існасьць усяго жывога. У руху й тварэньні ты будзеш апраўдваць сваё існаваньне, свой боскі пачатак.

8. Я даў табе жанчыну як спадарожніцу на тваім зямным шляху.

9. Вы й дзеці вашы будзеце працягваць Маю працу — тварыць паводле вобразу й падабенства вашага. І зямля ваша будзе ў дастатку.

10. Тое, што вы створыце, будзе вашым Эдэмам, у якім Я пастаўлю дрэва жыцьця, каб квітнеў і ня зьвёўся род ваш.

11. Закладаю ў вас энэргію й творчы талент, каб вы ўзбагачалі Маё тварэньне. Вы будзеце ўнікальныя ў Маім шматстайным сьвеце й будзеце адказныя за захаваньне шматстайнасьці.

12. Узнагародай вам за вернасьць Маім запаветам будзе радасьць творчай працы й быцьцё працягам Мяне Самога.

*Вычытана зь Біблії ў верасьні лета Божага 2006*

---

[456] Тэкст публікаваўся на сайце газеты «Наша Ніва». Гл.: http://nn.by/?c=ar&i=4418.

## І сказаў Бог беларусу... (2)

*Да 100-годзьдзя «Нашай Нівы»*

1. І сказаў Бог беларусу: дзьве найгалаўнейшыя рэальнасьці пакладзены ў аснову Майго сьвету — чалавек і народ. Імі вымяраецца Мой лад на зямлі.

2. На шырокіх прасторах Майго валадарства Я стварыў мноства языкоў, і ніводзін зь іх ня лішні.

3. Гукі розных моваў мілыя Мне. Яны зьмяшчаюць у сабе сутнасьць Майго творчага акту, існасьць Мае творчае *Свабоды*.

4. Мова твая — паказальнік Мае прыхільнасьці да цябе. Шануй яе, як Мой сьвяты дар табе.

5. У мове тваёй закладзены гукі й хварбы зямлі, на якой ты жывеш. Мова твая — голас Мае прыроды.

6. Мовай сваёю ты будзеш услаўляць Мяне, каб прыймальнай была твая ўдзячнасьць Мне.

7. У аснову запавету пра шанаваньне прародзічаў Я паклаў перахоўваньне мовы продкаў, каб душы іхнія маглі спачываць спакойна.

8. Праз мову ты будзеш трымаць лучнасьць з прашчурамі да саракавога калена й глыбей у вякі. У мове — твая й тваіх нашчадкаў вечнасьць. Памятай пра гэта, узгадоўваючы дзяцей сваіх.

9. У цябе будуць цэлыя пакаленьні тварцоў мовы, ахоўнікаў Маёй духовасьці. Гукамі мовы ты перадасі самыя глыбінныя пачуцьці свае несьмяротнае душы, самыя высокія ўзьлёты творчае думкі.

10. Па мове тваёй будуць пазнаваць цябе іншыя народы.

11. Творчасьць словамі, якія Я даю табе на зямны шлях, будзе сьведчаньнем твае вернасьці Мне. За гэта Я ўзнагароджу цябе квітненьнем культуры й духовай сілаю ды павагай сярод усіх языкоў Маіх.

12. Як прадаўжальніку вечнасьці аднаго з Маіх народаў Я закладаю ў тваю душу адчуваньне волі, каб ты ніколі не забываўся, што *мова — Свабоды аснова*.

*Вычытана зь Біблії ў кастрычніку лета Божага 2006*

# МАНІФЭСТ ТУТЭЙШАГА,
# або КАНТЫНЭНТ ДУШЫ

Ваганьне **паміж** Захадам і Ўсходам і шчырая няпрыхільнасьць ні да аднаго, ні да другога зьяўляецца асноўнаю адзнакаю гісторыі беларускага народу.

*Ігнат Абдзіраловіч*[457]

Беларусь павінна стаць **мостам**, які зьвязвае Ўсход і Захад.

*Аляксандар Лукашэнка*[458]

Рэспубліка Беларусь знаходзіцца **паміж** двума цэнтрамі ўплыву — Эўразьвязам і Расеяй.

*Сяргей Мартынаў*[459]

Гэта «між» залезла ў косьці,
Пакуляла ўсё ўверх дном.
Правяць баль у хаце госьці,
Гаспадар жа — пад сталом.

*Сяргей Законьнікаў*[460]

Каб быць ПАМІЖ, трэба спачатку БЫЦЬ. Битаваньне ПАМІЖ шкодзіць самому БЫЦЬЦЮ, пазбаўляючы яго паўнаты. ПАМІЖнасьць — гэта памежнасьць, пэрыфэрыйнае існаваньне й мысьленьне.

МОСТ гэта — месца транзыту, а не бытаваньня. На ім не спыняюцца, па ім толькі рухаюцца да іншага берагу.

---

[457] Ігнат Абдзіраловіч. Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветагляду. Мінск: Навука і тэхніка, 1993. С. 9.

[458] Аляксандр Лукашэнка, прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, у пасланні да народу 23.04.2009.

[459] Сяргей Мартынаў, міністр замежных справаў Рэспублікі Беларусь, у інтэрв’ю венскаму выданню *Der Standard*. Радыё «Свабода», 08.02.2010.

[460] З верша Сяргея Законнікава «Між Варшавай і Масквой» у кнізе «Дол».

Ёсьць геаграфія прасторы й геаграфія душы. У геаграфіі душы няма ПАМІЖнасьці, няма МАСТОЎ, уся духовая прастора запаўняецца ТУТнасьцю. Сутнасьць ТУТнасьці у цэнтрызьме мысьленьня. Цэнтрычнае мысьленьне накіроўвае думку й пачуцьці на БЕЛАРУСЬ, а не на ПАМІЖнасьць і не на МОСТ. Я, ТУТны беларус, не хачу быць на ПАМІЖным МОСЬЦЕ, хачу быць ТУТ — на духовым КАНТЫНЭНЦЕ, сучаснае імя якому – БЕЛАРУСЬ.

ТУТнасьць завастрае адказнасьць за долю Бацькаўшчыны, узбуджае творчую думку, працуе на будучыню праз надаваньне поўнацэннасьці гістарычнай рэтраспэктыве, замацоўвае адчуваньне прысутнасьці.

ТУТ — гэта зямля й жыцьцёвы лад, у якім жылі мае продкі. ТУТ — гэта мова, якую яны тварылі й якой я карыстаюся. ТУТ — гэта магілы прашчураў, што лучаць мяне з народам як гістарычнай адзінкай. ТУТ — гэта мае́ мастацкія каштоўнасьці й эстэтычныя густы, мае́ формы, колеры, вузоры, творчыя вытокі й імпульсы. Пакуль жыву, буду ТУТнічаць, буду памятаць, што мой быційны цэнтар — гэта ўвесь кантынэнт народнай душы.

Народ зьяўляецца біялягічна-сацыяльнай рэальнасьцю, якая пры зьменлівых формах захоўвае гістарычную цягласьць. У якой бы ладавай структуры ні бытавалі мае продкі, я неразлучна спалучаны зь імі. Я — акумулятар іхняй быційнай і творчай энэргіі. Я, ТУТны беларус — біялягічны й духовы спадчыньнік стагодзьдзяў, я — сувязны[461] мінуўшчыны й будучыні.

Новыя формы жыцьця паўстаюць на духовай глебе, апрацаванай продкамі. Зьменлівасьць гістарычных формаў бытаваньня не мяняла іхняе ТУТнасьці, іхняе сувязі зь зямлёй, якую яны любілі й баранілі ды якую я маральна абавязаны перадаць нашчадкам.

---

461 Быць «сувязным мінуўшчыны й будучыні» — гэта быць не «паміж» чужымі берагамі, а быць у цэнтры свайго гістарычнага працэсу, дбаючы захоўваць і мацаваць спалучанасць пакаленняў народа.

Культурныя элемэнты, перанятыя зь іншых духовых кантынэнтаў, у моц іхняга прыняцьця, становяцца кампанэнтамі маёй культуры, арганічнай часткай маёй ТУТнасьці. У век глябалізацыі не ўцячэш ад вонкавага сьвету. Дык не ўцякайма — праз МОСТ — ад сябе саміх!

Наша месца на Кантынэнце Беларускай Душы.

*2010–2015*

*Янка Запруднік*

# ІМЕННЫ ПАКАЗНІК

# ЗМЕСТ

*Здымак на вокладцы з архіва Анатоля Клешчука.*

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэка Бацькаўшчыны
Кніга 30

**КАНТАКТЫ:**
**сіла прыцягнення Бацькаўшчыны**
*(Да 90-годдзя Янкі Запрудніка)*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Наталля Гардзіенка
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Дызайн вокладкі Яўгеніі Багдановіч
Карэктар Міраслава Шавыркіна

Падпісана да друку 23.05.2016. Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 14,7. Ул.-выд. арк. 11,33.
Наклад 300 асоб (1-ы з-д 1–250). Замова 194.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.